• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

22 чэрвеня 1996 г. субота, №№ 158 — 159 (22961 — 22962)

# ЗВЯЗДА



*АКЦЫЯ*

## НЯХАЙ НАМ НІКОЛІ НЕ БУДЗЕ СОРАМНА ПЕРАД ТЫМІ, ХТО ПЕРШЫМ СТАЎ НА АБАРОНУ РАДЗІМЫ АД «КАРЫЧНЕВАЙ ЧУМЫ»

Наўрад ці Брэсцкі аблвыканком разлічваў, што яго ініцыятыва аб правядзенні тэлерадыёмарафону з мэтай прыцягнення сродкаў на рэстаўрацыю мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой» дасягне такога размаху. Тым не менш, з лёгкай рукі міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі (МТРК) «Мір», Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Беларусі і Кабінета Міністраў рэспублікі ініцыятыва брэстаўчан знайшла шырокі водгук у першых асоб дзяржавы. У горад над Бугам 22 чэрвеня прыбудуць Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір.

**(Заканчэнне на 5-й стар.)**

## МІНСККОМПЛЕКСБАНК АБ'ЯДНОЎВАЕЦЦА З БЕЛЗНЕШЭКАНОМБАНКАМ?

Зараз можна амаль з дастатковай упэўненасцю сцвярджаць, што працэс у гэтым накірунку ўжо пайшоў. Першым банкам, які зробіць крок ад самастойнай фінансавай установы да звычайнага філіяла з пэўнымі абмежаваннямі, стане Мінсккомплексбанк.

У якасці банка-гаспадара, пад чыім дахам плануе аб'яднацца Мінсккомплексбанк, Не пакідае сумненняў факт канцэнтрацыі банкаўскага капіталу і ўзбуйнення асобных банкаў шляхам далучэння да сябе слабейшых. Між іншым, толькі па асобных паказчыках Мінсккомплексбанк уступае элітнай шасцёрцы.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**№ 216**

### АБ ПЕРАЎТВАРЭННІ ДЗЯРЖАЎНАГА АКАДЭМІЧНАГА ВЯЛІКАГА ТЭАТРА ОПЕРЫ І БАЛЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У мэтах далейшага развіцця музычна-тэатральнага мастацтва Беларусі, стварэння найбольш спрыяльных умоў для творчасці дзеячаў опернага і балетнага мастацтва **пастанаўляю:**

1. Пераўтварыць Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь у творчае аб'яднанне «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь» са стварэннем у структуры ўказанага аб'яднання Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Рэспублікі Беларусь з правамі юрыдычнай асобы.

Уключыць Мастацка-эксперыментальны тэатральны камбінат г. Мінска ў структуру творчага аб'яднання «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь».

Міністэрству культуры ў двухмесячны тэрмін ажыццявіць мерапрыемствы, звязаныя з пераўтварэннем Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь і зацвердзіць статуты творчага аб'яднання і юрыдычных асоб, якія ўваходзяць у яго структуру.

2. Міністэрству культуры перадаць будынак творчага аб'яднання «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь» у аператыўнае ўпраўленне Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

3. Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сумесна з Мінскім гарвыканкомам і Міністэрствам культуры разгледзець магчымасць рэстаўрацыі і рэканструкцыі будынка творчага аб'яднання «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь».

4. Міністэрству працы сумесна з Міністэрствам фінансаў у месячны тэрмін устанавіць умовы аплаты працы работнікаў творчага аб'яднання «Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь», прадугледзеўшы павышэнне дзеючых службовых акладаў у сярэднім у 1,7 раза.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**

19 чэрвеня 1996 г., г. Мінск.



## ОРША. НАВЕЙШАЯ ГІСТОРЫЯ

**Што не ў стане зрабіць дзяржава, часам зусім па сіле некальнім чалавекам. Яшчэ раз гэта даказалі аршанскія энтузіясты-пошукаўцы з клуба «Русічы».**

**Вясною мінулага года каля вёскі Гразнаўка імі пастаўлены крыж — як помнік закатаваным фашыстамі аршанцам. У гэтым месцы ў 1944 годзе адбываліся масавыя забойствы. Мясцовыя жыхары сёетое ведалі і памяталі пра магілы ва ўрочышчы, але за 50 гадоў рукі ў дзяржавы не дайшлі да спраў ушанавання памяці загінуўшых.**

**(Заканчэнне на 5-й стар.)**

# ЧОРНЫ СВІТАНАК

**22 чэрвеня 1941 года Беларусь першай прыняла магутны ўдар, накіраваны гітлераўскай Германіяй на Савецкі Саюз. Адгалоскі таго чорнага ранку чуваць і зараз, праз 55 гадоў...**

**Нямецка-фашысцкія акупанты прынеслі на нашу зямлю смерць, кроў, слёзы. Яны руйнавалі нашы гарады і стваралі канцэнтрацыйныя лагеры. Палілі нашы вёскі — разам з жыхарамі. Гвалтавалі жанчын, наладжвалі «медыцынскія» эксперыменты над дзецьмі... Нам, беларусам, фашысты гатавалі зусім незайздросную долю. Нацысцкая палітыка ажыццяўлялася пад лозунгам «прастора без народа», які і абумовіў знішчэнне «ніжэйшых рас». Вызваленыя ад неарыйскага насельніцтва землі планавалася засяліць нямецкімі каланістамі, каб квітнелі трэці рэйх і раса гаспадароў. Беларусь успрымалася не інакш, як будучая калонія. З нямецкім педантызмам было падлічана, колькі неабходна пакінуць насельніцтва, каб забяспечыць сабе бесклапотнае існаванне на акупіраванай тэрыторыі. Фашыстам патрэбен быў увесь наш край пры мінімуме нашага насельніцтва...**

**Асэнсоўваючы лета 41-га з вышыні часу, ужо ў рамках новай геапалітычнай арыентацыі, калі ўяўленне аб Айчыне гранічна ўдакладнілася і канкрэтызавалася — гэта суверэнная Беларусь, — падзеі таго чорнага ранку ўспрымаюцца яшчэ больш балюча і трагічна. Таму што маленькая Беларусь ужо к канцу чэрвеня 41-га магла падзяліць долю многіх краін, якія былі зняволены фашыстамі ў лічаныя дні. Я не разумею, чаму сёй-той, настойліва крытыкуючы «строга дазіраваную галоснасць» мінулага, сам прыпадабляецца да манкуртаў, рэдка ўзгадваючы (быццам бы саромеючыся?..), што калі б не адзіная магутная дзяржава — Савецкі Саюз — невядома, колькі стагоддзяў працягвалася б на нашай зямельцы фашысцкае іга — і ці было б наогул «Кулікова поле» ў XX стагоддзі?.. Так, гісторыя не мае ўмоўнага ладу, і ўсё ж, і ўсё ж... Ваенная бяда была агульнай для народаў усіх рэспублік СССР: мы разам змагаліся з ворагам. Нас і сёння, у эпоху татальнага раз'яднання, аб'ядноўвае агульная трагічная старонка гісторыі, калі ўсе народы вялікай дзяржавы былі сапраўды братамі і сёстрамі.**

**Вайна, як лакмусавая паперка, праявіла вышыні чалавечага духу і нізасць чалавечага падзення. Зараз, калі гучаць цынічныя рэплікі, што, маўляў, не патрэбна нам была Перамога, — хочацца запытаць у такога прамоўцы: чый жа ты нашчадак?..**

**Яшчэ адзін чорны след вайны — у душах людскіх. Дзе не было фашызму, там не было ні паліцаяў, ні здраднікаў. Не было духоўнага разбэшчвання акупацыяй. І за гэта — таксама праклён фашызму.**

**Зараз фашызм параўноўваюць з іншымі «ізмамі» — сталінізмам, камунізмам... Але не будзем забываць, што кожнае параўнанне мае ўмоўны характар. А 55 гадоў назад чэрвеньскім ранкам на нашу Радзіму паквапіўся ўласна фашызм — калі можна так сказаць, ва ўсёй «чысціні» свайго праяўлення. Аб ахвярах яго напамінаюць і званы Хатыні, і цяжкі лёс мацярок, сірот, удоў, балючыя раны ветэранаў...**

**Таццяна ПАДАЛЯК.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ЗАРАБОТНАЯ ПЛАТА — ПЕРШАЧАРГОВЫ ПЛАЦЕЖ

**Графік работы сесіі Вярхоўнага Савета ў пятніцу прадугледжвае пленарнае пасяджэнне толькі ў першай палове дня. Але нягледзячы на гэта ўчарашні дзень стаў параўнальна выніковым: прыняты тры новыя законы.**

Першы датычыцца трансплантацыі органаў тканак чалавека. Пасля прыняцця гэтага акта ў першым чытанні свае прапановы і заўвагі ў Камісію па ахове здароўя прадставілі іншыя пастаянныя камісіі Вярхоўнага Савета, а таксама дэпутат Валерый Шчукін. Дарэчы, практычна ніводная з паправак дэпутата так і не была адобрана большасцю Вярхоўнага Савета. Старшынствуючы на сесіі Генадзь Карпенка, убачыўшы такую тэндэнцыю, нават прапанаваў В. Шчукіну зняць свае папраўкі, каб не затрымліваць работу сесіі, на што прадстаўнік фракцыі камуністаў моцна абурыўся. Не атрымалі падтрымкі і некаторыя прапановы камісій, таму законапраект быў прыняты амаль без змяненняў у тым выглядзе, у якім яго прадставіла камісія пад кіраўніцтвам сп. Белякова.

У самым пачатку ўчора пленарнага пасяджэння беларускі парламент паспрабаваў прыняць закон аб наданні заработнай плаце статусу першачарговага плацяжу, на чым вось ужо некалькі тыдняў запар асабліва настойвае дэпутат Аляксандр Бухвостаў, адзін з вядомых прафсаюзных лідэраў Беларусі. Як вядома, у Мінску каля Дома ўрада некалькі дзён нават выстаўляўся пікет з гэтым патрабаваннем. Але з раніцы спроба змяніць арт. 79 Закона «Аб прадпрыемствах у Беларускай ССР» не дала чакаемага выніку. І толькі вярнуўшыся да пытання ў сярэдзіне дня, парламент заканадаўча аформіў статус заработнай платы ў якасці першачарговага плацяжу.

Нарэшце, трэцім дасягненнем стала адабрэнне законапраекта, Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя нарматыўныя акты па раздзяржаўленню і прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці». Гэты дакумент прадставіў старшыня Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах Васіль Шлындзікаў.

Не адбылося ўчора абмеркавання пастановы Вярхоўнага Савета адносна парламенцкіх слуханняў па факту абстрэлу аўтамабіля Віктара Ганчара 14 чэрвеня. Тры дні таму парламент падрабязна разгледзеў гэты інцыдэнт, заслухаўшы ўсе бакі, замешаныя ў начным здарэнні, і даручыў Камісіі па нацыянальнай бяспецы і барацьбе са злачыннасцю распрацаваць праект адпаведнай пастановы, каб прыняць яе 21 чэрвеня. Праект быў падрыхтаваны, але па нейкіх прычынах абмеркаванне яго так і не адбылося. Трэба чакаць, што працяг тэма атрымае на наступным тыдні, калі Вярхоўны Савет зноў збярэцца на сесію. Дарэчы, плануецца, што 25—28 чэрвеня парламентарыі разгледзяць больш як 35 пытанняў парадку дня першай сесіі. Частка з іх — гэта законы для паўторнага абмеркавання, якія не падпісаўшы вярнуў Прэзідэнт. Трэба адзначыць, што на наступным тыдні будуць заслуханы справаздачы дзвюх часовых камісій, якія расследуюць акалічнасці затрымання дэпутата Паўла Знаўца і акалічнасці падзей 26 красавіка і 30 мая, будзе абмеркавана пастанова «Аб Статуце рэдакцыі «Народнай газеты». Акрамя таго, прызначаны парламенцкія слуханні аб асноўных напрамках эканамічнай палітыкі Рэспублікі Беларусь.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## БЕЛАРУСЬ—ПОЛЬШЧА: КАНТАКТЫ ПАШЫРАЮЦЦА

Рабочая сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёна Шарэцкага з маршалам Сейма Рэспублікі Польшча Юзафам Зыхам адбылася 20 чэрвеня ў Нарэўку.

У ходзе перагавораў абмеркаваны стан беларуска-польскіх адносін па самаму шырокаму спектру: ад пытанняў пагранічных пераходаў да становішча нацыянальных меншасцей. Ю.Зых выказаў намер падтрымаць Рэспубліку Беларусь пры ўступленні яе ў Савет Еўропы. Разгледжаны праблемы беларускамоўнай школы ў Польшчы і польскамоўнай — у Беларусі.

Бакі пацвердзілі, што адносіны паміж Беларуссю і Польшчай будуць будавацца на прынцыпах неўмяшання ва ўнутраныя справы адна адной, павагі суверэнітэту і цэласнасці дзвюх дзяржаў. Была дасягнута дагаворанасць аб правядзенні ў другой палове верасня ў Варшаве «круглага стала» з удзелам заканадаўцаў Польшчы і Беларусі па праблемах еўрапейскай бяспекі, супрацоўніцтва і ўмацавання інтэграцыі на кантыненце.

Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шарэцкі запрасіў маршала Сейма Ю.Зыха наведаць у ліпені бягучага года з рабочым візітам Рэспубліку Беларусь. У сваю чаргу, кіраўнік польскага парламента запрасіў С.Шарэцкага наведаць з візітам Польшчу ў прымальны для беларускага боку час.

Старшыня Вярхоўнага Савета С.Шарэцкі і старшыня Камісіі па міжнародных справах П.Краўчанка, які прымаў удзел у перагаворах, наведалі музей беларускай культуры ў Гайнаўцы.

**Рэспублікі Беларусь — БЕЛТА.**

## НЕ ЗГАСНЕ ЛАМПАДА ДУХОЎНАСЦІ

**Як паведаміла карэспандэнту БЕЛТА парламенцкая прэс-служба, Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі пабываў у майстэрні свайго земляка жывапісца Кастуся Качана.**

Кіраўнік парламента азнаёміўся з творчасцю мастака, прысвечанай Навагрудчыне і роднаму Лаўрышаву — аднаму з вядомых духоўных і культурных цэнтраў Беларусі, у якім у XIII стагоддзі быў узведзены праваслаўны манастыр і дзе падзвіжнічаў святы Елісей Лаўрышаўскі.

Закрануўшы ў гутарцы з майстрам тэму ўзаемаадносінаў мастака і грамадства, Сямён Шарэцкі адзначыў, што, нягледзячы на цяперашнія эканамічныя цяжкасці і звязаны з гэтым крызіс у галіне культуры, стваральны дух творчасці ў гэтай сферы не змяншаецца. Старшыня Вярхоўнага Савета выказаў упэўненасць: у бліжэйшай будучыні ў Беларусі з'явяцца дастойныя музеі нацыянальнага і сучаснага мастацтва, новыя ачагі духоўнасці і культуры, адродзяцца яе шматлікія унікальныя помнікі архітэктуры.

**БЕЛТА.**

## АДКАЗ МІНІСТРА НА ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

У сувязі з апублікаваннем у Вашай газеце ад 20 чэрвеня гэтага года ліста, падпісанага навукова-педагагічнымі работнікамі, паведамляю, што яго змест непасрэдна не звязаны з пытаннямі, якія былі прадметам абмеркавання на калегіі, таксама не лічу магчымым з пункту гледжання нормаў службовай этыкі праводзіць публічнае абмеркаванне дзейнасці Казуліна А.У., што абумовілі рашэнне калегіі Міністэрства адукацыі і навукі аб неадпаведнасці іх займаемай ім пасадзе.

**З павагай**
**міністр В.СТРАЖАЎ.**

## СКЛАДЗЕНЫ ЧОРНЫ СПІС МАХЛЯРОЎ

**Паводле даных Беларускага аб'яднання падманутых укладчыкаў, у рэспубліканскай пракуратуры складзены спіс кампаній, якія займаліся незаконнай дзейнасцю, у выніку якой пацярпелі грамадзяне Рэспублікі Беларусь.**

Як паведамілі ў праўленні аб'яднання, у гэты спіс увайшло 14 фірмаў, сярод якіх такія нашумелыя, як «Тэхінпром», «Мыза», «Гайстрах», «Новая генерацыя» і «Белкамаўта».

У выніку «актыўнай» дзейнасці гэтых кампаній было ашукана больш як 18 тысяч жыхароў краіны. Паводле даных пракуратуры, ім быў нанесены ўрон ў памеры больш як 63 млрд. руб. і 2 млн. долараў ЗША.

Кампенсаваць урон пацярпеўшым будзе даволі складана, таму што сума сродкаў, якая засталася ў фірмах пасля іх закрыцця, склала ўсяго 920,5 млн. рублёў.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## НАЙБУЙНЕЙШЫМ ЗНЕШНЕГАНДЛЁВЫМ ПАРТНЁРАМ БЕЛАРУСІ ЗАСТАЕЦЦА РАСІЯ

**Аб'ём знешняга гандлю Беларусі ў студзені—маі 1996 года ўзрос у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 38,5 працэнта і дасягнуў 45991 мільярда рублёў (каля 4 мільярдаў долараў ЗША).**

У тым ліку экспарт павялічыўся на 30,5 працэнта (ён склаў у першыя пяць месяцаў гэтага года прыкладна 1,7 мільярда долараў), імпарт — на 44,8 працэнта (каля 2,3 мільярда долараў).

Сальда знешнегандлёвага абароту адмоўнае ў памеры 7545 мільярдаў рублёў (648,4 мільёна долараў). Гэта даныя Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі.

Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі рэспублікі сярод краін далёкага замежжа застаюцца Германія (на яе долю прыпадае 19,2 працэнта аб'ёму тавараабароту з краінамі гэтай групы), Польшча (12 працэнтаў), Латвія (8,8), Літва (6,9), ЗША (5,5), Нідэрланды (5), Вялікабрытанія і Італія (па 3,6 працэнта), Бельгія (3,2), Чэхія, Венгрыя, Аўстрыя і Францыя (ад 1 да 2 працэнтаў).

81,3 працэнты аб'ёму тавараабароту Беларусі з краінамі СНД прыпадае на Расійскую Федэрацыю. Доля Украіны складае 13,7 працэнта, Казахстана — 2,2.

**Сяргей СНЕГІН, БелаПАН.**

## У РЭСПУБЛІЦЫ ЗАРЭГІСТРАВАНА СПРОБА ЯШЧЭ АДНАГО ТЭРАРЫСТЫЧНАГА АКТА

**Як стала вядома БелаПАН, 18 чэрвеня пры адпраўленні цягніка «Жлобін—Гомель» у кабіну да памочніка машыніста пранік невядомы мужчына і, пагражаючы ўзарваць цягнік, запатрабаваў вызваліць яго ад адбыцця адміністрацыйнага пакарання. Невядомы заявіў, што ў адным з вагонаў цягніка знаходзіцца яго саўдзельнік, які гатовы па камандзе прывесці ў дзеянне выбуховае ўстройства.**

Супрацоўнікам органаў унутраных спраў удалося абясшкодзіць невядомага і ўстанавіць яго асобу. Ім аказаўся грамадзянін Беларусі П., ураджэнец і жыхар адной з вёсак Жлобінскага раёна, які адбываў адміністрацыйнае пакаранне (15 сутак) у мясцовым следчым ізалятары. Устаноўлена, што ў гэты дзень грамадзянін П. павінен быў знаходзіцца на гаспадарчых работах, аднак з-пад нагляду знік. Растлумачыць як след тое, што здарылася, затрыманы не змог, хаця алкагольнае або наркатычнае ап'яненне яго не ўстаноўлена. На ўліку ў псіханеўралагічным дыспансеры не знаходзіўся. Пасля затрымання адмаўляў наяўнасць саўдзельніка. Грамадзянін П. дастаўлены ў СІЗО па месцы адбывання пакарання.

**Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.**

## ПАСТАНОВЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### АБ СТВАРЭННІ ЧАСОВАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА РАССЛЕДАВАННЮ ПАДЗЕЙ, ЯКІЯ МЕЛІ МЕСЦА ПАДЧАС І ПАСЛЯ 26 КРАСАВІКА І 30 МАЯ 1996 ГОДА Ў ГОРАДЗЕ МІНСКУ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Стварыць Часовую камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню падзей, якія мелі месца падчас і пасля 26 красавіка і 30 мая 1996 года ў горадзе Мінску.

2. Выбраць Часовую камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню падзей, якія мелі месца падчас і пасля 26 красавіка і 30 мая 1996 года ў горадзе Мінску, у складзе 12 дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

**Хадневіч** Таццяна Мікалаеўна — старшыня камісіі.

Члены камісіі:
**Абрамава** Вольга Міхайлаўна,
**Анушкін** Ігар Сяргеевіч,
**Бухвостаў** Аляксандр Іванавіч,
**Ганчар** Віктар Іосіфавіч,
**Глухоўскі** Леанід Віктаравіч,
**Драко** Валерый Уладзіміравіч,
**Кучынскі** Віктар Францавіч,
**Лябедзька** Анатоль Уладзіміравіч,
**Малахоўскі** Анатоль Ягоравіч,
**Свірыд** Іван Уладзіміравіч,
**Шыманскі** Мікалай Мікалаевіч.

3. Парадак дзейнасці Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню падзей, якія мелі месца падчас і пасля 26 красавіка і 30 мая 1996 года ў горадзе Мінску, вызначаецца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, законамі і Часовым рэгламентам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

4. Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрству ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, Камітэту дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, Вярхоўнаму Суду Рэспублікі Беларусь, іншым дзяржаўным органам і службовым асобам аказваць садзейнічанне ў дзейнасці камісіі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ**
7 чэрвеня 1996 г., г. Мінск.
№ 367-XIII

### АБ РАТЫФІКАЦЫІ ПАГАДНЕННЯ ПАМІЖ РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ І РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫЯЙ ПА ПЫТАННЯХ ЮРЫСДЫКЦЫІ І ЎЗАЕМНАЙ ПРАВАВОЙ ДАПАМОГІ ПА СПРАВАХ, ЗВЯЗАНЫХ З ЧАСОВЫМ ЗНАХОДЖАННЕМ ВОІНСКІХ ФАРМІРАВАННЯЎ РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ СА СКЛАДУ СТРАТЭГІЧНЫХ СІЛ НА ТЭРЫТОРЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Ратыфікаваць Пагадненне паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй па пытаннях юрысдыкцыі і ўзаемнай прававой дапамогі па справах, звязаных з часовым знаходжаннем воінскіх фарміраванняў Расійскай Федэрацыі са складу Стратэгічных сіл на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, падпісанае ў г. Мінску 6 студзеня 1995 года, з улікам узгодненага з расійскім бокам тлумачэння артыкула 5 дадзенага Пагаднення.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ**
7 чэрвеня 1996 г., г. Мінск.
№ 365-XIII

### АБ РАТЫФІКАЦЫІ ДАГАВОРА АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ Ў АХОВЕ ГРАНІЦ ДЗЯРЖАЎ — УДЗЕЛЬНІЦ САДРУЖНАСЦІ НЕЗАЛЕЖНЫХ ДЗЯРЖАЎ З ДЗЯРЖАВАМІ, ЯКІЯ НЕ ЎВАХОДЗЯЦЬ У САДРУЖНАСЦЬ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Ратыфікаваць Дагавор аб супрацоўніцтве ў ахове граніц дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў з дзяржавамі, якія не ўваходзяць у Садружнасць, падпісаны ў г. Мінску 26 мая 1995 года з наступнымі агаворкамі:

да артыкула 2:

«За выключэннем слоў «любым праяўленнем сепаратызму і нацыяналізму»;

да артыкула 5:

«Выкарыстанне кантынгенту Рэспублікі Беларусь за яе межамі для сумеснай аховы граніц дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў, таксама як і прыцягненне кантынгентаў дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў для аховы Дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь можа быць ажыццёўлена толькі на падставе адпаведнага рашэння Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ**
7 чэрвеня 1996 г., г. Мінск. № 366-XIII

## МІНСККОМПЛЕКСБАНК АБ'ЯДНОЎВАЕЦЦА З БЕЛЗНЕШЭКАНОМБАНКАМ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Што датычыць уласна аб'яднання двух банкаў, то, як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў дэпартаменце знешнеэканамічных сувязей Мінсккомплексбанка, пакуль гэты працэс знаходзіцца ў пачатковай стадыі абмеркавання і перамоў. Спецыялісты банка нават прадказваюць, што гэта будзе даволі працяглы працэс. Тым не менш, абодва банкі ў такой складанай працэдуры будуць дзейнічаць строга ў рамках існуючага заканадаўства, і ў першую чаргу Закона Рэспублікі Беларусь «Аб акцыянерных таварыствах, таварыствах з абмежаванай адказнасцю і дадатковай адказнасцю». Аб сваёй згодзе на рэарганізацыю аднаго банка і далучэння яго да другога абавязкова павінны заявіць акцыянеры як Мінсккомплексбанка, так і Белзнешэканомбанка. Аднак канчатковае рашэнне будзе прымаць Нацыянальны банк Беларусі. Што ж у выніку можа чакаць рэарганізаваны Мінсккомплексбанк?

Як лічаць у самім банку, у лепшым выпадку ён пачне працаваць у межах падпісанага пагаднення (калі менавіта да такога рашэння прыйдуць абодва бакі) аб сумеснай дзейнасці. Гэта дае Мінсккомплексбанку магчымасць некаторай самастойнасці. У другім выпадку банк ператвараецца ў адзін з філялаў Белзнешэканомбанка без статусу юрыдычнай асобы. Зразумела, усе ліцэнзіі, на падставе якіх раней працаваў Мінсккомплексбанк, будуць скасаваны. Трэба ўсё ж такі сказаць, што любыя абраныя шляхі і метады рэарганізацыі Мінсккомплексбанка аніякім чынам не парушаць інтарэсы яго ўкладчыкаў. Да апошняга часу грамадскасць была сведкаю аб'яднання і рэарганізацыі камерцыйных банкаў, якія апынуліся на мяжы фінансавага краху. У дадзеным выпадку Белзнешэканомбанк, які, па ацэнках айчынных і замежных экспертаў, мае ці не самы высокі рэйтынг сярод іншых беларускіх фінансавых устаноў, абраў сабе ў партнёры стабільны і досыць упэўнены ў сабе Мінсккомплексбанк.

**Сяргей КУРКАЧ.**

*КРЫМІНАЛ*

## ДАПАМОЖАМ САБЕ САМІ

**Ці не час адмовіцца ад самазаспакаяльнай думкі, што вас гэта не закране, таму што красці ў вас быццам бы няма чаго? Не думайце так.**

Возьмуць апошнюю бляшанку кількі і прыйдуць яшчэ раз праверыць: ці апошняя? Мы маем дастаткова заяў аб крадзяжах з кватэр і дамоў ношанага адзення, абутку, прадуктаў, аб шэрагу крадзяжоў на працягу кароткага часу з адной і той жа кватэры. Сучасны злодзей настолькі нахабны, што апусціўся да карабка запалак і пачка солі. Ваша бесклапотнасць у многім таму віной.

Нашы парады вам застаюцца ранейшымі.

Пастаўце двайныя дзверы, умацуйце тое, што ёсць; дзе магчыма, устанавіце сігналізацыю, перастаньце класці ключы каля дзвярэй; пакідаючы дом зачыніце ўсе замкі і форткі, нават калі вы жывяце на 3-м паверсе (ад граху падалей). Ад'язджаючы надоўга, папрасіце знаёмых прыглядзець за кватэрай. Пры гэтым, аднак, памятайце: сярод нас жывуць не толькі налётчыкі, але і наводчыкі. Як правіла, ні адзін больш-менш значны кватэрны крадзеж не абыходзіцца без папярэдняй інфармацыі. Гэта нашы звесткі. Высновы рабіць вам!

І апошняе. Як часта, абыходзячы кватэры пад'езда, у якім быў учынены кватэрны крадзеж, мы сутыкаемся з яўным адчужэннем і няшчырасцю. Ну як можна не чуць «нічога падазронага», калі на вашай пляцоўцы поўнасцю выбіты дзверы, а вы знаходзіцеся дома?! І гэта ўдзень?

Зразумейце, сёння «выставілі» кватэру суседа — заўтра прыйдуць у вашу. І чым раней мы выкрыем злодзея, тым больш шанцаў у вас не трапіць у нашу штодзённую зводку ў якасці ахвяры. Не бойцеся выказваць свае падазрэнні, паведамляць міліцыі аб усім убачаным і пачутым. Гэта ж толькі ў кніжках і кіно злачынцы раскрываюцца з дапамогай метаду дэдукцыі або «месячнага святла».

**А. АЎРАМЕНКА,**
**супрацоўнік Барысаўскай ГАУС.**

*ФУТБОЛ. ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ*

## ЦІ СТАНЕ ЧАСОВАЕ ЛІДЭРСТВА ЧЭМПІЁНА ПАСТАЯННЫМ?

**Учора матчам «Тарпеда» (Мн)—»Абутнік» завяршыўся 10-ы тур VI чэмпіянату Беларусі па футболу. На момант выхаду газеты вынік яшчэ заставаўся невядомым.**

Праўда, гэты тур і без таго аказаўся няпоўным, бо сустрэча мінскай «Атакі-Аўры» і лідэра сёлетняга першынства — МВКЦ, перанесена на больш позні тэрмін. Мазыране пайшлі насустрач сталічным футбалістам, бо апошнім сёння стартаваць у Кубку «Інтэртото». Першая гульня адбудзецца ў Маладзечне супраць валгаградскага «Ротара». Відаць, і ў наступных гульнях «Атакі-Аўры» ва ўнутраным чэмпіянаце прыйдзецца рабіць карэкціроўку і пераносіць яшчэ некалькі сустрэч, бо гульні ў розыгрышы ганаровага трафея амаль супадаюць з календаром чэмпіянату. Наступны матч Кубка «Інтэртото» мінчане правядуць 29 чэрвеня ў Данецку супраць мясцовага «Шахцёра». Потым, 7 ліпеня, — гульня зноў у Маладзечне супраць турэцкага «Антальяспарома». І напрыканцы, 13 чэрвеня, «Атака-Аўра» згуляе на выездзе супраць швейцарскага «Базеля».

У гэтым турніры, як вядома, у наступны этап выходзіць толькі адна каманда—пераможца групы. Сёння, праўда, з цяжкасцю можна паверыць, што мінчане адолеюць папярэдні бар'ер, бо супернік даволі сур'ёзны. Хоць у футболе ўсялякае здараецца.

Аднак вернемся да матчаў 10-га тура. Часова (а можа і не) у лідэры выйшаў нязменны чэмпіён Беларусі — «Дынама» (Мінск), абыграўшы на выездзе «Маладзечна», 4:2. Значна паправілі сваё турнірнае становішча футбалісты магілёўскага «Дняпра», без асаблівых праблем адолеўшы «Белшыну». Лік 3:0 гаворыць сам за сябе. І зусім ужо не на жарт разышліся брэсцкія дынамаўцы, разграміўшы дома з хакейным лікам 7:0 магілёўскае «Тарпеда».

Не губляе аптымізму і «Лакаматыў-96». Віцябляне атрымалі другую перамогу запар. На гэты раз у «родных сценах» яны «наехалі» на «Ведрыч» — 3:1.

Працягвае пераможнае шэсце мінскае «Дынама-93». Чарговай ахвярай сталічных футбалістаў стаў наваполацкі «Нафтан». Госці ўступілі з лікам 1:4. Адзіная нічыя гэтага тура была зафіксавана ў Гродне, дзе мясцовы «Нёман» з лікам 2:2 згуляў з салігорскім «Шахцёрам».

**Турнірная табліца пасля 10-га тура**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дынама (Мн) | 10 | 8 | 1 | 1 | 30-9 | 25 |
| 2. МВКЦ | 9 | 8 | 0 | 1 | 17-5 | 24 |
| 3. Атака-Аўра | 9 | 7 | 0 | 2 | 11-9 | 21 |
| 4. Дынама-93 | 10 | 6 | 3 | 1 | 14-4 | 21 |
| 5. Белшына | 10 | 5 | 2 | 3 | 17-11 | 17 |
| 6. Нафтан | 10 | 5 | 1 | 4 | 14-15 | 16 |
| 7. Лакаматыў-96 | 10 | 4 | 4 | 2 | 14-7 | 16 |
| 8. Маладзечна | 10 | 3 | 3 | 4 | 14-13 | 12 |
| 9. Днепр | 9 | 3 | 2 | 4 | 6-7 | 11 |
| 10. Дынама (Бр) | 10 | 2 | 5 | 3 | 16-10 | 11 |
| 11. Тарпеда (Мн) | 9 | 3 | 1 | 5 | 8-19 | 10 |
| 12. Шахцёр | 10 | 2 | 3 | 5 | 6-17 | 9 |
| 13. Нёман | 9 | 1 | 3 | 5 | 9-19 | 6 |
| 14. Тарпеда (Мг) | 10 | 1 | 3 | 6 | 9-23 | 6 |
| 15. Абутнік | 9 | 0 | 4 | 5 | 4-11 | 4 |
| 16. Ведрыч | 10 | 0 | 3 | 7 | 3-13 | 3 |

Наступны, 14-ы тур, пройдзе 26—28 чэрвеня.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

**Маладзік 16 чэрвеня**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праяснennямі надвор'е, на значнай частцы тэрыторыі пройдуць кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродне і Віцебску — 18—20, Магілёве і Мінску — 21—23, Брэсце — 22—24, Гомелі — 24—26 градусаў.

У наступныя двое сутак: 23-га — па паўночнаму захаду, 24-га — на большай частцы тэрыторыі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ўначы — 12—17, удзень — 18—23; 23-га — у цэнтральных і ўсходніх раёнах, 24-га — па паўночнаму ўсходу рэспублікі — 25—30 градусаў цяпла.

## МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 22 ЧЭРВЕНЯ

Надвор'е будзе вызначацца ўначы полем паніжанага атмасфернага ціску, удзень — праходжаннем франтальнага раздзелу, што прывядзе да нязначных ваганняў асноўных метэаэлементаў. У большасці метэазалежных хворых у такіх умовах істотных змен у самаадчуванні не адбудзецца. Аднак асобам, схільным да паніжэння артэрыяльнага ціску, паказаны прыём лёгкіх танізуючых сродкаў.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

*«ГАРАЧЫ ТЭЛЕФОН»*

# «НАСТАЎНІК, ЯКІ ДУМАЕ ПРА ЗАРОБАК...»

**«Гарачы тэлефон» «Звязды» — 68-28-72 не маўчыць, вельмі шмат званкоў ад работнікаў бюджэтнай сферы. Грошы не плацяць у час урачам, працаўнікам культурнай нівы, настаўнікам... Думаецца, што ўдар у гэтых выпадках наносіцца двайны. Уявіце ўрача, які працуе без зарплаты. З якім настроем ён прымае пацыентаў? Трэба, пагадзіцеся, мець двайную вытрымку, каб не пакрыўдзіць хворага, уважліва выслухаць, магчыма, і пацікавіцца, у якіх умовах жыве пацыент.**

Ці не тая ж сітуацыя і з педагогам, выхавальнікам? Настаўнік, які думае пра заробак... Ат, што тут казаць! Вось і вырашылі мы, каб не займацца пераказваннем агульнавядомых ісцін, пацікавіцца рэальным станам выплаты заробку, а таксама адпускных грошай у школах Мінска (тут, відаць, справы павінны складвацца лепш, чым дзе) і Мінскага раёна. Што пачулі ў адказ? За май, як правіла, зарплату атрымалі паўсюдна. Затое з адпускнымі справы складваюцца нашмат цяжэй. Не ўсе, выпраўляючыся ў водпуск у сярэдзіне, на пачатку чэрвеня, атрымалі грошы за ліпень (як вядома, водпуск у настаўніка доўжыцца большую палову лета). У раёне абставіны яшчэ горшыя. Многія настаўнікі наўмысна не ідуць у водпуск. Чакаюць...

Пакуль мы цікавіліся і запісвалі змест адказаў, уразіла і вось што. Не атрымліваюць своечасова грошы ўжо і навучэнцы прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў. У прыватнасці, рэдакцыю патурбавала маці навучэнца Дзяржынскага ПТВ-212 (з групы № 38). Стыпендыю яе сыну і яго аднакашнікам не выплачваюць з красавіка. «На кіно» і астатнія траты (а часам і на прадукты, на праезд) даводзіцца ўжо тры месяцы прасіць хлопцам у сваіх бацькоў нейкую капейчыну. А ў канцы чэрвеня ў гэтай групы — выпуск. Некаторыя юнакі амаль адразу пойдуць на службу ў войска. Дык што, выходзіць, плакала стыпендыя?..

Пазванілі ў «глыбінку». Шклоўскія, напрыклад, настаўнікі ўжо нават прывыклі «сядзець на бабах», бо заробак свой атрымліваюць заўсёды з вялікім спазненнем. Як паведаміла нам сакратарка сярэдняй школы №1 г. Шклова яе, сакратара, дарэчы, — зарплата 357 тысяч рублёў, зараз ідзе выплата толькі за май. І то гэта лічыцца тут нейкім шчасцем. Пра адпускныя няма і гаворкі.

Не лепшыя справы і ў іншых вясковых школах: у бухгалтэрыі Шклоўскага аддзела адукацыі сумна разводзяць рукамі, таму што лета — пара рамонту школ і дырэктары патрабуюць для гэтага сродкі. Сродкаў няма, і ў сувязі з гэтым узнікаюць непаразуменні. Вядома ж, дзеці павінны займацца ў светлых чыстых класах за прыгожымі партамі. Тады і працэс авалодвання патрэбнымі ведамі лягчэй праходзіць. А ў сённяшняй сітуацыі, у якой апынуліся аддзелы адукацыі, прыходзіцца часцей за ўсё адмаўляць дырэктарам, якія патрабуюць грошы на абнаўленне сваіх школ. Да таго ж і настаўнікі не атрымліваюць у час свой заробак і, ідучы ў водпуск нават не пытаюцца ўжо пра адпускныя. Бо грошай няма. Гавораць — бюджэт пусты, як і кішэні людзей, прызваных сеяць добрае і вечнае.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

**ПАСЛЯСЛОЎЕ**

**Паколькі сітуацыя з несвоечасовай выплатай заработнай платы настаўнікам падаецца нам складанай у агульнадзяржаўным маштабе, мы вырашылі пацікавіцца меркаваннямі наконт гэтай праблемы ў Міністэрстве адукацыі і навукі. І звязаліся з намеснікам начальніка планава-эканамічнага ўпраўлення Святланай Пятроўнай Цішкінай, якая сказала наступнае: «Запазычанасці ў рэспубліканскім маштабе няма. Уся справа ў тым, што на месцах фінансаванне ідзе з мясцовага бюджэту, які часцей за ўсё не можа разлічыцца з падаткамі. На гэтыя мэты міністэрства фінансаў хутка павінна выдзеліць датацыю».**

**У наступным нумары «Звязды» да ўвагі чытачоў —падрабязны каментарый да сітуацыі са станам па выплаце заработнай платы настаўнікам па ўсёй краіне.**

*ЦЭНЫ*

## ПРЫЛАЎКІ КАМАРОЎКІ ЗАСТРАКАЦЕЛІ ПОЎНЫМ НАБОРАМ САДАВІНЫ І СУНІЦ

***Рознічныя цэны на харчовыя тавары на Камароўскім рынку г. Мінска на 21.06.96 г.***

***Мяса (кг):***

свініна .................. 30—55
ялавічына ............. 20—50
бараніна ............... 30—65
цяляціна ............... 28—55
куры ..................... 29—32
сала свежае ......... 20—30
сала салёнае ........ 25—45

***Малочныя прадукты***

малако (л) .............. 4—7
тварог (кг) ............ 18—26
смятана (кг).......... 22—28
масла 40—46
Яйкі птушкафабрыкі (1 дзес.) .................. 8—11
Яйкі хатнія ............ 16—18
Алей ..................... 13—16
Мёд ....................... 60—70
Цукар ......................... 7-8

***Агародніна (кг):***

капуста свежая ..... 12—16
морква ................... 8—15
агуркі свежыя ......... 8—18
таматы ................ 25—30
перац салодкі ...... 45—60
цыбуля зялёная ...... 8—10
салата .................. 10—15
пятрушка ............. 12—15

***Садавіна (кг):***

яблыкі .................... 8—25
грушы .................. 25—35
чарніцы ....... 1 кг) 20—25;
1 шклянка .................... — 3
суніцы (1 кг) ........ 65—85;
1 шклянка .................... — 10
клубніцы ............. 16—20
чарэшня ............... 22-35
абрыкосы ............ 35—60
персікі .................. 66—75
ківі (1 шт.) ............... 5—6
вінаград .............. 45—75
кавуны ................ 30—45
ананасы .............. 25—55
апельсіны ............ 14—18
лімоны ................ 18—35
бананы ................ 19—21

***Кветкі (шт.)***

гваздзікі ............... 1,5—6
ружы ...................... 3—25

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*ПОГЛЯД*

# ВАЛЮТНЫ РЫНАК НА «ПОЛІ ЦУДАЎ»

**ТОЕ, што з валютай у нас у краіне яўны «непарадак», сёння ведаюць усе. Закрытыя абменныя пункты банкаў, ажыятаж на «чорным рынку» — гэта не першы сімптом наступаючай хваробы, а цень ужо даўно асуджанага хворага.**

Газетныя палосы поўныя заметак і рэпартажаў з «валютнага фронту», але, на жаль, у большасці з іх або проста канстатуюцца факты, або пераказваюцца тлумачэнні кіраўнікоў Нацыянальнага банка, Кабінета Міністраў і г. д. Народу ўнушаецца думка, што «абменнікі» не працуюць з-за «перашкод» камерцыйных банкаў. Па-ранейшаму выкарыстоўваюцца маніпуляцыі грамадскай свядомасцю людзей, якія заўсёды коса глядзяць у бок банкаў, а таму праглынуць любую порцыю афіцыйнай хлусні аб чарговых падкопах банкіраў. Гаспадарнікам, якія тыднямі не могуць купіць валюту на біржы для аплаты сыравіны, камплектуючых, спрабуюць знайсці іншае тлумачэнне. Маўляў, скараціўся экспарт, а вось імпарт (натуральна, у першую чаргу «бананавы») узрос. Вось і не хапае валюты. Але супакойваюць тым, што гэта, маўляў, часовая з'ява. Хутка ўсё выправіцца, а не, дык для кожнага завода свой курс установім. Ні Кабінет Міністраў, ні Нацыянальны банк упарта не хочуць прызнаць памылковасць усёй валютнай палітыкі, якая праводзіцца з зімы 1995 года.

Відавочна, час сказаць напрамую ўголас: валютная палітыка ўлады пацярпела крах.

З чаго пачаўся наш рух да цяперашняй сітуацыі? Як вядома, рашэнні ў сферы кіраўніцтва эканомікай не даюць неадкладных вынікаў, што звязана з інерцыйнасцю эканамічных працэсаў. Уверцюра цяперашняй сітуацыі пісалася зімой 1995-га. Напомню чытачам, што ў канцы 1994 года Прэзідэнт зацвердзіў антыкрызісную праграму, і Нацыянальны банк узяўся яе выконваць. У першую чаргу змагацца з інфляцыяй. Улічваючы яе высокі ўзровень, Нацбанк рэзка павысіў стаўкі рэфінансавання, каб зменшыць колькасць грошай у абароце. За кароткі перыяд працэнтная стаўка Нацбанка Рэспублікі Беларусь узляцела з 200 працэнтаў гадавых да 480. Пад яго жорсткім націскам камерцыйныя банкі адпаведна рэзка павялічылі працэнты па дэпазітах і па крэдытах. Вынік відавочны. Адразу ж зменшылася колькасць пакупнікоў валюты і павялічылася колькасць грамадзян, якія лічаць за лепшае атрымліваць даход ад банкаўскіх дэпазітаў. Дарагія і звышдарагія крэдыты прымушалі прадпрыемствы прадаваць валюту. Попыт на USD стабілізаваўся, а прапанаванне павялічылася. Дапамаглі і крэдыты МВФ. Курс рубля заціх, і Нацбанк змог нават купляць СКВ на біржы, павялічваючы свой рэзерв. Узровень інфляцыі пачаў зніжацца. Але пры гэтым рэформы ў іншых сферах эканомікі не праводзіліся. На гэтым фоне палітыка, праводзімая Нацбанкам, была падобная на «гульню ў адны вароты». «Стаячы курс» і яго штучнае ўтрыманне пры звышдарагіх крэдытах (да 560 працэнтаў), інфляцыі, якая змяншалася, але, тым не менш, працягвалася (з 30 працэнтаў у студзені да 20 у сакавіку і 8-9 працэнтаў у маі 1995 года), прывялі да таго, што экспартныя галіны з рэнтабельных ператварыліся ў стратныя. Затраты на вытворчасць прадукцыі ўзраслі ў некалькі разоў, а кампенсаваць іх ростам цэн на гатовую прадукцыю пры нязменным курсе станавілася ўсё цяжэй. Пакупнікі нашай прадукцыі за мяжой, калі ім за 4-5 месяцаў пачалі прапаноўваць 2-3-разовае павелічэнне цэн, проста адмовіліся ад гэтай прадукцыі. Хрэстаматыйны прыклад з так званым «пакістанскім кантрактам» МТЗ, калі кантрактная цана трактара аказалася к канцу тэрміну паставак у тры разы меншая за сабекошт. Дзяржаве давялося даць МТЗ 10 мільёнаў долараў субсідый, каб завод не застаўся без зарплаты. З вясны 1995 года пачалося падзенне экспарту і, што самае страшнае, страты знешніх рынкаў збыту.

Прамыслоўцы забілі трывогу. У пачатку сакавіка 1995 года я прысутнічаў пры гутарцы В. Шлындзікава, тады яшчэ прэзідэнта канцэрна «Амкадор» (цяпер дэпутат, старшыня Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах ВС Рэспублікі Беларусь), са старшынёй праўлення Нацбанка С. Багданкевічам. Прыводзячы лічбы па канцэрну і іншых прамысловых гігантах Мінска, В. Шлындзікаў задаў пытанне: «Няўжо Багданкевіч не разумее, што крэдыты пад 480 працэнтаў пры ўтрыманні курса долара знішчаць экспартныя галіны і бумерангам ударыць па ўсёй народнай гаспадарцы?» У адказ ён пачуў: «Так, разумею. Але спадзяюся, што гэта падштурхне кіраўнікоў прадпрыемстваў да структурнай перабудовы, раздзяржаўлення, прытоку інвестыцый і новых тэхналогій. А ўсё ў цэлым дасць зніжэнне выдаткаў вытворчасці і стварэнне канкурэнтаздольнай прадукцыі».

У пачатку лета 1995 года стала зразумела, што ўсё гэта толькі надзеі. Рэформаў няма і пакуль не прадбачыцца. Нацбанк рэзка панізіў крэдытныя стаўкі і пачаў весці размову аб дэвальвацыі рубля. І вось тут ён наткнуўся на жорсткае непрыманне з боку ўрада і Прэзідэнта. Курс рубля, нягледзячы на крайнюю неабходнасць, скарэкціраваць не ўдалося. Узятыя раней прадпрыемствамі крэдыты аказаліся яшчэ больш незваротнымі. Працэс страты рынкаў збыту працягнуўся. Пры гэтым абазначалася яўнае павелічэнне імпарту. Унутраныя ж цэны раслі, а імпартныя (у USD) не мяняліся. Націск на рубель узрастаў. Нацбанк з пакупніка (зімой) ператварыўся ў прадаўца (летам) СКВ на біржы.

Магічная вера выканаўчай улады, па-першае, у тое, што ўтрыманне курса рубля стрымлівае інфляцыю і, па-другое, у тое, што адміністрацыйныя меры — самыя эфектыўныя, вылілася ў ланцужок адміністрацыйных абмежаванняў на аперацыі з СКВ. Аднак усяму ёсць мяжа, і ў пачатку 1996 года колькасныя змяненні перараслі ў якасныя. Рэзерв Нацбанка (набыты зімой 1995 года) скараціўся да небяспечнага мінімуму.

Навядзенне парадку выразілася ў нацыяналізацыі біржы і падключэнні Службы кантролю Прэзідэнта да задавальнення заявак на пакупку валюты. А ў гэты час нарастаў дэфіцыт гандлёвага балансу. За студзень—сакавік 1996 года ён дасягнуў небывалай вялічыні — 498 мільёнаў долараў, у красавіку дабавілася яшчэ 100 мільёнаў долараў. Валюты на самыя неабходныя тавары не хапае. Тыднямі не задавальняюцца заяўкі на збожжа, нават на нафту. Адмянілі выдачу валютных крэдытаў, спадзеючыся зменшыць попыт на яе. Насельніцтва не звярнула на гэта ўвагі, а дарэмна. Банкі ж прымалі валютныя ўклады на дэпазіт не для таго, каб прадаваць яе ў «абменніках», а для выдачы валютных крэдытаў, па якіх, натуральна, банк атрымліваў працэнты і, адпаведна, налічваў гэтыя працэнты ўкладчыкам.

Як толькі забаранілі валютнае крэдытаванне, то заканамерна паўстала пытанне: адкуль узяць працэнты для выплаты па валютных дэпазітах? Але значна больш сур'ёзным аказалася другое пытанне: дзе ўзяць валюту, каб вярнуць крэдыт і, адпаведна, дэпазіты насельніцтву? Прадпрыемства ж, купіўшы за валюту збожжа, запчасткі, крупы і г. д., прадае іх за рублі. І каб вярнуць банку валюту, купляе яе за вырučаныя рублі на біржы. А гэтага сёння зрабіць практычна немагчыма. Банкі знаходзяцца ў стане пастаяннага шоку. АКБ «Поіск» адмовіўся вяртаць валюту і аддае доларавыя дэпазіты рублямі, ды яшчэ і па курсу НБ Рэспублікі Беларусь, гэта значыць ніжэй за рыначныя на 20 працэнтаў, а «Аграпрамбанк» і рублёў не дае, «Белзнешэканомбанк» застыў у роздуме — аддаваць у СКВ, у рублях, а можа наогул прытрымаць? Тая ж сітуацыя ва ўсіх банках. Што ў гэтай сітуацыі рабіць простаму грамадзяніну? Ён, як заўсёды, аказваецца без выбару. Напрыклад, паклаў 100 долараў, атрымаў рублі, прыйшоў да закрытага «абменніка» і купіў за гэтыя рублі ў так званых «жучкоў» 80 долараў. Што атрымліваецца? Грабеж сярод белага дня, ды і толькі.

І гэта не гаворачы аб тым, што расцвіў пышным цветам «чорны рынак». Не дзяржава мае дывідэнды, а «ценявая эканоміка». Афіцыйныя асобы нам абяцаюць, што ўзмоцняць кантроль за мяняламі, узмоцняць пакаранне. Ну, і што? Знікне патрэбнасць у валюце? Не. А мільёны людзей збіраюцца ў водпуск у іншыя краіны таго ж СНД. Адкуль ім узяць тое, што канверсуецца? Не з беларускімі ж трансфармаванымі «зайчыкамі» ехаць? Попыт будзе заставацца, а значыць, будзе «чорны рынак», толькі яшчэ больш падпольны, а значыць, і больш дарагі. Для пераважнай большасці грамадзян, вядома. Бо для пары сотнень высокапастаўленых чыноўнікаў валюта заўсёды знойдзецца па сходнай цане, а то і проста так, у выглядзе лячэбнай дапамогі на аздараўленне.

Якія ж у гэтай сітуацыі дзеянні Нацбанка Рэспублікі Беларусь? Яшчэ нядаўна мы чулі здзіўленыя воклічы: у сховішчы ляжаць 20 мільёнаў USD, а банкі іх не бяруць і закрываюць пункты. Проста атарапеласць бярэ ад такіх каментарыяў. Каб купіць долар для «абменкі», банку трэба заплаціць біржавы курс плюс 10 працэнтаў, гэта значыць значна больш, чым 13.100 рублёў за долар. А прадавай за 13.100! Што ж, працаваць ва ўрон? Дык той жа Нацбанк зачыніць у адпаведнасці з новым указам Прэзідэнта.

Іншая афіцыйная заява, якая заклікана растлумачыць сітуацыю, заключаецца ў наступным: на рахунках банкаў сёння знаходзіцца больш за 20 мільёнаў долараў, якія могуць быць прададзены насельніцтву. Аднак банкі іх у «абменнікі» не даюць. Так, не даюць, таму што гэта грошы не банкаў, а кліентаў. Банк проста не мае права іх прадаваць. Але, напэўна, мала каго хвалюе прагназіруемае абурэнне ўладальнікаў валютных дэпазітаў, якім вярнуць уклады будзе дастаткова складана.

Становіцца ўсё больш відавочным, што крыніцай гэтых праблем з'яўляецца заганнае перакананне (а можа, шчырая памылка) ўладаў (або іх саветнікаў) у тым, што ўтаймаванне інфляцыі знаходзіцца ў абсалютнай залежнасці ад устойлівага курса рубля. Адсюль натуральнае жаданне ўтрымаць курс любой цаной. Аднак спецыялістам добра вядома, што метады ўтаймавання інфляцыі заснаваны на комплексе мераў. Асноўныя з іх: скарачэнне дзяржаўных расходаў, дэфіцыту бюджэту, крэдытнай эмісіі, рэгуляванне стаўкі рэфінансавання Нацбанка. Курс нацыянальнай валюты — гэта хутчэй вытворнае, вынік інфляцыі, а не прычына.

Як быць і што ж нас чакае наперадзе?

Працягваць ранейшую лінію ўлады проста не змогуць. Вычарпаны ўсе рэзервы. Дапамогі чакаць няма адкуль. МВФ у крэдытах адмовіў, Расія і не абяцала. Рэзерв Нацбанка, які яго кіраўніцтва не называе, паводле некаторых ацэнак складае ўсяго толькі 20 мільёнаў USD. А гэта зусім мізэрная лічба. Штодзённа на біржы незадаволеным аказваецца попыт на валюту на суму ў 10—15 мільёнаў.

Можа, варта чакаць ажыўлення экспарту, які дасць нам прыток валюты? Можа, але гэта будзе не хутка. Адпусціць курс? Але як гэта зрабіць без указа Прэзідэнта? Праўда, цішком паспрабавалі: вынайшлі «дылінгавую прэмію», гэта значыць дазволілі шасці банкам дабаўляць да курса 13 працэнтаў. Але гэта не вырашэнне праблемы. А так, мёртваму прыпаркі, каб хоць неяк збіць ажыятаж. Мяркуючы па ўсім улады наўрад ці змогуць прызнаць свае памылкі, і нас чакае жудаснае параджэнне «рыначнага сацыялізму» — афіцыйны курс, па якім СКВ размяркоўваюць на біржы, і неафіцыйны — «чорнага рынку». Спекулянты, якіх абяцалі пакінуць без работы, дзякуючы такой палітыцы якраз і будуць працвітаць. Сёння «мянялы» на «Камароўцы» маюць, паводле публікацый у друку, да 1000 USD у дзень, а фінансавыя фірмы, якія канверсуюць грошы прадпрыемстваў, вядома ж, яшчэ больш. Ну, а для штодзённых патрэб эканомікі, а тым больш для грамадзян валюты будзе ўсё менш і менш.

Падлічыце, колькі губляе дзяржава? Дапусцім, ёсць іншыя разлікі, напрыклад, гэтыя меры дапамогуць зменшыць інфляцыю? Але ўсе законы эканомікі паказваюць, што яна якраз і ажыве і адаб'ецца ў першую чаргу на цэнах на спажывецкія тавары. Імпарцёры ў большасці сваёй будуць купляць валюту па-за біржай, гэта значыць па курсу «чорнага рынку», а ён, як вядома, значна вышэй за афіцыйны.

Не так даўно адбылася прэс-канферэнцыя старшыні праўлення Нацыянальнага банка Т. Віннікавай, якая паведаміла аб тым, што ў бліжэйшы час курс будзе зменены і назначаны новы валютны калідор. Крытэрыем будзе служыць рэнтабельнасць прадпрыемстваў, якія працуюць на экспарт. Вызначацца гэты калідор будзе па сярэдніх паказчыках. Курс беларускага рубля ў адносінах да долара павінен скласці дзесьці 15.500—17.000 рублёў. Аднак вядома, што ўжо сёння (зноў жа па словах Т. Віннікавай) гэты курс для многіх прадпрыемстваў павінен складаць і 18000 і 22000 рублёў, а можа і больш. Інакш кажучы, набытыя праблемы не так проста разгрэбці. Для таго, каб справіцца з імі, патрэбны шырокамаштабныя рэформы.

**Валерый КРУГАВОЙ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

# ГОРЫЧ ПАРАЖЭННЯ, РАДАСЦЬ ПЕРШЫХ ПОСПЕХАЎ, ВЕРА Ў ПЕРАМОГУ...

## *Такія пачуцці несла франтавая пошта першых месяцаў вайны*

**Лісты з фронту да родных, блізкіх, сяброў, нягледзячы на суб'ектыўнасць успрымання падзей, тым не менш, трэба аднесці да дастатковага праўдзівых сведчданняў пра цяжкія будні мінулай вайны. Як у люстэрку, у іх адлюстраваны настроі і пачуцці тых, хто пазнаваў вайну не па чутках, не па прапагандысцкай версіі, а дзень пры дні сутыкаўся з яе крывавым аблічам у акопах, пры адступленнях і наступленнях, зведваў на самім сабе, балансуючы пастаянна паміж жыццём і смерцю. Няма, вядома, упэўненасці, што ўсе з тых, каму належалі друкуемыя далей лісты, выжылі ў ваенным ліхалецці. Магчыма, поўныя тэксты гэтых лістоў дзесьці зберагаюць як сямейныя рэліквіі. Мы ж звяртаемся да вытрымак з іх, што захаваліся ў архівах як сведчанні пра мінулае, якому ўжо 55 гадоў.**

ПАДБОРКА лістоў, якая друкуецца, датавана ліпенем-жніўнем 1941 г. Аднак падзеі на фронце яны паказваюць з першых дзён фашысцкага ўварвання на тэрыторыю Беларусі. Вытрымкі адабраны са спецзводак Гомельскага пункта па апрацоўцы дакументаў дзеючай арміі Цэнтральнага фронту (пункт «ПК»). Рыхтавалі іх для членаў Ваеннага савета фронту і першага сакратара ЦК КП(б)Б. У спецзводцы за 4 жніўня 1941 г., напрыклад, адзначана: «3-4 жніўня праз пункт прайшло — 3400 дакументаў, апрацавана — 3400, падвергнута «К» — няма»; у спецзводцы за 5 жніўня: «прайшло — 3257, апрацавана — 3257, падвергнута «К» — 4".

Такім чынам, можна лічыць, што пасля кантрольнага прагляду практычна ўсе лісты працягвалі шлях да адрасатаў, затрымлівалі толькі адзінкі з іх. Разам з тым, ёсць паказанні на абзацы, якія выкрэсліваліся. Але гэта — звычайная работа ваеннай цэнзуры.

Агляды лістоў у спецзводках дазваляюць засяродзіць увагу на трох групах сведчанняў пра першыя дні вайны. Адна з іх — пра адступленне, атмасферу панікі, уцёкаў з лініі фронту, страту зброі, здачу ў палон. Даволі значная частка — разважанні аб прычынах катастрофы, што напаткала Асобую Беларускую ваенную акругу (з пачаткам вайны — Заходні фронт), чуткі пра здраду камандуючага фронтам генерала арміі Д. Р. Паўлава — яны распаўсюджваліся амаль паўсюдна.

Як вядома, ніякай здрады не было і ўсе абвінавачаныя ў ёй рэабілітаваны. Найбольшая колькасць — пра масавы патрыятызм, самаахвярнасць, калі на нямецкія танкі і гарматы ішлі са штыкамі наперавес, часам, у азлобленасці, кідаліся з аднымі сапёрнымі лапаткамі і гінулі. Ёсць пра баязлівасць, шкурніцтва. Лістоў адкрыта панікёрскіх, з праявамі маладушнасці, жадання ўцалець любой цаной ўсё ж нямнога — 0,2 працэнта штодзённай пошты.

Усё пераплялося тады ў адзін клубок: разгубленасць ад нечаканасці нападу, роспач паўсюднага адступлення, вернасць воінскаму абавязку і ўпэўненасць, што няўдачы пройдуць, што за імі абавязкова будзе перамога. Маладушша, баязлівасць і беззапаветнасць подзвігу...

Агляды франтавых лістоў, з якіх узяты вытрымкі, захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Падаюцца ў перакладзе на беларускую мову.

### ДАРОГІ АДСТУПЛЕННЯ

Сцякаючы крывёю, адчайна супраціўляючыся, адыходзілі ў глыбіню краіны разбітыя чырвонаармейскія часці. Ішлі пешшу, пераважна па лясах, часам згубіўшы ў баях ці кінуўшы зброю.

Немцы рваліся наперад па дарогах на магутных машынах, бронетэхніцы, апярэджваючы адступаўшых, акружаючы іх, сеючы паніку. Захоплівалі палонных. Некаторых палонных (аб гэтым гаворыцца ў лістах), раздзеўшы дагала, адпускалі, каб тыя расказвалі, што перамагчы германскую моц немагчыма.

У дакладзе аб дзеяннях часцей 21-га стралковага корпуса за перыяд з 22 чэрвеня па 6 ліпеня ёсць фраза, якая дакладна перадае стыхію адступлення: гэта жудаснае і страшэннае відовішча, калі людзі, якія прагнуць барацьбы, захоплены стыхіяй і адыходзяць, не разумеючы, што адбываецца.

Адзін з чырвонаармейцаў з горыччу пісаў 31 ліпеня 1941 г. сваім родным аб выніках першага месяца вайны: «Немцы ўжо занялі амаль усю Беларусь. Занятыя яе часткі амаль усе разбомблены, спалены. Застаўся толькі попел ад Беларусі».

Горкія шляхі адступлення, выкліканыя ім пачуцці знаходзілі адлюстраванне у многіх лістах.

**Ад Хабарава А. П. (дзеючая армія, г. Гомель) у сяло Краснаборскае Краснаборскага раёна Архангельскай вобл., Акаловіч В. А.**

*Як Вам вядома, Германія аб'явіла нам вайну, і я па трывозе выехаў з батарэяй на граніцу. Але ў сувязі з налётамі авіяцыі праціўніка наша часць была разбіта і адыходзіла Бог ведае куды. А немец рухаўся наперад, захопліваючы нашу тэрыторыю, і мы засталіся ў яго тыле, у акружэнні. Многа нашых байцоў трапіла ў палон, паранена і забіта. Але я лясамі і балотамі, галодны і абарваны ішоў 1000 км 32 сутак аж да ракі Дняпро.*

*1/VIII. 41 г.*

**Ад Гушчына (дзеючая армія, Бляеўка) у с. Мельнічнае Шуйскага р-на Іванаўскай вобл., Гушчынай Л. М.**

*Я быў у акружэнні пад горадам Рагачовам больш як два тыдні. Нам быў дадзены загад памерці, а горад адстаяць. Але памерці не давялося, таксама і горад не абаранілі, таму што ў нас не было ні ежы, ні запасаў снарадаў. Апошнім часам нам давалі толькі па 100 грамаў хлеба, а потым і гэтага не стала. І мы пачалі прабівацца з акружэння. Ішлі лясамі, балотамі, прабіваліся 8 сутак без кавалка хлеба. Пілі толькі балотную ваду. Самае цяжкае для нас было, калі пераходзілі агнявы рубеж немцаў. Ён нас частаваў тут з кулямётаў. Многія палеглі, а хто трапіў і ў палон.*

*5/VII. 41 года*

**Ад Сіора І. М. (дзеючая армія) у с. Нідагорна Градзіскага р-на Палтаўскай вобл., Сіора М. А.**

*Я думаю як-небудзь уцячы, каб застацца жывым. А ты дома як-небудзь сама арыентуйся ў становішчы ўлады і чым дыхаюць кіраўнікі сяла. Ліст сама прачытай і нікому не давай чытаць. Пішу ліст у акопе пад свіст снарадаў. Пакуль што яшчэ жывы і думаю і надалей быць жывым. У нас у батарэі многа загінула людзей. Больш за ўсё ўцякло ці трапіла ў палон. Адступалі два разы і потым зноў адступалі. А далей невядома што будзе, хутчэй за ўсё, зноў давядзецца адступаць.*

*Канец ліпеня 1941 г.*

### РАЗГУБЛЕНАСЦЬ ДУМАК

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захавалася копія ліста аднаго з вайскоўцаў (прозвішча не названа), пасланага ў жніўні 1941 г. з Гомеля ў ЦК ВКП/б) І. В. Сталіну. «Лічу сваім абавязкам паведаміць Вам, — піша аўтар, — некаторыя даныя становішча ў арміі. Некаторыя з іх, відавочна, Вам вядомы і маюць чыста інфармацыйнае значэнне. Іншыя патрабуюць неадкладных мераў».

Далей ідуць раздзелы аб недахопах і памылках у арганізацыі палітычнай работы, баявых дзеяннях пяхоты, барацьбе з нямецкімі танкамі, штабной рабоце. Падрабязна аналізуюцца настроі ў адступаючых часцях, чуткі, якія бударажылі чырвонаармейцаў і зніжалі баявы дух арміі. У гэтай сувязі ў лісце гаворыцца: «Акалічнасці адыходаў хвалююць байцоў, малодшы і сярэдні начсастаў. Большасць робіць няправільныя высновы, будучы нядольнымі растлумачыць сабе сапраўдныя прычыны, а палітсастаў абыходзіць гэта галоўнае пытанне.

Адсюль усялякія меркаванні аб здрадніцтве, аб адсутнасці сіл, перабольшанне магутнасці ворага».

Аўтар папракае палітработнікаў за тое, што яны «пад ціскам цяжкіх абставінаў» не гутараць з байцамі і зусім не працуюць з папаўненнем, якое прыбывае на фронт. Маршавыя роты, піша ён, «многія дні ў час руху знаходзяцца пад уладай фантастычных чутак пра справы на фронце. Пры першай жа бамбёжцы людзі з эшалонаў разбягаюцца, многія потым зноў не збіраюцца і асядаюць у лясах, лясы прыфрантавых абласцей запоўнены такімі ўцекачамі».

**Многія лісты пацвярджаюць гэтыя высновы. Спашлёмся на два з іх, як найбольш характэрныя. В. Клюкін, відаць, камандзір, у лісце свайму брату ў г. Саратаў так тлумачыў прычыны паражэнняў у першы месяц вайны:**

*«Якое ж становішча спраў на фронце? — ты пытаеш. А вось такое. Выяўлены буйная здрада, здрадніцтва, шпіянаж. Германскім шпіёнам і здраднікам Радзімы аказаўся камандуючы Асобай Беларускай ваеннай акругай генерал арміі Паўлаў і пры ім шмат іншых. Малюнак пачатку наступлення германскіх сіл з першага дня, г. зн. з 22/VI раніцай, быў наступны. Ішлі лавінай, бамбардзіравалі арсеналы, склады, аэрадромы, танкавыя паркі. Нашы войскі ў паніцы беглі, а калі хто спрабаваў супраціўляцца, то хутка падаўляўся перавагаю праціўніка альбо не хапала боепрыпасаў. Ты разумееш: з танкаў былі зняты акумулятары на «зарадку», самалёты былі заліты бензінам з вадою. Гэтым Паўлавым быў аддадзены загад пачаць вучэнні з халастымі патронамі, камсастаў за 100 кіламетраў ад граніцы быў выкліканы на «нараду». Ворагу былі вядомы ўсе нашы тайнікі. Армія апынулася без авіяцыі і нават без зброі і боепрыпасаў. Вось у якім выглядзе паўстае пачатак вайны. Толькі здрадніцтва і шпіянаж дапамаглі прасунуцца наперад германскім войскам.*

*1/VIII—41 года».*

**Чырвонаармеец Лівая (дзеючая армія, п-п/ст, 113, п/с 24) пісаў свайму бацьку ў в. Сінкаўцы Залатаноснага раёна Палтаўскай вобл.) аб сіле германскай арміі:**

*«Ідзе вайна, што страшна нават і падумаць. Я цяпер знаходжуся ў палку запасным. Я яшчэ страшнага нічога не бачыў. Але Вы, бацька, ведаеце, які моцны немец, нават ніякая куля яго не бярэ. У яго ўсё браніраванае. А ён нашых б'е так, што нельга і глядзець.*

*Мы зараз як зайцы ў полі. Не спім, не ядзім, ходзім як сонныя і ўсё думаем, што смерць за плячыма. Днямі наляцелі нямецкія самалёты, дзевяць штук, разоў дзесяць нас абляцелі, а потым як пачалі з кулямётаў страчыць і кідаць бомбы, дык не засталося ніводнага чалавека, ніводнага каня, ніводнай павозкі. Усё змяшалі з зямлёю. Калі б не гэтыя самалёты, дык нашы б разбілі яго ўшчэнт. А так ён сваімі самалётамі не дае нам нават уверх глянуць. А нашы самалёты чорт іх ведае дзе падзеліся. Тут ніводнага няма. І хто ведае, калі вайна скончыцца. Немцы хочуць да 25-га забраць Кіеў і Маскву. Можа і забяруць, бо нашы сілы выдыхліся.*

*6 жніўня 1941 г.*

*г. Гомель.»*

### МУЖНАСЦЬ, САМААХВЯРАВАННЕ

Шматлікія франтавыя лісты канца ліпеня-жніўня 1941 г. паказваюць, як нарастала воля байцоў і камандзіраў да супраціўлення, мацнелі стойкасць у абароне, рашучасць у атаках, як павышаліся арганізаванасць і баяздольнасць. Мужнасць, самаахвярнасць — так можна вызначыць пачуцці, якія валодалі тысячамі воінаў, натхнялі іх на геравічныя ўчынкі ў змаганні з ворагам.

**Ад Меднікава В. С. (дзеючая армія, г. Гомель, шпіталь) у арцель «Металіст» Звенігародскага р-на Маскоўскай вобл., Лобаравай А. Г.**

*«Рана ад асколка ў руку ўжо праходзіць. Праз некалькі дзён вяртаюся ў сваю часць. Уступлю зноў у бой з немцамі, якія Чырвонай Арміі пачынаюць баяцца. У Вас, магчыма, вядуцца размовы, што нас разаб'юць і ўсім нам смерць.*

*Усё гэта няпраўда. Перамога будзе за намі. Праціўнік цяпер не наступае, а яго армія пачынае таяць, хаця тэхніка ў яго даволі моцная. Але нічога, байцы даходзяць да такога стану, што калі са строю выходзіць зброя, то ідуць на ворага з простай чырвонаармейскай лапатай. Я гэта бачыў на свае вочы. У некаторых месцах бывае цяжка, бывае здрадніцтва, але такіх байцы колюць на месцы. Калі Вы ў тыле пачуеце нямецкі шэпт, то біце іх адразу на месцы, як мы. Немцы жорстка распраўляюцца з мірным насельніцтвам, гвалцяць і ўзнімаюць на штыкі маладых дзяўчат, расстрэльваюць хлапцоў. Вешаюць раздзетых дагала людзей на тэлефонных правадах — я гэта бачыў сам. Я ледзь не звар'яцеў, калі ўбачыў усё гэта на свае вочы.*

*29/VII-41г».*

**Ад Цяраева (дзеючая армія, п-п/ст., 544/і) у п/а Паўшына Маскоўскай вобл., вул. 2-я Савецкая, Балотнікавай І. А.**

*«Знаходжуся на фронце не ў якасці адступаючага, а ў якасці наступаючага (маецца на ўвазе контрудар на Рагачоўска-Жлобінскім напрамку, праведзены 63-м стралковым корпусам 13 ліпеня—17 жніўня 1941 г. — Р. П.). Даволі, хопіць. На нашым участку немец адступае, хаця яшчэ марудна. Што будзе далей, пабачым. Калі мы адыходзілі, балюча было глядзець на мясцовых жыхароў, якім даводзілася заставацца, іх чакала жыццё пад уладай фашыстаў. Са слязамі на вачах праважалі яны нас, але мы нічога не маглі зрабіць. Цяпер наша артылерыя і авіяцыя пануюць, і немцы вымушаны свае танкі закопваць у зямлю. У гэтым месяцы адбыліся буйныя змены (мы нанеслі фашыстам моцны ўдар), і калі Англія больш дапаможа (утворыць Заходні фронт), то ўжо ў гэтым годзе слава фашызму можа застацца аднымі ўспамінамі.*

*29/VII-41 года».*

**Ад Ткачэнкі Ф. М. (дзеючая армія, п-п/ст. 697, в/ч 7894) у г. Харкаў, вул. Леванеўскага, д. 29, кв. 11, Зажывіхінай А. С.**

*«Хутка прыйдзе час, калі немцы пакоцяцца туды, адкуль яны прышлі. Учора адзін лейтэнант на нямецкай машыне з экіпажам накіраваўся ў размяшчэнне немцаў. Разбіў нямецкую батарэю з 4 гармат, знішчыў бранявік, знішчыў шмат немцаў, вызваліў 12 палонных параненых чырвонаармейцаў. Прыцягнуў на буксіры 4 гарматы, бранявік, 4 палонных і 12 чырвонаармейцаў. За гэта камандаванне прадставіла ўвесь экіпаж да вышэйшай узнагароды. З такімі людзьмі можна ваяваць.*

*2/VIII-41 года».*

**Ад Радзівонава (дзеючая армія, п-п/ст.261, в/ч 387) у г. Куйбышаў, вул. Фрунзе, III, Радзівонаву А. В.**

*Вінтоўкі моцна трымаем у руках, гарматы нашы б'юць даволі трапна, а гэта вельмі не па нутру немцам. Нямецкія афіцэры адкрыта гавораць нам, што да артылерыстаў лепш не трапляць у палон. Нямецкая артылерыя страляе дрэнна. У большасці выпадкаў упустую. Калі наша артылерыя адкрывае агонь па немцах, яны ў паніцы ўцякаюць. Кідаюць усё, што ў іх ёсць. Многіх з іх ужо прыняла зямля і яшчэ прыме. Немец вельмі баіцца нашай артылерыі і нашага штыка. Куды ў час такой атакі знікае іх ваяўнічы дух, не ведаю. У атаку супраць нас не ідуць, адступаюць. Будзьце цвёрда ўпэўнены, што ў недалёкім будучым немцы пашкадуюць аб сваёй вялікай памылцы, аб пагібельнай для сябе задуме. Яны зразумеюць, што такое гнеў рускага народа. Гора таму, хто яго выклікае.*

*3/VIII-41 года».*

З франтавых лістоў бачны перамены, якія пачалі адбывацца ў дзеючай арміі, асабліва ў ходзе баёў пад Магілёвам, каля Гомеля і Рагачова. Аўтар ліста на імя Сталіна называе такія паказчыкі відавочных змяненняў у баявых дзеяннях і маральным стане войскаў:

— выпадкі ўцёкаў з часцей пры наступленні праціўніка становяцца больш рэдкімі, часці лёгка аднаўляюцца і зноў ідуць у бой;

— палітработнікі і камандзіры бравіруюць небяспекай, пагарджаюць прыкрыццямі і многія гінуць;

— азлобленасць байцоў нарастае і іх атакі бываюць лютымі;

— раненыя ідуць на санітарныя пункты і нясуць з сабой зброю, збіраюць на полі бою вінтоўкі, якія раней, як правіла, кідалі;

— часці, якія аказаліся ў акружэнні, б'юцца і прарываюцца да сваіх, наносячы немцам вялікія страты;

— большасць лістоў, якія пасылаюцца з фронту на радзіму, з'яўляюцца патрыятычнымі, сведчаць аб росце нянавісці да ворага і аб упэўненасці ў перамозе.

***Калі рабіліся гэтыя абагульненні, ішоў другі месяц вайны.***

**Расціслаў ПЛАТОНАЎ,**
**галоўны навуковы супрацоўнік**
**Бел НДІ ДАС,**
**доктар гістарычных навук.**





# ЯГО ВАЙНА

## ОСТАРБАЙТЭР

Я яго ведаю даўно, з маленства. Можна сказаць, больш за трыццаць гадоў. Ён бацька майго школьнага сябра Ігара. Ігар зараз у Маскве, я — у Мінску, пішу пра яго бацьку — Пятра Данілавіча Гардзюка.

Уражанне дзяцінства: строгі, няўсмешлівы чалавек. Аднойчы прынёс сыну ў дзіцячы садок аўтамат АК. Мадэль. Пётр Данілавіч быў тэхнічным чалавекам: ён працаваў у сельгастэхніцы. Ці то слесар, ці токар, па прычыне юных гадоў у такія тонкасці я, вядома, не ўдаваўся.

Цяпер ён пенсіянер. Аматар развядзення трусоў, знакаміты на ўвесь пасёлак. Да яго ходзяць па параду. Апрача таго, садзіць бульбу і іншую карысную агародніну.

Не так даўно высветлілася, што ён год адседзеў у германскім працоўным лагеры як член сям'і партызана.

Пётр Данілавіч маўчаў аб гэтым усё жыццё...

## ДАРОГА Ў ФАТЭРЛАНД

У красавіку 44-га ён быў проста Пеця. Другі па ўзросту ў сям'і з пяці дзяцей. Справа вядомая: жылі, працавалі ў калгасе з загадкавай назвай «3-ці рашаючы», вайну перажылі без страт. Вось-вось павінна была пачацца аперацыя «Баграціён» — вызваленне Беларусі. Чакалі.

Тым часам старэйшы Грыша ваяваў у партызанах. Сенненскі раён, дзе яны жылі ў вёсцы Забор'е, — у прыватнасці, а Віцебшчына ўвогуле лічыліся партызанскім краем. Мірнае насельніцтва моцна цярпела. То блакада, то карная экспедыцыя.

2 красавіка 16-гадовы Пеця разам з такімі ж «байцамі» накіраваўся ў партызаны. Зразумела: вайна заканчваецца, хочацца пав253ваяваць. Партызанаў, праўда, не знайшлі. Прыйшлося вяртацца дадому.

Пеця вярнуўся і палез спаць на гарышча. Тут яго ранкам і знайшоў мясцовы паліцай: «А ты тут чаго сядзіш? Давай уніз!»

А ўнізе ўжо былі бацька і маці. Усіх траіх арыштавалі. Хтосьці данёс, што гэта сям'я партызана. Арыштавалі яшчэ некалькі сем'яў. У Гардзюкоў дома засталіся трое малых. Іх не бралі. Фатэрланду дзеці былі непатрэбныя.

Значыць, расстрэльваць не будуць...

Арыштаваных павезлі ў Сенненскую камендатуру. Там быў допыт, відаць, больш фармальны: хто, што, як, калі. З Сянно — у Багушэўск. Там пасадзілі ў таварныя вагоны, арыштанты зразумелі, што павязуць іх не ў Маскву, а ў зусім процілеглым напрамку...

Праз тры дні апынуліся ў Беластоку. Тут выдалі харчаванне. Бохан хлеба з разліку на тры дні. Не так і дрэнна. Маглі б нічога не даць.

Ехалі далей даволі доўга. Але ўрэшце прыехалі ў горад Штутгарт, у перасыльны лагер. Тут паток остарбайтэраў размяркоўвалі па лагерах. Нашы героі трапілі ў гарадок Пепінген. Гэта Паўднёвая Германія, паблізу швейцарскай мяжы. Поўная экзотыка...

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ФАТЭРЛАНД. І БЫВАЙ

Аднак вось і слаўны Пепінген. Чым ён слаўны, шчыра кажучы, не ведаю. Кожны германскі горад чым-небудзь слаўны. Гэты, верагодна, працоўным лагерам для остарбайтэраў.

Тут іх было шмат. Нехта трапіў сюды як падазроны тып, небяспечны для вермахта, хтосьці «па хапуну». Што гэта такое? Гэта калі немцы адлоўлівалі народ і адпраўлялі на работу ў Германію. Мая маці гэта добра памятае.

Звычайна прыязджалі на досвітку. Бабы якраз выганялі кароў у статак і першыя падымалі трывогу: «Хапун!» Вестка імгненна аблятала мястэчка. Моладзь ратавалася хуткімі нагамі. Адседжваліся ў лесе. Моцна перажывалі, калі ніхто не паспяваў захапіць карты. Добра ўсё ж такі быць маладым. Нічога не разумееш, што не так дрэнна...

Пецю, як самага маладога, адправілі працаваць на бункеры, іх рабілі ў скалах. Бацька шчыраваў на мясцовым заводзіку, а маці гатавала ежу. Жылі ў сямейным бараку на 200 чалавек.

У параўнанні з лагерам смерці тут жыць можна было. Даволі вольныя парадкі, зноў жа, не расстрэльвалі проста так. Праўда, зарабіць «русіш швайне!» было лёгка. Што не так — у зубы. Камендант лагера, кульгавы лётчык, быў строгі.

Немцы, кажа Пётр Данілавіч, былі розныя. Большасць ставілася да палонных з непрытоенай пагардай. Ну, ясна, untermensch, недачалавек.

Пепінген вызвалялі амерыканцы. Ніякага бою не было, увайшлі ў горад ды і ўсё. А немцы дысцыплінавана вывесілі белыя сцягі, трэба думаць, пашытыя загадзя.

Вайна скончылася, а ў Пепінгене з'явіліся чатыры камендатуры: амерыканская, англійская, французская і савецкая. Апошняя і занялася остарбайтэрамі. Адпраўкай іх дадому. Адначасова вялася, скажам так, аператыўная работа. Выяўлялі шпіёнаў разнастайных разведак. Увогуле ж, дадому Пеця з сям'ёю паехаў толькі праз чатыры месяцы. Кажуць, быў вельмі вялікі паток эшалонаў з цэнтральнай і ўсходняй Германіі.

Ім, я думаю, моцна пашанцавала. Акуратныя немцы адзначылі ў дакументах, хто яны і за што тут апынуліся. На радзіме заставаліся сведкі, яны маглі пацвердзіць. Таму паехалі яны не ў Комі АССР, куды адпраўлялі большасць «перамешчаных асоб», а дадому, у Беларусь..

## АХ, РАДЗІМА, РАДЗІМА...

Брэст. Орша, нарэшце Сянно. Дома. Слёзы, слёзы, слёзы і крыху радасці. Так, іх сям'я вайну перажыла. Без страт у жывой сіле, калі можна так сказаць.

Потым пачаліся допыты ў НКУС.

Дапытвалі, памятае Пётр Данілавіч, каля месяца. Нягледзячы на сведак і дакументы. Я так разумею, следчы стараўся высветліць: чые ўсё ж перад ім шпіёны — англійскія, амерыканскія, французскія ці, можа, нямецкія? Інакш кажучы, іх зараней падазравалі. Тады было проста: быў за мяжой — вечна на падазрэнні.

Скончылася і гэта, як дрэнны сон. Так здавалася. Праз нейкі час высветлілася: спадзяванні дарэмныя. Не забываюць ні пра кога. У радзімы «нядрэмнае вока». Пятра Данілавіча не бралі ў армію. Па ўзросту павінны былі ўзяць яшчэ ў 1946 годзе, а трапіў ён туды толькі ў 50-м. І адразу на Кольскі паўвостраў. Месца вельмі прыгожае, але даволі халоднае. Як гаворыцца, дванаццаць месяцаў зіма, астатняе лета...

Я стаўлю сябе на месца Пятра Данілавіча. Скончылася вайна, паўсюдна грымяць медалі і ордэны франтавікоў, а ён... Ён малады і здаровы, а як бы калека, чалавек другога гатунку. Для немцаў быў недачалавек, для сваіх — таксама. Тады куды? Каму патрэбны?

Ён проста замаўчаў. Нікому, і ніколі, і нічога. Выкрэсліць гэты пракляты год. Не было яго. Жыццё, дзякуй Богу, навучыла адразу і назаўсёды.

...З часам раны зацягнуліся. Паступова ўсё наладзілася. Сям'я, спачатку дачка, потым сын. З Сянно Пётр Данілавіч з'ехаў. Чаму — думаю, зразумела.

У начальнікі ніколі не рваўся. Ды яго б і не пусцілі. Затое былі работа, дом і сям'я. Яго нават у партыю прынялі. Хто прымаў, яго анкету, вядома ж, чытаў. Але — для масавасці плюс да таго ж рабочы. Можна заплюшчыць вочы на мінулае. Таксама ж, заўсёды пад наглядам.

Ляснула партыя, ляснуў СССР, чорнае сталі лічыць сапраўды чорным, белае — белым. З галавы ўсё перавярнулася на ногі. Жывём далей.

Тут і ўзнікла пытанне кампенсацыі ахвярам фашызму. Вязням дазволілі быць нармальнымі людзьмі. Германія пагадзілася выплаціць нейкія грошы тым, хто наведаў яе падчас вайны. Па іх маштабах — грошы мізэрныя, а выплаты разавыя. Бацька Пятра Данілавіча не дачакаўся і іх, а маці і ён атрымалі. Фатэрланд пра іх усё ж такі ўспомніў.

Зразумела, справа тут не ў суме. Германія публічна прызнала свае грахі і папрасіла прабачэння. Нельга не ацаніць. Радзіма зноў не заўважыла. Напрыклад, ніякіх такіх асаблівых ільгот, даплат да пенсіі, як у франтавікоў, Пётр Данілавіч не мае. Зноў жа, справа не ў ільготах. Тым самым прызнана, што гэтыя людзі, вязні фашысцкіх лагераў, ніяк не пацярпелі. Яны як бы самі апынуліся ў Германіі...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**



## ОРША. НАВЕЙШАЯ ГІСТОРЫЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Кіраўнік групы пошуку Рыгор Шарай і яго памочнікі Віктар Быкаў, Андрэй Сірачэнка, Дзіма Каданаў, Вадзім Лустаў, Саша Баравікоў, Андрэй Пікуль, Саша Кухарэнка, Андрэй Старасценка ды Сяргей Лапкоўскі (некаторыя з іх на здымках) правяралі раскопкі і пацвердзілі акт злачынства гітлераўцаў на беларускай зямлі. Гэтыя мужныя хлопцы ўласнымі намаганнямі расчысцілі зарослы ельнікам пляц. Самі змайстравалі крыж і запрасілі святара асвяціць яго. Атрымалася па-славянску, па-царкоўнаму, па-нашаму.

У двары адной са звычайных шэрых вуліц горада было тое, чаго яшчэ так багата вакол, — бруд, хлявы, прыбіральні... Магчыма, гэтак цягнулася б і далей, каб не той факт, што якраз на гэтым месцы падчас вайны рабіліся пахаванні савецкіх людзей. Група «Русічы», валодаючы інфармацыяй і абураная гэткім «ненаўмысным» глумленнем з памяці ахвяр, правяла даследаванні. Як заўсёды, асноўны цяжар працы лёг на плечы саміх «пэтэвушнікаў», якія выбралі сабе святое хобі. У ходзе раскопак пацвердзіліся даныя пра пахаванне 5 тысяч ваеннапалонных Чырвонай Арміі ў перыяд з 1941-га па 1943 год. Праз нейкі час тут, як і належыць, узнік помнік.

Азіраючыся на зробленае хлопчыкамі з «Русічаў», з сумам думаецца пра бездапаможнасць і нават абыякавасць дзяржавы.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**

*Фота аўтара.*

## НЯХАЙ НАМ НІКОЛІ НЕ БУДЗЕ СОРАМНА ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Як вядома, пад плітамі Брэсцкай крэпасці пахаваны астанкі 850 абаронцаў, якія першымі сустрэлі ўдар нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Прычым асабовы састаў воінскіх часцей Брэсцкага гарнізона ў 1941 годзе быў сфарміраваны з прадстаўнікоў 30 нацыянальнасцей былога Саюза ССР. Таму, як адзначыў у гутарцы з карэспандэнтам БЕЛТА дырэктар прадстаўніцтва МТРК «Мір» у Беларусі Іван Пашкевіч, які з'яўляецца сустаршынёй аргкамітэта тэлерадыёмарафону, Брэсцкую крэпасць можна смела назваць святыняй не толькі для Беларусі, але і для ўсіх дзяржаў СНД. І арганізатары вырашылі запрасіць для ўдзелу ў тэлерадыёмарафоне максімальна магчымую колькасць прадстаўнікоў краін Садружнасці.

Запрашэнні былі разасланы ва ўсе дзяржавы Садружнасці, дыпламатычныя прадстаўніцтвы, акрэдытаваныя ў Беларусі, у суседнія ваяводствы Польшчы. Асабістыя запрашэнні атрымалі абаронцы Брэсцкай крэпасці, якія засталіся ў жывых. Пацвердзілі намер прыняць удзел у акцыі прадстаўнікі ветэранскіх арганізацый і адміністрацый усіх гарадоў-герояў, аблвыканкомаў Беларусі і ветэранскіх арганізацый абласцей і раёнаў рэспублікі. Акрамя таго, арганізатары запрасілі на тэлемарафон прадстаўнікоў гарадоў-пабрацімаў Брэста.

Тэлерадыёмарафон пройдзе ў два этапы. Афіцыйнае адкрыццё яго адбудзецца 21 чэрвеня ў 21.30 на тэрыторыі мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой». Па задуме арганізатараў, тэматыка першага дня не павінна разыходзіцца з той мірнай і дружалюбнай атмасферай, якая панавала ў горадзе над Бугам 55 гадоў таму. У гэты вечар выступяць вядучыя выканаўцы песеннага жанру Беларусі, на сцэну выйдуць кінаакцёры і эстрадныя выканаўцы з Расіі. Прагучыць спецыяльна напісаная Анатолем Ярмоленкам на словы Уладзіміра Някляева песня «У 4 надзіны».

Асноўныя мерапрыемствы пройдуць 22 чэрвеня. У 10 гадзін на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці каля Свята-Нікольскай царквы, што захавалася, прагучаць першыя пазыўныя тэлерадыёмарафону, прысвечанага 55-годдзю абароны гераічнай цытадэлі. Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі, пры ўдзеле ўсяго епіскапату Беларускай праваслаўнай царквы, будзе праведзена літургія па забітых. У рамках марафону пройдзе памінальная літыя, на якой будуць прысутнічаць усе госці мерапрыемства.

Афіцыйная частка тэлерадыёмарафону пачнецца з выступлення Прэзідэнта нашай рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі і вынасу Сцяга Брэсцкай крэпасці для ўрачыстага праходжання войскаў. Затым адбудзецца перапахаванне астанкаў яшчэ 72 абаронцаў цытадэлі.

Пасля паўдня ў Брэст прыбудзе самая прадстаўнічая ў гісторыі ўзаемаадносінаў Беларусі і Расіі дэлегацыя суседняй краіны на чале з Прэзідэнтам Барысам Ельцыным. У яе саставе таксама Віктар Чарнамырдзін, Ягор Строеў, Генадзь Селязнёў, Аляксандр Лебедзь, Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II, мэры Масквы і Санкт-Пецярбурга. Увогуле афіцыйная дэлегацыя Расійскай Федэрацыі налічвае больш чым 100 чалавек. Чакаецца, што ў ходзе марафону выступіць кіраўнік Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын. Плануецца, што Аляксандр Лукашэнка перадасць расіянам для размяшчэння ў музеі на Паклоннай гары дублікат Сцяга Брэсцкай крэпасці, а Барыс Ельцын беларусам — дублікат Сцяга Перамогі. Цырымонія будзе праходзіць з ваеннымі ўшанаваннямі. Запланавана таксама правядзенне сустрэчы прэзідэнтаў Беларусі і Расіі з прадстаўнікамі ветэранскіх арганізацый.

У гэты ж дзень, але ўжо за рамкамі тэлерадыёмарафону, пройдзе пасяджэнне Вышэйшага савета Супольніцтва Беларусі і Расіі, адбудуцца размовы вышэйшых службовых асоб абедзвюх дзяржаў, сумеснае пасяджэнне кіраўнікоў праваслаўных цэркваў. Паводле наяўных звестак, на пасяджэнні Вышэйшага Савета намечана разгледзець пытанні, звязаныя з ліквідацыяй вынікаў чарнобыльскай аварыі, узаемадзеяннем у галіне медыцыны і адукацыі.

Тэлерадыёмарафон, як ужо гаварылася, ставіць на мэце збор сродкаў на аднаўленне мемарыялу «Брэсцкая крэпасць-герой». Названы і карэспандэнцкія рахункі, на якія можна пераводзіць грошы. Беларускія рублі — на рахунак № 3041908961681 КБ «Акадэмбанк» горада Мінска, МФО 153001730 — тэлерадыёкампанія «Мір» з паметкай «Памяць», а долары ЗША і расійскія рублі — на рахунак № 3012000450014 АКБ «Залаты талер» горада Мінска, МФО 153001266 — тэлерадыёкампанія «Мір» з паметкай «Памяць». Менавіта гэтыя банкі выступілі спонсарамі праводзімага мерапрыемства.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

## З ЮБІЛЕЕМ, «ВОСЛАВУРОДИНЦЫ»

75 гадоў споўнілася адной са старэйшых вайсковых газет на ўсёй прасторы былога Савецкага Саюза. Гісторыя гэтага выдання (зараз газета Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь) вартая ўшанавання ў многіх фаліянтах. На старонках «Красноармейской правды» (ранейшая назва) друкавалі свае творы Якуб Колас, Кандрат Крапіва, шмат хто яшчэ з беларускіх пісьменнікаў. У час Вялікай Айчыннай першыя раздзелы «Васіля Цёркіна» таксама былі змешчаны ў гэтай газеце. І не выпадкова: Аляксандр Твардоўскі тады і сам працаваў у «Красноармейской правде».

Са святам, сябры і калегі!

**«Звязда».**

## СКУПЫ ПАПЛАЦІЎСЯ МІЛЬЯРДАМІ

На старэйшым шклозаводзе «Кастрычнік» Асіповіцкага раёна зафіксаваны крадзеж веку: з заводскага сейфа знікла больш за чатырнаццаць кілаграмаў плацінавай фільеры. Гэты каштоўны метал прызначаўся для вытворчых мэтаў. Агульны кошт выкрадзенага ацэньваецца ў два мільярды 130 мільёнаў рублёў.

Гэта здарылася ў выхадныя дні і з-за нядбайнасці кіраўніцтва прадпрыемства. Раней ахоўвала завод міліцыя, але адміністрацыя палічыла, што гэта паслуга для прадпрыемства дарагая.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БЕЛТА.**

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПАРК: БЕДНЫ СВАЯК ЦІ СКВАПНЫ ГАСПАДАР?

**У свеце сёння каля 1,5 тысячы нацыянальных паркаў.**
**У Польшчы — 22.**
**У Літве — 7.**
**На Беларусі створаны першы.**

У жніўні спаўняецца год з дня выхаду Пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Аб стварэнні нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры» і аб некаторых іншых пытаннях дзейнасці гэтага парку». Чаму менавіта на Браслаўшчыне? Дык жа гэта унікальны куточак Беларусі. Дастаткова сказаць, што на тэрыторыі раёна 300 азёр, сасновыя бары, багаты жывёльны свет... Год — гэта не такі тэрмін, каб гаварыць аб стварэнні адладжанай структуры, але ўсё ж прайшоўшы час многае памяняў у жыцці раёна, адбываецца няўхільнае афармленне, рост нацыянальнага парку як цэласнай сістэмы. Увогуле, што такое нацыянальны парк? Нам, беларусам, даводзіцца бачыць і чуць пра іх толькі з экранаў тэлебачання. І найчасцей размова ідзе аб Афрыцы ці Амерыцы, Заходняй Еўропе ці Аўстраліі. Мне здаецца, што нацыянальны парк адрозніваецца, напрыклад, ад запаведніка тым, што закліканы захоўваць і ахоўваць нейкі прыродны комплекс, ён у той жа час мае паралельную і не менш важную задачу прыцягнення на сваё ўлонне як мага большай колькасці людзей, бо функцыянуе і як турыстычны, выхаваўчы ў экалагічным плане рэгіён. І эканоміка, і гаспадарчая дзейнасць займаюць у нацыянальным парку далёка не апошняе месца.

Дык што сёння ўяўляюць сабой «Браслаўскія азёры»? Створана і дзейнічае дырэкцыя, якая налічвае 46 чалавек. Гэта не толькі адміністрацыя. Ёсць штат інспектараў па ахове прыроды, працуюць восем рабочых пажарнікаў, пачаў дзейнічаць невялікі навуковы аддзел. Нацыянальнаму парку перададзена 40 буйнейшых азёр, 70 тысяч гектараў тэрыторыі, з якіх 31 тысячу гектараў займаюць лясы. 70 тысяч гектараў складае так званая ахоўная зона. З ёю пад кантроль узяты 70 працэнтаў тэрыторыі раёна.

Любая новая справа пачынаецца з фінансавання. А вось з ім цяжкавата. Пакуль што не зроблены нават тэхнічны праект стварэння парку. А без яго пачынаць па-сапраўднаму такую адказную справу было б сама меней неабачліва. Парк падпарадкоўваецца Адміністрацыі Прэзідэнта, адтуль і ідуць грошы, але толькі на аплату работы дырэкцыі. На паперы яшчэ абяцаюць дапамогу Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і Віцебскі аблвыканком.

Думаю, што з цягам часу грошы, а толькі на гэты год патрэбна 1,8 мільярда рублёў, знойдуцца. Бо тое, што парк належыць да сферы дзейнасці Адміністрацыі Прэзідэнта, сведчыць не аб жаданні адміністрацыі ўсё «прыхапіць», а аб тым, якое значэнне надаецца ў Мінску захаванню унікальнага Браслаўскага паазер'я. Так выказваліся многія мае суразмоўцы.

Увогуле ж праблема нацыянальнага парку хвалявала грамадскасць Браслава даволі доўгі час. Утварыліся дзве партыі — «за» і «супраць» яго стварэння. Мне даводзілася ў той час пра гэта пісаць. Доўгі час сесія райсавета не давала згоды на стварэнне парку. І вось рашэнне зверху.

Але гэтыя акрэсленыя партыі «за» і «супраць» існуюць і сёння. Праўда, некаторыя акцэнты памяняліся. Але аб гэтым ніжэй. Я думаю, што трэба па меры магчымасці расказаць аб тым, у якім стане знаходзіцца сёння славутае Браслаўскае паазер'е, што атрымаў ад сваіх папярэднікаў парк.

Дырэктарам у ім Пётр Сітнікаў, які да гэтага доўгі час працаваў галоўным ляснічым у Браслаўскім лясгасе. Спадабалася мне, што пры сустрэчы ён прама заявіў: «У тым, што наша прырода ў такім заняпадзе, вінаваты і я, безумоўна. Я падзяляю меру адказнасці з тымі асобамі і арганізацыямі, якія дазволілі давесці прыродны комплекс да стану, калі гаворка ідзе пра ратаванне. Але калі выдаўся такі шанц папрацаваць на карысць прыродзе, я зраблю ўсё магчымае». Браслаўшчына ў плане экалагічным, па лініі ляснoй гаспадаркі вельмі многія гады лічылася ды і лічыцца рэгіёнам адметна лепшым. Але ўмяшанне чалавека ў адвечны і Богам дадзены кругаварот і тут такое глыбокае і бессаромнае, што стварэнне нацыянальнага парку — рашэнне нават крыху прыпозненае. Гэта не толькі мой погляд. Гэта погляд многіх з тых, хто выступаў і выступае «за».

Парадокс, але ахова прыроды мае шмат супярэчнасцей. Вось такі прыклад. Можна звярнуць увагу на адно, рыбнае, вядома, возера. І стараннямі адпаведных службаў поўнасцю, як кажуць, перакрыць яго. Зрабіць недапушчальным доступ да возера браканьераў усіх адценняў. Возера, безумоўна, пабагацее рыбай, адновіць сваю экалагічную раўнавагу. Але тыя, хто адказвае за яго стан, апынуцца ў разрадзе людзей маладзейных, неініцыятыўных — яны ж не склалі ніводнага пратакола аб затрыманні парушальнікаў.

Лясы — адно з багаццяў Браслаўшчыны. У прынцыпе, абыходзяцца тут з імі вельмі ашчадна — высечкі догляду. Гэта азначае (для людзей маладасведчаных), што выбіраюцца сярод карабельных соснаў, напрыклад, дрэвы толькі хворыя, сухія, па якіх спецыялісту бачна, што не жывуць, а толькі заражаюць наваколле. Дрэва, якое звалілася долу, ужо мала да чаго прыгоднае, а вось гэтыя яшчэ можна выкарыстаць. Ну а што робіцца сапраўды? Пётр Сітнікаў паказвае не без сардэчнага болю. Высякаецца, наадварот, самае лепшае, самае здаровае, а сухастой пакідаецца. І яшчэ каб ішло гэта лепшае на мэблю, на іншыя каштоўныя рэчы. Дык жа вельмі часта робяцца з залатога лесу паддоны для цэглы. З лесам у нацыянальнага парку будзе яшчэ шмат праблем. Ну хаця б такая: у раёне ёсць 28 тысяч гектараў калгасных лясоў. У тым ліку і на тэрыторыі нацыянальнага парку. Трэба, па сутнасці справы, браць іх пад кантроль. Бо бяздумная высечка нейкага бору ў калгасным лесе не можа не паўплываць адмоўна на экалагічны стан у суседніх барах, што належаць ужо парку. Але тут узнікае шэраг няўвязак, супярэчнасцей, нават варожасць. Як вырашыць гэту праблему я, напрыклад, не ведаю. Тое, што калгасы апынуліся на тэрыторыі нацыянальнага парку — не іх віна. І калгасы клапоцяцца найперш аб інтарэсах сваіх людзей, значыць, дбаюць аб інтэнсіўнай сельскагаспадарчай і іншай дзейнасці. Але гэта, зразумела, у многім не будзе супадаць з інтарэсамі нацыянальнага парку. Што павінна зблізіць інтарэсы? Не адміністрацыйнае ж уздзеянне. Напэўна, нейкая сістэма кампенсацый дзяржаве, а потым, калі ён пабагацее, і самога нацыянальнага парку.





**Дваццаць гадоў таму адзін з астравоў возера Снуды, што ўваходзіць у сістэму Браслаўскіх азёр, меў сумны жоўты колер — тут уладарылі сыпучыя пяскі.**
**Вось і задумаўся тады галоўны ляснічы Браслаўскага лясгаса Пётр Сітнікаў (цяперашні дырэктар нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры»), як вярнуць востраў да жыцця. Высаджвалі ў пясчаную глебу сосны, бярозы, елкі, аднак не ва ўсіх саджанцаў хапала сіл зачапіцца за пясок. Пяць, а то і шэсць разоў вяртаўся Пётр Елісеевіч з леснікамі на востраў, мянялі слабыя і засохлыя дрэўцы на здаровыя, падкармлівалі, палівалі і сачылі за імі. І свайго дабіліся. Ажыў востраў.**

**Уладзімір ФЯДОТАЎ.**
**Фота аўтара.**

Лясы Браслаўшчыны ў канцы васьмідзесятых гадоў славіліся дзічынай. Тут здабывалася за год 150 ласёў, па 350 дзікоў і казуль. Не раз вопытныя паляўнічыя, выехаўшы ўвечары на паляванне, прымалі статак ласёў у полі за прыпознены статак кароў, да 15 казуль можна было бачыць адначасова. І гэта ў той час, калі ў іншых раёнах на іх паляванне ўвогуле закрывалі з-за поўнай адсутнасці. Але працэсы, характэрныя для іншых тэрыторый, не абмінулі і Браслаўшчыну. Спецыялісты проста называюць іх «бойняй». Не сакрэт, што бывалі выпадкі, калі на адну ліцэнзію адстрэльваліся дзесяткі жывёл, калі ў лесе вясной знаходзілі ў адным месцы шкуры некалькіх ласёў і некалькіх казуль, прыхаваных у свой час пад снегам. Сёння і спецыялістам цяжка падлічыць, наколькі зменшылася пагалоўе. Але яны прызнаюць, што ў многа-многа разоў.

Гэтак жа і з рыбай. Помняць на Браслаўшчыне рэкордныя ўловы з адной тоні ў дзесяткі тон. Пісалі тады пра іх у газетах. А сёння тоня невада ў кіламетр даўжынёй дае мізэр. Чаму? Таму што азёры сталі бескантрольнымі кармушкамі людзей беспрынцыповых і сквапных. Сёння на Браслаўскія азёры прыязджаюць «турысты», якія выстаўляюць на ноч кіламетр, а то і больш сетак, а потым «адпачываюць» на беразе ў чаканні багатай здабычы. Але не толькі браканьеры пагражаюць краю.

Перада мною выразка з газеты «Браслаўская звязда» за 10 красавіка 1996 года «Увага, нераст». Там сапраўды пішацца аб забароне ўсялякага рыбалоўства на азёрах раёна. Розныя тэрміны, розныя азёры. Грамадзянам таксама забараняецца выкарыстанне плаўсродкаў з маторамі. Але далей інспектар Браслаўскай інспекцыі рыбааховы піша, што ў перыяд веснавой забароны рыбгасу «Браслаўскі», вытворча-транспартнаму прадпрыемству «Еўрасервіс», ПМК-44 г. Браслава, Браслаўскай паляўніча-рыбалоўнай гаспадарцы дазволены адлоў мігрыруючага вугра ў добрым паўдзесятку месцаў раёна. Прычым падкрэсліваецца, што «пры промыславай лоўлі вугра стацыянарнымі вугралавушкамі трапляючы прылоў рыбы іншых відаў трэба здаваць на склады ва ўстаноўленым парадку». І неспецыялісту бачна, што адной рукой, караючы строга аматара-парушальніка, інспекцыя дае дазвол выбраным арганізацыям на прамысловы адлоў.

Трэба сказаць, што пры стварэнні нацыянальнага парку ў раёне захаваны ўсе тыя структуры, якія раней займаліся экалогіяй, — гэта і лясная ахова, і ахова прыроды, і рыбаахова, і таварыствы рыбаловаў і паляўнічых. Зразумела, што існаванне стольніх розных службаў, якія нясуць адказнасць за адну і тую ж справу, у многім дублюе работу, а то і стварае ёй перашкоды.

Наколькі я мог зразумець, сёння і многія з тых, хто выступаў за стварэнне нацыянальнага парку, ставяцца да яго з пэўнай доляй падазронасці. Справа ў тым, што паміж адміністрацыяй нацыянальнага парку і кіраўніцтвам раёна няма поўнага паразумення. Я не магу не зразумець кіраўніцтва раёна. Новая арганізацыя літаральна «падмінае» раён пад сябе. Забрала столькі тэрыторыі, падбіраецца да некаторых арганізацый. Вось як выказваецца старшыня раённага Савета Р. Журня: «Давайце возьмем канкрэтны прыклад. Сёлета ад лясгаса і паляўнічай гаспадаркі плануецца атрымаць 10 працэнтаў даходу ў бюджэт. А гэта зарплата настаўнікам, медыкам і іншым работнікам бюджэтнай сферы. Калі мы перададзім гэтыя арганізацыі нацыянальнаму парку, які, безумоўна, на некалькі гадоў будзе вызвалены ад падаткаў, то гэтых сродкаў у сваім бюджэце мы недалічымся». Адарванне паловы лясгаса, імкненне далучыць да нацыянальнага парку некаторыя іншыя арганізацыі, бяздзейнасць у будаўніцтве адводнага калектара — гэта яшчэ не ўвесь пералік абвінавачанняў, якія я пачуў у адрас дырэкцыі нацыянальнага парку. Ёсць і папрокі ў раз'ездах па замежжы, заключэнні розных падазроных дагавораў. Узнікаюць процістаянне, а то і звычайныя сваркі.

За ўсім гэтым, на мой погляд, губляецца сапраўды дзяржаўны падыход да справы. Ну ёсць, створаны нацыянальны парк. З гэтай данасці трэба і зыходзіць ва ўсёй, самай нязначнай, справе. Тэрыторыя раёна нібы падзелена на дзве часткі. Лес таксама. Але ж і ў лесе нацыянальнага парку будуць весціся высечкі, іншыя работы, у палажэнні аб ім прама сказана: «вядзенне комплекснай гаспадаркі на аснове традыцыйных метадаў і перадавых дасягненняў прыродакарыстання». А для таго, каб працаваць з лесам, патрэбна ўся структура. Дык, значыць, трэба ствараць яшчэ адзін лясгас, будаваць яшчэ адзін дрэваапрацоўчы цэх, калі і іншыя ў раёне не загружаны. А лясніцтвы? Побач з існуючымі лясгасаўскімі ствараць яшчэ паралельныя паркаўскія? Побач з адной канторай узводзіць другую? Не па-дзяржаўнаму неяк.

А што да калектара, то пра яго мараць ужо з дзесятак гадоў, але ніхто так і не змог увасобіць мару ў канкрэтную справу. А парку тады ж не было. Не было парку і тады, калі розныя арганізацыі стараліся вылавіць як мага больш вугра. Але чамусьці цяпер са здзіўленнем чытаю, што менавіта гэта толькі што народжанае дзіця павінна шукаць тысячы долараў для закупкі малькоў вугра за мяжою. А чаму не тыя, хто ловіць нават у час нерасту? Між іншым, інспектары парку працуюць на сваёй рабоце няпоўныя два месяцы, кожны дзень яны адпраўляліся ў час веснавога нерасту ў рэйды. І ні адзін раз не вярталіся пустымі. Дзяржаве ў асобе той жа рыбаінспекцыі вернуты мільёны рублёў у выглядзе штрафаў. У гэтым я бачу першыя канкрэтныя крокі дзейнасці нацыянальнага парку. Ну, а калі будзе створана магчымасць работнікам нацыянальнага парку поўнасцю кантраляваць на сваёй тэрыторыі справы лясныя — штрафы будуць такія, што хопіць для многага па добраўпарадкаванню, стварэнню той інфраструктуры, якая б прыцягнула турыстаў. Між іншым, у раёне, дзе трыста азёр, да гэтага часу існавала толькі некалькі афіцыйных месцаў стаянак для машын. Ды яны павінны быць паўсюдна. Але пад кантролем, каб не выгружаліся з гэтых аўтамабіляў кіламетровыя сеткі ці электравуды.

Пётр Сітнікаў падкрэсліў, што паспешлівасці ў кроках адміністрацыі не будзе. Дзейнасць грунтуецца на трох, скажам так, кітах. Спачатку навуковае абгрунтаванне, потым эканамічны разлік і за ім прававое абгрунтаванне.

Інакш нельга. Інакш у гэтайляснoй старонцы будзе наламана шмат дроў. Вось падумаў я: адміністрацыя нацыянальнага парку мае поўнае законнае права патрабаваць вынясення шкодных аб'ектаў за межы пяцісотметровых ахоўных зон каля азёр. Права такое, абгрунтаванае права, існуе. Але ж каля трохсот азёр пяцісотметровыя ахоўныя зоны — колькі гэта пабудоў, памяшканняў і г.д. Вынесці іх — велізарныя грошы. Грошы, грошы, іх усё роўна давядзецца шукаць: у сябе дома, за мяжою ў інвестараў, а магчыма, у суседзяў, якія, напрыклад, Ігналінскую станцыю «paяць» вадою з возера, што і беларусам належыць.

І яшчэ адзін штрых: у сяго-таго на Браслаўшчыне чамусьці склалася ўражанне (асабліва на вёсцы), што паркі — забарона на ўсё. Ды зусім не. І на возера з вудай у дазволены час можна выехаць. І па журавіны ў дазволены час схадзіць. Ды і ўсім тым, чым займаліся і як займаліся нашы продкі, таксама можна будзе займацца. Але так, каб не наносіць шкоды прыродзе.

У Браславе цяпер жартуюць, што яны жывуць у некалькіх зонах. Зоны мытні і пагранічная, зразумела, мяжа з Літвою і Латвіяй зусім побач. Зона адпачынку была тут спакон веку — мясціны вельмі прыдатныя. Пасля Чарнобыля даведаліся, што значная частка раёна трапляе ў так званую трыццацікіламетровую зону Ігналінскай атамнай. Цяпер вось з'явілася зона нацыянальнага парку, а, кажуць, сталі пагаворваць і аб свабоднай эканамічнай зоне. Гэта, зразумела, хоць і сумны, але жарт. А калі сур'ёзна, я быў і застаюся гарачым прыхільнікам нацыянальнага парку. Магчыма, напачатку нешта робіцца і не так, як трэба. Што ж, навучымся, для гэтага і за мяжу з'ездзіць не грэх. Магчыма, гэта стварае немалыя цяжкасці і для арганізацый, устаноў, і для людзей. Але і гэта можна пераадолець, толькі б больш увагі з боку тых, што прымаў рашэнне ў Мінску. Але з цягам часу жыць тут будзе вельмі добра. І гаспадарам, і гасцям. Звярніце ўвагу на тэлевізійныя паказы нацыянальных паркаў. Там людзі заўжды ўсміхаюцца.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

## ХВАРОБА ШАЛЁНЫХ КАРОЎ-2

**Як паведаміла газета «Известия» (№ 113, 20 чэрвеня 1996 года), Міністэрства сельскай гаспадаркі Францыі мае намер забараніць продаж бараніны на рынках краіны з нагоды ўзнікнення падазрэння аб заражэнні вялікай часткі пагалоўя небяспечнай хваробай — авечай трасцай.**

Па меркаванню вучоных, паміж гэтай эпідэміяй і хваробай шалёных кароў існуе прамая сувязь. Буйная рагатая жывёла заразілася вірусам у выніку ўжывання касцявой мукі, для вытворчасці якой выкарыстоўваліся косці хворых авечак.

Як паведаміў галоўны дзяржаўны інспектар Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шпілеўскі, у ветэрынарную інспекцыю краіны інфармацыя аб з'яўленні ў Францыі хваробы Скрэпі (навуковая назва віруснага захворвання) пакуль не паступала. Вядома, што больш шырока распаўсюджана гэтая хвароба ў Англіі і Ізраілі. Пры вызначэнні выпадкаў віруснага захворвання, якое паражае нервовую сістэму жывёлы ва ўзросце 2-3 гадоў і мае інкубацыйны перыяд некалькі гадоў, носьбітаў эпідэміі аддаюць пад нож. Выпадкі хваробы Скрэпі былі зафіксаваны ў дзвюх гаспадарках нашай рэспублікі. На сённяшні дзень прыкладаў заражэння няма. Што датычыцца імпарту бараніны, то, як паведаміў начальнік упраўлення экспарту-імпарту Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рыгор Зубкевіч, у Беларусь не завозіцца ні бараніна, ні прадукцыя з яе. Як, прынамсі, і ялавічына з дзяржаў Еўрапейскага саюза. Эмбарга на ўвоз ялавічыны і прадуктаў, у састаў якіх яна ўваходзіць, кармоў жывёльнага паходжання, харчавання для кошак і сабак, уведзенае ў адпаведнасці з распараджэннем Кабінета Міністраў, па-ранейшаму дзейнічае.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# ГЕНЕРАЛ, ЯКІ «ВЫЙШАЎ У ЛЮДЗІ»... З ПАДПАСКАЎ І СТАЎ МІНІСТРАМ АБАРОНЫ



**— Перш за ўсё хацелася б спытаць, як у міністра з беларускай мовай?**

— Да 8-га класа я вучыўся ў беларускамоўнай школе, таму з мовай у мяне ўсё ў парадку. Не ў парадку тое, што няма добрага беларускамоўнага асяроддзя ў грамадстве, і Узброеныя Сілы — не выключэнне. У беларускай мове адсутнічаюць многія ваенныя тэрміны, трэба шмат папрацаваць, каб беларуская мова трывала ўвайшла ў войска.

**— Вашы вытокі — гэта...**

— ... вёска Чамяры Слонімскага раёна.

**— Хто вашы бацькі?**

— У анкетах пішу: з сялян. І бацька, і маці працавалі ў калгасе. Маці ўжо памерла, бацька пенсіянер, жыве ў вёсцы.

**— Часта наведваеце яго?**

— Цяпер нячаста: часу няма. Але раней... раней далёка служыў, таксама нячаста.

**— Леанід Сямёнавіч, а ваша сям'я?**

Генерал усміхаецца, паціскае ў здзіўленні плячамі.

**— Мы ж дамовіліся, што аснова гутаркі будзе непалітычная. Таму пагаворым пра асобу спадара генерала...**

— Мая сям'я... Жонка — карэнная мінчанка. Два сыны. Старэйшы скончыў Беларускую політэхнічную акадэмію, інжынер- будаўнік. Малодшы вучыцца ў эканамічным дзяржуніверсітэце.

**— Ніхто не пайшоў па бацькавым шляху?**

— Тут розныя падыходы могуць быць. Першы: неабходны дынастыі, і сын ваеннага абавязкова павінен быць ваенным. Я не супраць, але ёсць і іншы падыход: калі бацька займае высокую пасаду, узнікае шмат пытанняў, і сыну, калі ён працуе ў адной сістэме з бацькам, можа быць складана. З гэтага пункту гледжання лепш, калі дзеці займаюцца іншай справай — самастойна... Але, у прынцыпе, мае сыны не па гэтай прычыне пайшлі ў іншыя сферы (хаця я ўжо быў генералам, калі яны паступалі). Склалася такая сітуацыя: я служыў на Далёкім Усходзе, у гэты час пачаліся працэсы развалу Савецкага Саюза, і было зразумела, што калі, дапусцім, старэйшы сын паступіць у ваеннае вучылішча, то невядома, дзе, у якой арміі ён будзе служыць. Нам не хацелася дзяліць сям'ю граніцамі, таму мы, параіўшыся, вырашылі, што ён пойдзе ў грамадзянскую вну (ён сам выбраў, якую) — каб мець магчымасць свабоднага перамяшчэння па ўсёй постсавецкай тэрыторыі.

**— Ваша жонка калі-небудзь працавала?**

— Яна ўвесь час працавала, і зараз — таксама. Яна старшая медыцынская сястра.

**— Многія жонкі ваенных не працуюць, у сувязі з гэтым нямала анекдотаў ходзіць...**

— Але гэтыя анекдоты — смех праз слёзы. Таму што работа — адно з асноўных правоў чалавека, у цяперашні час усе гэта зразумелі. Мая жонка пяць гадоў не працавала — калі я служыў у Групе савецкіх войскаў у Германіі. Не працавала не таму, што не хацела, — проста не было работы, не было куды ўладкавацца. Пазней, калі мы пераехалі ў Савецкі Саюз, увесь час працавала, без работы сябе не ўяўляе.

**— У якім узросце вы сталі генералам?**

— Трэба палічыць...

**— Як?!**

— Хіба я запамінаю такія даты?

**— Гэта ж, мабыць, вельмі істотны рубеж?..**

— На генеральскай пасадзе працаваў тры гады, перш чым мне прысвоілі званне... Рубеж істотны, не адмаўляю, але я ніколі не лічыў, што «зорачкі» і званні — галоўнае. Галоўнае — сумленна рабіць даручаную справу. Памятаеце, як у песні: «Готовься к великой цели, а слава тебя найдет». Робіш выдатна справу — усё астатняе прыкладзецца. Таму я не запамінаю даты.

Зараз прыкіну... дакладна памятаю, што было гэта 23 лютага, на Далёкім Усходзе. Ішлі вучэнні, і якраз тады камандуючы войскамі акругі пазваніў, павіншаваў з прысваеннем генеральскага звання. На вучэнні выехаў палкоўнікам, а вярнуўся з вучэнняў ужо генералам. Было гэта ў 1990 годзе.

**— 40-гадовы генерал — не вельмі частая з'ява, напэўна?**

— Частая ці нячастая... Гэта ўсё індывідуальна. Але, у прынцыпе, — нармальна: не звышхутка і не звышмарудна.

**— Леанід Сямёнавіч, а як атрымалася, што хлопец з сялянскай сям'і, які ў дзяцінстве, можа, падпаскам быў, кароў пасвіў, вырашыў афіцэрам стаць?**

— Каб у вёсцы гадавацца ды не пасвіць кароў — такога не бывае! (Смяецца.) Дырэктарам нашай 8-гадовай школы быў Аляксандр Сямёнавіч Жукоўскі, цяпер ужо нябожчык. Гэта чалавек незвычайны, фанатык (у лепшым сэнсе гэтага слова) сваёй справы, гісторык па адукацыі. Пад яго кіраўніцтвам у школе мы стварылі музей, я браў у гэтым актыўны ўдзел. Калі скончыў 8 класаў, ён падказаў, што ў Мінску ёсць сувораўскае вучылішча, можна паспрабаваць туды паступіць. Аляксандр Сямёнавіч быў для мяне вялікім аўтарытэтам, таму я адразу прыняў яго параду, хаця стаць афіцэрам спачатку і не марыў.

**— Ці не ператварылася зараз сувораўскае вучылішча ў навучальную ўстанову для дзетак высокапастаўленых бацькоў? Ці мае магчымасць выпускнік сельскай васьмігодкі паступіць туды вучыцца?**

— Па ўказу Прэзідэнта Мінскае сувораўскае вучылішча атрымала новы статус дзяржаўнай сярэдняй спецыялізаванай навучальнай установы з ваенна-прафесіянальным накірункам навучання і выхавання. Вучылішчу вернута яго першапачатковае

**Напісала загаловак — і задумалася. Ці няма тут панібрацтва? Ці не прынізіць генеральскіх эпалетаў напамін пра вясковае маленства?.. Калега сказаў: «падпасак» — у гэтым ёсць штосьці ганебнае... Але для некаторых «арыстакратаў духу» само вясковае жыццё ўспрымаецца як ганьба (для асоб звышурбанізаваных удакладняю: падпаскамі называюць дзяцей, якія дапамагаюць пастуху пасвіць кароў).**



**Прынамсі, жыццёвыя дэкарацыі мяняюцца ў нас з неверагоднай хуткасцю. Раней усе навокал кляліся-бажыліся сваім рабоча-сялянскім паходжаннем, а зараз, наадварот, паслухмяна падпарадкоўваюцца модзе і сцвярджаюць ужо аб шляхетным паходжанні, хай нават прадзед абаранкамі гандляваў у лаўцы...**

**Генерал Мальцаў не хавае свайго сялянскага паходжання і, тым больш, не саромеецца яго.**

**У масавым уяўленні генерал, а тым больш міністр абароны — гэта чалавек з гучным камандным голасам і «крутым» норавам, перад ценем якога ўсе выцягваюцца ў струнку. Аднак Мальцаў зусім не падобны на грамавержца: спакойны, сціплы, далікатны чалавек з добрым пачуццём гумару. Даведаўшыся, што ён прыхільнік мастацтваў, асабліва музыкі і жывапісу, спытала: «Вы самі малюеце?» — і пачула сур'ёзны адказ: «Вядома, малюю — карты». Карты?.. Якія карты — ігральныя, геаграфічныя?.. А генерал з мяккай усмешкай удакладняе: «Малюю стрэлы на картах!»**

**І ўсё ж размова пачалася без гумару...**

прызначэнне — у першую чаргу тут павінны вучыцца сіроты і дзеці з сем'яў сацыяльна неабароненых слаёў насельніцтва. У тым ліку і падлеткі, у якіх у мірны час пры выкананні баявых і службовых задач загінулі бацькі.

**— А пасля сувораўскага вучылішча які быў ваш далейшы шлях?**

— Кіеўскае агульнавайсковае вучылішча — служба — Ваенная акадэмія імя Фрунзе — зноў служба — Акадэмія Генеральнага штаба — служба...

**— Што змянілася ў асабістым жыцці пасля таго, як вас прызначылі на адказную пасаду міністра?**

— Час яшчэ хутчэй стаў ляцець: літаральна кожная хвіліна (ужо нават не кажу — кожны дзень) насычана разнастайнымі мерапрыемствамі... З аднаго боку, рэзкі недахват часу, а з другога — велізарная адказнасць, якую адчуваеш пастаянна. Аднак «адказнасць» — слова не зусім дакладнае ў дадзеным кантэксце. На любой пасадзе чалавек адказвае за даручаны ўчастак работы, але нярэдка да гэтага адносіны ў пэўным сэнсе фармальныя: зрабіў сваю работу, хай нават добра зрабіў, у рамках існуючага прававога калідора і іншых канонаў... На пасадзе міністра адказнасць не тая: калі нейкую справу робіш нават звышвыдатна, але разумееш, што гэта не можа адпавядаць сучасным патрабаванням, значыць, неабходна ісці далей, шукаць магчымасці для ўдасканалення. Не павінна быць ніякіх непахісных канонаў.

**— Пра вас гавораць як пра міністра-рэфарматара: вы выказваеце даволі смелыя і нечаканыя для многіх ідэі, напрыклад, адносна тэрмінаў службы ў арміі і г. д. Наколькі ўсё гэта лагічна і магчыма ў нашым сённяшнім грамадстве, калі існуюць праблемы з укамплектаваннем войска: моладзь не вельмі ахвотна ідзе на службу, нават тэрмін адпаведны з'явіўся — «адкасіць ад арміі»...**

— У вас устарэлая інфармацыя! Так, ёсць асобныя выпадкі, калі імкнуцца «адкасіць ад арміі». Але мы не толькі гаворым аб рэформах (ці змяненнях, каму не падабаецца слова «рэформы») — але і праводзім іх. Калі нічога не мяняць, дык мы не зможам выканаць асноўную задачу — абараніць Радзіму. У выніку змяненняў мы шмат чаго дасягнулі. Вось вы, напрыклад, сказалі: «косяць ад арміі» і г. д. Але з ваенных камісарыятаў зняты ўсе планы па прызыву. У цэнтр дзейнасці пастаўлена патрабаванне закона: 100 працэнтаў маладых людзей, якія павінны быць прызваны ў армію, прызываюцца. Усе, хто маюць адтэрміноўкі, медыцынскія ці іншыя проціпаказанні, — усё афармляецца адпаведным чынам, без пытанняў. Пры гэтым калі ваенны камісарыят нікога не прызаве, але ўсё гэта будзе законна, — ніхто слова не скажа.

**— А вы не баіцеся, што ў войску салдат тэрміновай службы зусім не застанецца: чарнобыльская рэспубліка, здароўе не вельмі...**

— Не баюся! Сістэму, пра якую расказаў вышэй, мы ўвялі ў маі мінулага года — акурат тады мы ўпершыню ўкамплектавалі Узброеныя Сілы рэспублікі на 100 працэнтаў салдатамі і сяржантамі: раней быў некамплект. І ўвосень, і зараз прызыў адбываецца згодна з гэтымі прынцыпамі. Больш таго, імкнёмся ісці насустрач прызыўнікам. Апублікаваны ўказ Прэзідэнта па прызыву: накіраванне ў войскі будзе адбывацца да 30 жніўня, а не да 1 жніўня, як звычайна. Гэта зроблена, каб выпускнікі тэхнікумаў, вучылішчаў мелі магчымасць паспрабаваць паступіць у ВНУ. Паступіў — вучыся, не паступіў — прызавём у армію. Нікому не чынім перашкод, зусім наадварот.

І яшчэ наконт «косяць ад арміі». Штомесяц праводжу прыём па асабістых пытаннях — заўсёды ёсць просьбы ад маладых людзей ці іх бацькоў: дапамажыце прызвацца ва Узброеныя Сілы. Маятнік зрушыўся ў іншы бок, вось чаму я сказаў, што не згодзен з вамі наконт інфармацыі. Колькаснай праблемы па ўкамплектаванню няма. Іншая справа — праблема якасці, і ў першую чаргу стану здароўя. Мы з цяжкасцю ўкамплектоўваем злучэнні і часці, якія патрабуюць павышанага стану здароўя.

**— І ўсё ж бацькі вельмі баяцца: а раптам будзе падпісана новае пагадненне з Расіяй, і нашых хлопчыкаў накіруюць у якую-небудзь «гарачую кропку».**

— Адназначна скажу: заканадаўства не дазваляе гэтага рабіць. Пры ратыфікацыі статусу СНД 18 студзеня 1994 года Вярхоўны Савет зрабіў удакладненне: ваенныя кантынгенты рэспублікі не накіроўваюцца за тэрыторыю Беларусі без спецыяльнай пастановы ВС.

**— На жаль, у нас не ўсё робіцца ў адпаведнасці з літарай закона...**

— Ва Узброеных Сілах усё робіцца так, як напісана ў Канстытуцыі і ў законах. Ніводнай коскі, ніводнай літары закона Узброеныя Сілы ніколі не парушалі і парушаць не будуць: гэта самая законапаслухмяная арганізацыя, як ёй і належыць.

**— Добра, але ж ёсць такі жарт пра войска: «§1. Командир всегда прав. §2. Если командир неправ, смотри §1». А раптам...**

— Камандзір для нас — гэта Канстытуцыя, законы, Галоўнакамандуючы. Аснова — Канстытуцыя... Дарэчы, наш Галоўнакамандуючы — Прэзідэнт неаднаразова заяўляў, што беларускія ваеннаслужачыя за межы рэспублікі накіроўвацца не будуць. Так што пытанняў няма — глядзіце першы параграф!

**— Дзякуй!.. Нашым чытачам, мяркую, з вуснаў самога міністра будзе цікава пачуць таксама наконт тэрмінаў службы.**

— Мы распрацавалі праект закона, у якім для асоб, закончыўшых ВНУ, устанаўліваецца тэрмін службы не 12 месяцаў, як зараз, а 9 месяцаў. Для асоб, якія прайшлі навучанне на ваенных кафедрах ВНУ, але не атрымалі афіцэрскага звання, — 6 месяцаў. З 2000 года мяркуем паменшыць тэрмін службы з 18 да 12 месяцаў для ўсіх салдат, сяржантаў тэрміновай службы. Праект закона ўводзіць яшчэ такое паняцце, як служба ў рэзерве. Тэрміновую службу будуць праходзіць толькі тыя, хто хоча служыць, нікога гвалтам цягнуць у армію не трэба.

**— Што значыць — «хто хоча»? Расшыфруйце, калі ласка.**

— Галоўнае — каб малады чалавек быў гатовы да абароны Радзімы. Не толькі маральна і фізічна, але каб ён авалодаў пэўнай вайсковай спецыяльнасцю. Атрымаць ваенную спецыяльнасць ён можа ў працэсе тэрміновай службы (гэта асноўная форма). Калі не хоча на тэрміновую — калі ласка, служба ў рэзерве: будзе вызначана пэўная колькасць гадзін, якія неабходна адвучыцца і здаць экзамен. Служба ў рэзерве, вядома, будзе даўжэйшай, чым тэрміновая, і за свой кошт (у выхадныя дні). Вось такая схема.

**— Знаёмы афіцэр гаварыў, што маладыя лейтэнанты, якія прыходзяць пасля вучылішча, стараюцца як мага хутчэй звольніцца ў запас: вельмі малая зарплата.**

— Ну, гэта няпраўда!

**— Усё ў нас так цудоўна?**

— Не, чаму ўсё? Мы таксама не пазбеглі эканамічных цяжкасцей. Але ў гэтым годзе 113 чалавек прынялі з запасу — яны напісалі адпаведныя рапарты. Міністэрства завалена просьбамі афіцэраў аб пераводзе ў Беларусь з Расіі (крыху менш — з Украіны). Таму гаварыць, што ў нас усе збягаюць, — няправільна. Так, ёсць асобныя, з дазволу сказаць, афіцэры: не паспеў закончыць вучылішча, сутыкнуўся з цяжкасцямі і ... Аднак такія выпадкі заўсёды былі, проста раней існавала мноства бар'ераў, каб не пускаць. Зараз: не хочаш — не трэба, ідзі на ўсе чатыры бакі. Потым будзеш прасіцца — назад не возьмем, не патрэбен нам перабежчык! Афіцэр павінен служыць не з-за страху, а па сумленню.

Наконт зарплаты. Вось табліца: камандзір узвода — 1.170.700 руб.; камандзір роты — 1.277.002; камандзір батальёна — 1.548.600 і г. д. Існуе і грашовая кампенсацыя харчовага пайка — 330 тыс. руб. у месяц. Гэта не вельмі многа, але зарплата выплачваецца рэгулярна. Так, гэтыя лічбы не забяспечваюць у поўнай ступені ўсе патрэбнасці. Але ж трэба ўлічваць агульны стан грамадства, мы не можам цягнуць коўдру на сябе.

**— Раней вельмі высока каціравалася паняцце афіцэрскага гонару. Усё часцей прыгадваецца Высоцкі: «Обидно мне, что слово «честь» забыто...» Зараз адраджаюцца афіцэрскія сходы — інстытут, які ў пэўным сэнсе можа выступаць маральным рэгулятарам паводзінаў і ўчынкаў? Ці прыжывецца гэта практыка ў нашым расхістаным бездухоўнасцю грамадстве?**

— Пачынаючы з мінулага года, Міністэрствам абароны праводзіцца работа па адраджэнню гэтых паняццяў. Аднаўленыя афіцэрскія сходы былі на паперы, гэты інстытут не дзейнічаў. Мы ўдакладнілі асноўныя дакументы, стварылі каардынацыйны савет афіцэрскіх сходаў. Галоўная задача афіцэрскіх сходаў — выхаванне афіцэра. У Савецкай Арміі многія гады афіцэрскія сходы былі «прыціснуты» партыйнымі сходамі, палітычнымі органамі. Зараз, акрамя афіцэрскіх сходаў, іншых грамадскіх арганізацый у афіцэрскім асяродзі няма.

Цяпер нават атэстацыя афіцэраў праходзіць не так, як раней, — бярэ ўдзел у гэтым увесь афіцэрскі калектыў. Стараемся такую практыку ўкараніць — хаця, вы разумееце, нават самая бліскучая ідэя ў галіне выхавання за адзін дзень не ажыццяўляецца.

У працэсе адраджэння паняцця афіцэрскага гонару ўлічваем традыцыі не толькі рускай арміі, з якой выйшла чырвоная, савецкая, а потым і беларуская армія, але і традыцыі армій усяго свету.

Не скажу, што ўсе праблемы ў нас вырашаны, але пэўныя зрухі ёсць. У 1995 годзе мы здолелі знізіць колькасць здарэнняў і правапарушэнняў у войску ў параўнанні з 1994 годам на 28 працэнтаў — амаль на трэць. У гэтым годзе такая тэндэнцыя працягваецца. Відавочны вынік выхаваўчай работы.

**— Раніца міністра пачынаецца з зарадкі? Наогул, колькі кіламетраў вы змаглі б прабегчы на вучэннях?**

— Колькі трэба — столькі і змагу... Але павінен вас крыху расчараваць: ні я асабіста не пачынаю дзень з фіззарадкі, ні Узброеныя Сілы — фіззарадка зараз неабавязковая. Мы правялі эксперымент і высветлілі, што калі замест фіззарадкі штодзённа праводзіць гадзіну-паўтары фізпадрыхтоўкі, то эфект атрымліваецца большы. Раніцай на зарадку афіцэры, прапаршчыкі, кантрактнікі не ідуць (яны яшчэ дома), таму менавіта ў сярэдзіне дня праводзіцца абавязковая фізпадрыхтоўка, у якой удзельнічаюць усе вайскоўцы.

**— А міністр у які час займаецца фізпадрыхтоўкай?**

— Калі атрымліваецца, з 13 да 14 гадзін плаваю ў басейне, удзельнічаю ў спартыўных гульнях...

**— Колькі разоў вы можаце падцягнуцца на перакладзіне, калі не сакрэт, — або даўно не спрабавалі?**

— Чаму не спрабаваў — без асаблівых намаганняў разоў 15 падцягнуся. А калі паднатужыцца — і больш.

**— Дачу вам будавалі салдаты?**

— У мяне няма дачы.

**— Як?! Чаму ж вы такі нетрадыцыйны генерал?**

— Чаму нетрадыцыйны — няма і няма. Я па ўсім Савецкім Саюзе ездзіў, не да дачы было...

**— Колькі моў вы ведаеце?**

— Рускую, беларускую, нямецкую.

— Гавораць, Мальцаў — адзін з нямногіх генералаў, які любіць мастацтва, няблага разбіраецца ў жывапісе, музыцы... Раскажыце пра свае прыхільнасці.

— Калі браць жывапіс, ёсць плеяда любімых мастакоў, работы якіх з задавальненнем гляджу, — Левітан, Рэпін, Айвазоўскі, Іваноў. З музычных твораў асабліва люблю Свірыдава, яго фантазіі паводле аповесці Пушкіна «Мяцеліца».

**— Адкуль гэтыя захапленні — у вайсковых вучылішчах вывучаюцца адпаведныя дысцыпліны, або вы самастойна?..**

— Самастойна займаўся таксама, але многае ў гэтым плане дала вучоба ў Мінскім сувораўскім вучылішчы. Дарэчы, зараз у ваенных навучальных установах спецыяльна ўведзены курсы па этыцы і эстэтыцы.

**— Вас называюць «сілавым» міністрам, і гэта натуральна. Вы адчуваеце, што з'яўляецеся адной з асноўных фігур у дзяржаве?**

— Я так не ставіў бы пытанне... У мяне ёсць галіна — Узброеныя Сілы. Тут я прафесіянал, маю грунтоўныя веды. А дзесьці ў іншай галіне — непрафесіянал, і было б несур'ёзна выказваць свае меркаванні (нават з вышыні свайго становішча і вопыту). Справай павінны займацца прафесіяналы.

**— Прабачце, а славуты паветраны шар быў збіты прафесіяналамі?**

— Так, прафесіяналамі!.. Калі б усе так працавалі, многіх рэчаў не здарылася б, у тым ліку ў колішнім СССР.

**— На плошчу Незалежнасці іншаземны самалёт не сядзе — як некалі на Чырвоную плошчу?**

— Ніколі!

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**

## АДАРЫЦЬ МОЖНА І КВАТЭРАЙ

*Вельмі хачу, каб кватэра, у якой я жыву, пасля маёй смерці дасталася майму суседу. Завяшчаць яе няроднаму чалавеку, кажуць, непрыгожа. Вось і вырашыла кватэру яму падарыць. Ці магчыма гэта і ці змагу я потым у ёй жыць?*

**Лізавета САЛАМАХА, 84 гады, г. Мінск.**

Згодна з Грамадзянскім кодэксам Беларусі, вы, Лізавета Іванаўна, можаце дарыць сваю кватэру каму захочаце. Натарыусы неахвотна засведчваюць дагаворы дарэння кватэр паміж не сваякамі. Разам з тым, закон не забараняе складання такіх дагавораў. У кожным канкрэтным выпадку натарыус павінен пераканацца ў бескарыслівасці здзелкі. У іншым выпадку ён можа вам адмовіць. Да ведама: пры дарэнні кватэры блізкім сваякам бярэцца дзяржпошліну ў памеры 50 тыс. рублёў. Пры дарэнні іншым людзям — 400 тыс. руб.

Галоўнае, каб пасля заключэння дагавора дарэння вы не выпісваліся з цяпер ужо не зусім «сваёй» кватэры. З прапіскай вы можаце жыць у гэтай кватэры колькі хочаце. Вось толькі ці стане ваш сусед адносіцца да вас яшчэ лепш, застаецца пад пытаннем.

## НАДБАЎКА ДА ПЕНСІІ З НАГОДЫ СТРАТЫ КАРМІЦЕЛЯ

*Маці ва ўзросце 85 гадоў жыве разам з дачкой і атрымлівае пенсію як сям'я загінуўшага (мужа) у памеры 409 тыс. рублёў. Прашу растлумачыць, ці мае маці права на надбаўку да пенсіі на догляд па ўзросту.*

**РОЛЕВА А., г. Гомель.**

Законам РБ ад 01.03.95 г. аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон РБ «Аб пенсіённым забеспячэнні» прадугледжана надбаўка (арт. 41, 1) да пенсіі з нагоды страты карміцеля на догляд пенсіянерам, якія дасягнулі 80-гадовага ўзросту ў памеры 50 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту. Таму ваша маці мае права на надбаўку да пенсіі на догляд па ўзросту.

## ДОЛІ Ў СПАДЧЫНЕ

*Я даглядала свайго бацьку перад яго смерцю. Брат жыў у іншым пасёлку. Ці маю я права на большую долю ў спадчыне, таму што я даглядала бацьку больш як 2 гады?*

**К., Магілёўская вобл., Глускі раён, в. Слаўкавічы.**

У адпаведнасці з часткай першай арт. 527 ГК РБ, вы і ваш брат маеце роўныя долі ў спадчыне, нават нягледзячы на тое, што 2 гады менавіта вы даглядалі бацьку. Вы маеце права на прадметы хатняй абстаноўкі, што належаць бацьку, калі жылі разам з ім.

Такі парадак атрымання ў спадчыну прадугледжаны, калі адсутнічае завяшчанне і атрыманне ў спадчыну ідзе па закону. У выпадку наяўнасці завяшчання размеркаванне маёмасці робіцца ў адпаведнасці з ім, г. зн. з воляй завяшчальніка, але пры гэтым абавязковую долю спадчыны атрымліваюць непаўналетнія ці непрацаздольныя дзеці і непрацаздольны муж ці жонка ў адпаведнасці з арт. 530 ГК РБ.

## АДНАВІЦЦА НА ВУЧОБЕ МОГУЦЬ І НЕВЫДАТНІКІ

*Мой сын займаўся ў Мар'інагорскім саўгасе-тэхнікуме па спецыяльнасці «механізацыя і жывёлагадоўля». На чацвёртым курсе апошняга месяца з ім здарылася няшчасце, ён апынуўся ў бальніцы і не змог здаць экзамен. А цяпер мы атрымалі пісьмо з тэхнікума, што навучанне па гэтай спецыяльнасці закрылася. Калі ласка, парайце, у якой установе мой сын можа здаць экзамен па гэтай спецыяльнасці?*

**З павагай БАГДАНОВІЧ Павел Ільіч, Мінская вобласць.**

Як адказаў намеснік начальніка ўпраўлення падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі кадраў Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання РБ Уладзімір Бялоўскі, сапраўды, навучанне па гэтай спецыяльнасці ў Мар'інагорскім саўгасе-тэхнікуме больш не ажыццяўляецца. Аднак цяпер у гэтай навучальнай установе існуе курс «механізацыя сельскай гаспадаркі». У дадзеным выпадку студэнт мае права на аднаўленне навучання. Па ўзгадненню з кіраўніцтвам саўгаса-тэхнікума неабходна давыканаць вучэбны план: праслухаць неабходныя дысцыпліны, здаць патрабуемыя экзамены і атрымаць дыплом па спецыяльнасці «механізацыя сельскай гаспадаркі». Праблем з аднаўленнем не павінна ўзнікнуць. Аднаўляюцца нават адлічаныя за дрэнную вучобу. Жадаем поспеху.

## ЯК ЖЫЦЬ БЕЗ ПРАПІСКІ

*Паважаная рэдакцыя, вось ужо год я працую ў адной з арганізацый Мінскага раёна і ўвесь гэты час жыву ў прадастаўленай мне тут жа кватэры, але без прапіскі. Спачатку мне тлумачылі, што неабходна адпрацаваць 6 месяцаў, потым 12, затым — яшчэ 6. Атрымалася, што я і мая сям'я «вісім у паветры» — з папярэдняга месца выпісаны, а на новым не прапісаны. Што рабіць?*

**Соф'я ЛІПСКАЯ, Мінскі раён.**

На жаль, у сваім лісце вы не назвалі ні канкрэтнага месца пражывання, ні прыналежнасць арганізацыі (дзяржаўная або камерцыйная), ні таго, якая ў вас кватэра (галіновая, ведамасная і г. д.). Таму раім вам звярнуцца па тлумачэнні ў Мінскі аблвыканком або гарвыканком у аддзел, які курыруе гэтае пытанне. Тым не менш, ужо зараз можна сказаць, што адказнасць за прадастаўленне жылля і, адпаведна, прапіскі нясуць кіраўнікі арганізацый або прадпрыемстваў.

Тэарэтычна вас не маглі прыняць на працу, не аформіўшы неабходныя паперы (зразумела, калі гэта не адна з камерцыйных фірмаў, у якіх нярэдка на гэта закрываюць вочы), паколькі ў гэтым выпадку кіраўнікам пагражае штраф. Дарэчы, у самім Мінску фірмы (папярэдне прадаставіўшы жыллё) могуць аформіць работнікам прапіску за 200 мінімальных заработных плат праз Мінгарвыканком.

## ДЗЕ КУПІЦЬ ГАЗАВЫ БАЛОНЧЫК

*Хачу набыць газавы балончык для самаабароны. Аднойчы набыла такі на рынку, аднак пасля праверкі аказалася, што ён недзеяздольны. Можа падкажаце, дзе яго можна набыць і якой мадыфікацыі аддаць перавагу?*

**Людміла КРАЎЦОВА, Гродзенская вобласць.**

Перш за ўсё набывайце газавыя балончыкі толькі ў спецыялізаваных магазінах. Пры пакупцы не забудзьцеся запатрабаваць сертыфікат адпаведнасці Дзяржстандарта. На рынку, безумоўна, можна купіць яго і больш танна, але гэта будзе «кот у мяшку». Так што выбірайце, што лепш. Зараз прадаецца мноства розных мадыфікацый газавых балончыкаў. На чым жа спыніцца? Спецыялісты даюць параду звярнуць увагу на перцавую «зброю». І апошняе. Газавыя балончыкі трэба асцярожна прымяняць у памяшканнях, ліфтах і ні ў якім разе не распыляць іх супраць ветру, таму што пад ядавітае воблака можна трапіць і самой.

## ЗВЯРНІЦЕСЯ ПА ПЕНСІЮ ПАЎТОРНА

*Мая маці ўжо некалькі гадоў знаходзіцца на пенсіі. Яна мае 28 гадоў стажу. Працавала ўвесь час у калгасе на ферме і была паляводам. Мае дзяржаўныя ўзнагароды, лісты. А вось пенсію атрымлівае зусім мізэрную. Калі можна было зрабіць пераразлік пенсіі, мы звярнуліся ў райсабес. Аднак нам адмовілі. Адказалі, што 3 гады дэкрэтнага водпуску плюс 4 гады не выраблялася мінімум працоўных дзён (у вёсцы не было дзіцячага садка), і яшчэ 7 гадоў даглядала ляжачую маці-інваліда I групы. Мы запыталі, ці можна не ўлічваць гэтыя 7 гадоў. Нам адказалі, што нельга, бо кожны год у яе ёсць па 7-8 працоўных дзён. У нашым калгасе даюць участак. Хто бульбу садзіць, хто буракі. Мы таксама апрацоўвалі зямлю. І цяпер з-за гэтых 7-8 дзён згубіліся цэлыя гады. Няўжо нельга дапамагчы?*

**ФРАНЮК Аляксандра Іванаўна, Гродзенская вобласць.**

На пытанне адказвае намеснік начальніка ўпраўлення пенсій і дапамог Міністэрства сацыяльнай абароны РБ **Людміла Марчанка.**

У адпаведнасці з дзеючым пенсіённым заканадаўствам працоўныя пенсіі могуць быць пераразлічаны зыходзячы з фактычнага заробку за любыя 5 гадоў запар з апошніх 15 гадоў работы перад назначэннем пенсіі. Пры гэтым па жаданню таго, хто звярнуўся па пенсію, не ўключаецца ў 15-гадовы перыяд час работы, на працягу якога ён з'яўляўся інвалідам ці атрымліваў кампенсацыю ўрону, нанесенага калецтвам або іншым пашкоджаннем здароў'я, ажыццяўляў догляд за інвалідам I групы ці дзіцем-інвалідам ва ўзросце да 16 гадоў, а таксама за састарэлым, які дасягнуў 80-гадовага ўзросту, ці знаходзіўся ў адпачынку па догляду за малалетнімі дзецьмі. У сувязі з вышэйсказаным раім паўторна звярнуцца ў аддзел сацыяльнай абароны па месцы жыхарства для праверкі магчымасці пераразліку пенсіі вашай маці.

## ВЁСКА АДСЯЛЕННЮ НЕ ПАДЛЯГАЕ, А ПЕРАСЯЛІЦЦА З ЯЕ МОЖНА

*Наша в. Праскурні знаходзіцца ў забруджанай зоне, але яе чамусьці не перасяляюць. Цікава, а самому з яе можна куды-небудзь пераехаць?*

**Л. ШАХНОЎСКАЯ, Жлобінскі раён.**

Адказвае старшыня Жлобінскага раённага выканаўчага камітэта **С. Котаў:**

— Так, згодна з пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 лютага 1996 г. № 116, населены пункт Праскурні знаходзіцца ў зоне з правам адсялення. Тут шчыльнасць забруджвання цэзіем-137 складае менш як 5 кі/кв. км, а сярэднегадавая эфектыўная эквівалентная доза апраменьвання чалавека можа перавысіць 1м36. Гэтую дозу можна атрымаць пры ўжыванні ў ежу забруджанага малака і іншых такіх жа прадуктаў.

Праўда, на працягу 10 гадоў узровень забруджвання цэзіем-137 быў у гэтай вёсцы менш як 5 кі/кв. км, яно і цяпер адпавядае такому ўзроўню. Праверку на ўтрыманне радыенуклідаў у арганізме можна прайсці ў кабінеце СІЧ у раённай дзіцячай паліклініцы, а калі эквівалентная доза апраменьвання будзе перавышаць 1м36, то вы можаце пераехаць на іншае месца жыхарства, толькі па вашаму жаданню.

Згодна з гэтай пастановай, у пералік вёсак, якія падлягаюць адсяленню, в. Праскурні не ўваходзіць.

## ЦІ МОЖНА АДПАЧЫЦЬ У КРЭДЫТ?

*Наш пасёлак лічыцца «забруджанай» зонай. У мяне двое дзетак-дашкольнікаў. Вельмі хачу падлячыць іх у санаторыі на поўдні. Але, як усе звычайныя людзі, грошы маю толькі на хлеб і малако. Ці прадаюць пуцёўкі ў крэдыт? І яшчэ хацелася б ведаць інфармацыю пра санаторыі ў Беларусі.*

**З павагай жанчына-маці, пасёлак Наваельня Дзятлаўскага раёна.**

Як адзначыў намеснік начальніка ўпраўлення турызму Міністэрства спорту і турызму Віктар Бабака, міністэрству невядомы выпадкі, калі пуцёўкі прадаюцца ў крэдыт. Тым не менш, Віктар Аляксеевіч параіў звяртацца непасрэдна ў турыстычныя фірмы. Магчыма, кампраміс будзе знойдзены. Спісы ж фірмаў з падрабязнай інфармацыяй аб пуцёўках друкуюць многія газеты. Там жа змяшчаецца інфармацыя і пра санаторыі на тэрыторыі нашай рэспублікі. Можна звярнуцца ў фірму «Беларусьтурыст», якая спецыялізуецца на арганізацыі адпачынку ў Беларусі.



**Выпуск «Пытальніка» падрыхтавалі: Іван Бралка, Жанна Катлярова, Сяргей Куркач, Сяргей Расолька, Віктар Шчучэнка, Ігар Шчучэнка.**

*ЖЫЦЦЁ*

# КУР'ЁЗЫ

**Максім Горкі неяк заўважыў, што жыццё багацейшае за нашы ўяўленні аб ім. Што тады гаварыць аб жыцці цяперашнім? Яно падкідвае такія сюжэты, што не ўкладваюцца ў галаве. У некаторых падзеях ні сэнсу, ні логікі, словам, вар'яцкі дом.**

**Раскажу пра два абсурдныя выпадкі.**

### КРАМНАЯ ГІГАНТАМАНІЯ

У гастраноме № 60 г. Магілёва праводзяць эксперымент: ад тараздатчыкаў не бяруць менш чым па дзесяць бутэлек з-пад малака. Здаць можна дзесяць і больш, але ўжо дзевяць ці тры — дулю.

Дзіўныя ўсё ж у нас гандляры. Прыём іншага посуду абмяжоўваюць, а то не бяруць наогул. Праблема, аб якой «Звязда» пісала неаднаразова і якой займалася Міністэрства гандлю, так і не вырашана. Затое спажыўцы атрымалі «абмежаванне» наадварот — нясі малочную тару, толькі оптам.

Што за метамарфоза такая? Аказваецца, у магазіне няма дробных грошай. Сто, дзвесце, паўтысячы рублёў ужо не лічацца чымсьці вартым. Аперыруем «кускамі» і не менш. Так зручна. Не трэба напружваць зрок, пералічваючы нейкія сотні, таварнага эквіваленту якім у нашай краіне даўно ўжо не існуе. За сто рублёў не купіш нават карабок запалак.

Калі такая пагарда да «дробязі» ў гандлі, то ў многіх грамадзян няма і гэтых капеек. Абласное ўпраўленне статыстыкі абнародавала днямі лічбы запазычанасці па зарплаце, якая на канец мая складала 113,2 мільярда рублёў. Прычым 93,3 мільярда не аддалі людзям за красавік, 14,8 — за сакавік і 4,5 мільярда — яшчэ за люты. Хранічна адстаюць выплаты па пенсіях, асабліва ў раённых цэнтрах. Як у такіх умовах жыць? Хіба што за бутэлькі.

У прадпрыемстваў няма грошай, няма належнага папаўнення бюджэту, а гандаль «эксперыментуе», займаючыся гігантаманіяй.

Былі б у людзей гіганцкія зарплаты. Між тым, зарабляюць у сярэднім на Магілёўшчыне ніжэй кошту спажывецкага кошыка. Амаль усе грошы ідуць на харчаванне. Прафсаюзы патрабуюць вярнуцца да практыкі датацый. Хаця б хлеба і малака. А то тыя дзесяць бутэлек трэба месяц збіраць.

### З ТАГО СВЕТУ — У КУТУЗКУ

Жыццё зараз «дастала» многіх. Але асабліва цяжка тым, каго дапякаюць родзічы. Ды так — хоць у магілу.

Вось і жыхар Слаўгарадчыны, як паведамілі «Магілёўскія ведамасці», вырашыў пакончыць з сабой. Адчайнае рашэнне прыйшло пасля таго, як жонка заявіла ў міліцыю: маўляў, напіўся і дэбашырыць.

Ну хіба гэта прычына для самагубства?

Але справа ў тым, што за стварэнне была жонка. Чорт у спадніцы. Выпівала сама і мужа збівала. На п'яную галаву хапалася і за нож.

Муж цярпеў, а потым і сам пачаў зазіраць у чарку. Праўда, калі даходзіла да бойкі, ваяўнічым не быў, а займаў абарончую пазіцыю. Трапляюцца ж сярод моцнага полу такія слабыя натуры. У той дзень мужчына пайшоў на рыбалку, дзе, як вядома, галоўнае — налівай ды пі. Прыняў ён нямнога — шклянку гарэлкі. Але, мабыць, трэба было падзяліцца з жонкай, бо яна раз'юшылася і ў якасці помсты накрэмзала куды трэба.

Вось тады і вырашыў рыбак: чым так жыць, лепш памерці. Мала аднаго ката ў асобе жонкі, дык яна яшчэ нацкавала на яго органы. А там, самі ведаеце, вераць жанчыне. Як у магазіне, дзе пакупнік заўсёды мае рацыю.

Словам, адкрыў газ і стаў чакаць смерці.

Прыехала міліцыя, узламала дзверы, гаспадар ляжаў на падлозе без прымет жыцця, на стале паперка: «У маёй смерці прашу вінаваціць жонку».

Міліцыя, аднак, паспела своечасова, самагубства ўдалося прадухіліць, бо мужчына канчаткова не атруціўся.

Кур'ёзны фінал. За парушэнне грамадскага парадку мужыка пасадзілі на 10 сутак.

Якая тут мараль, сказаць цяжка. Калі чалавек не змог апраўдацца нават спробай уласнай смерці, тут слоў у мяне няма.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ...ПРАДАЦЬ МІЛЬЁН ПУНСОВЫХ РУЖАЎ

**У жыцці кожнага чалавека бываюць выпадкі — трагічныя або радасныя — калі ну ніяк нельга абысціся без кветак. Зразумела, лепш за ўсё дарыць букет з якой-небудзь шчаслівай нагоды: дня нараджэння, юбілею, вяселля ці проста нечакана зрабіць сюрпрыз каханай, знянацку для яе дастаўшы з-за спіны няхай сабе і адну ружу, але такую ж прыгожую, як яна сама. На жаль, рамантычныя часы Аляксандра Дзюма, калі ўлюбёныя спецыяльна вырошчвалі для сваіх каханых цюльпаны, прайшлі, таму, каб засведчыць сваё бязмернае пачуццё да любага чалавека, трэба ісці да кветачнікаў у пераход або на рынак. Натуральна, высокія матэрыі нельга і не трэба вымераць у звыклых будзённых адзінках, але, зрабіўшы раз-другі такія вандроўкі за прыгажосцю, міжволі пачынаеш заўважаць зусім іншыя рэчы з нашага жыцця.**

Так, наўрад ці хто ведае, якія кветкі (у сэнсе паходжання) ён набывае — абы было даспадобы душы і кішэні. Між тым, як сведчаць тыя, хто займаецца кветачным бізнесам, з цягам часу спажыўцам прапаноўваюць усё менш айчынных раслін. У продажы з'яўляецца ўсё больш ізраільскіх, галандскіх і іншых кветак (прычым, часта пазначаныя вытворцамі краіны на самай справе з'яўляюцца толькі пераважачнай базай — кветкі ідуць з трэціх краін, напрыклад, на першае месца па вырошчванню ружаў выходзіць Калумбія). Няўрымслівы чытач запытае — а якая розніца, адкуль расліны трапілі да нас? Справа ў тым, што каб кветкі вытрымалі доўгую дарогу, іх шчодра паліваюць рознай хіміяй. Па словах спецыялістаў, нярэдка толькі прадавец ведае, што куплены букет прастаіць толькі дзеньдва... Зрэшты, гэта не азначае, што ўся замежная прадукцыя — смецце. І тым не менш, менавіта з-за яе церпіць айчынны кветачны бізнес (не блытаць з простым перапродажам; гаворка ідзе аб тых, хто сам вырошчвае ружы, цюльпаны і г. д.). А, між іншым, прайшоўшая ў спецыяліста ўсе стадыі тэхналогіі вырошчвання ружа можа прастаяць без змены вады два тыдні, а са зменай — нават тры! Высновы, як кажуць, рабіце самі. Але гэтая справа патрабуе выдаткаў, якія апошнім часам не пакрываюцца з-за канкурэнцыі, скажам, азербайджанскай «спажывецкай кааперацыі». Галандская або ізраільская ружа «цягне» да 20 тысяч рублёў за адну, добрая айчынная — максімум дзесяць тысяч, але часцей — 3—5 тысяч рублёў. У дзень можна прадаць у сярэднім 50 кветак, але вылічыце адсюль плату за арэнду месца (на Камароўскім рынку, напрыклад, больш як 40 тысяч у дзень), выдаткі на паліва, іншую дробязь і што атрымаецца? Таму людзі ўсё часцей займаюцца перапродажам замежнага тавару. Адказнасці за якасць ніякай (брак заўсёды спіша гаспадар), а прыбытак — мінімум 10 працэнтаў ад вырučанай сумы (200—300 тысяч рублёў у дзень). Зразумела, і тут бываюць цяжкасці. Скажам, так званы «мёртвы сезон» — час з ліпеня па верасень, калі попыт на кветкі мінімальны. Яно і зразумела: школьнікі, студэнты — асноўныя пакупнікі адвучыліся, здалі экзамены. Што яшчэ цікава — па наведванню кветкавых радоў можна меркаваць аб рабоце прадпрыемстваў, выплаце зарплаты. Напрыклад, апошнім часам кветкавыя рады на Камароўцы большасць наведвальнікаў старанна абмінаюць...

Натуральна, закрануўшы гэтую тэму, нельга не сказаць колькі слоў аб цэнах. На буйнейшым рынку сталіцы — Камароўскім — можна набыць проста кветкі, а таксама прыгожа аформленыя букеты (са стужкамі, упакоўкай і нават пальмавым лісцем). У апошнім выпадку гэта абыдзецца мінімум на 60 тысяч рублёў даражэй. Адна ж лілея каштуе 35 тысяч, галінка з трыма кветкамі — 60 тысяч, гербера — 8—10, гваздзік — 2—5 (нармальнай лічыцца цана ў 3—3,5 тысячы рублёў за адзін). Для людзей з тоўстымі кашалькамі і экстравагантным густам тут таксама знойдуць адпаведныя кветкі. Скажам, букет «Райская птушка» коштам 400 тысяч рублёў (цана без уліку афармлення). Словам, маеш грошы і цярпенне — знойдзеш усё што жадаеш. Вось толькі ці многа знойдзецца такіх, хто гатовы кінуць да ног каханай мільён пунсовых ружаў?..

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*ПРЭЗЕНТАЦЫІ*

## БЫЛЫ СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СТАЎ АЎТАРАМ КНІГІ

**Імя Мечаслава Грыба, бясспрэчна, ужо ўвайшло ў гісторыю Беларусі. Менавіта ён падпісаў першую Канстытуцыю нашай краіны. А нядаўна выйшла ў свет і ягоная кніга «На гістарычным скрыжаванні», якую выдала незалежная выдавецкая кампанія «Тэхналогія».**

Людзі, якія цікавяцца палітычнай кар'ерай Мечаслава Грыба, пабачаць у ёй нямала матэрыялаў, што ўжо друкаваліся ў перыядычных выданнях. Акрамя газетных публікацый (дарэчы, не толькі айчынных) сюды ўвайшлі таксама ягоныя выступленні на міжнародных і нацыянальных форумах, шматлікія фотаілюстрацыі.

Прыстойнае афармленне выдання — заслуга НВК «Тэхналогія», якая зарэкамендавала сябе салідным навуковым выдавецтвам. «Тэхналогія» (яе ўзначальвае наш былы калега Вацлаў Багдановіч) выпусціла, напрыклад, «Сучасную культурную антрапалогію» М. Говарда, «Гістарычныя ўводзіны ў філасофію навукі» Дж. Лоўзі. Гэту выдавецкую кампанію добра ведаюць нашы суайчыннікі за мяжой — супольна з імі ажыццяўляецца праграма выдання серыі «Бібліятэка Беларускай дыяспары». Вартая ўвагі і яшчэ адна ініцыятыва кампаніі «Тэхналогія» — стварэнне альтэрнатыўнай сістэмы распаўсюджвання кніг на беларускай мове.

Павіншаваць Мечаслава Грыба з нагоды выхаду кнігі прыйшлі многія палітыкі, дзеячы навукі і культуры. Прысутнічалі таксама большасць паслоў, якія прадстаўляюць свае краіны ў Беларусі.

**Міхась ТАЛОЧКА.**

## БЗВ СУПРАЦЬ АЛЕГА ТРУСАВА?

**Выканаўчая рада патрыятычнага руху «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў» выключыла з шэрагаў сваёй арганізацыі старшага лейтэнанта запасу, экс-дэпутата Вярхоўнага Савета і экс-лідэра Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Алега Трусава.**

Рашэнне тлумачыцца, па-першае, тым, што Алег Трусаў фактычна падтрымаў дзеянні дэпутатаў, якія ратыфікавалі Дагавор аб утварэнні Супольнасці Суверэнных Рэспублік, і, па-другое, што ён не браў удзел у масавых акцыях дэмакратаў вясной гэтага года ў Мінску. Нарэшце, сп. Трусаву інкрымінуюцца таксама некаторыя выказванні ў адрас БЗВ, сэнс якіх зводзіўся да таго, што гэты рух знікае з палітычнага жыцця Беларусі.

Словам, абгрунтаванняў радыкальнай меры аказалася больш чым дастаткова. Невядома толькі, якія ўсё ж такі яе сапраўдныя прычыны: канфлікт Алега Трусава з цяперашнім кіраўніцтвам «Згуртаванню вайскоўцаў», ці проста жаданне яшчэ раз пацвердзіць, што «жыве БЗВ»?

**Сяргей ГРЫБ.**

## ЗА КІМ ПОЙДЗЕ ЭЛЕКТАРАТ ЛЕБЕДЗЯ

Паводле ацэнак Цэнтра стратэгічнага аналізу і прагнозу, у другім туры прэзідэнцкіх выбараў электарат Аляксандра Лебедзя дзеліцца на тры часткі. Першая, амаль трэць, пойдзе за Барысам Ельцыным. Крыху больш за трэць прыхільнікаў Лебедзя, напэўна, прагаласуюць за Зюганава. Астатнія выбаршчыкі цяперашняга сакратара Савета бяспекі або наогул не прыйдуць на выбары, або прагаласуюць супраць абодвух кандыдатаў.

# У СТАЛІЦЫ ІДУЦЬ «РАЗБОРКІ»



## АХВЯРАЙ АПОШНЯЙ СТАЎ АДЗІН З КРЫМІНАЛЬНЫХ «АЎТАРЫТЭТАЎ»



**Другі раз запар раён ля універсама «Рыга», умоўна кажучы, прыносіць няшчасце ўладальнікам уласных аўтамабіляў. Летась непадалёк ад гэтага універсама ахвярай «бамбіста» стаў прадпрымальнік, з якім такім чынам разлічыліся «па даўгах». У чацвер гісторыя зноў паўтарылася.**
**У 15.40 на вуліцы Усходняй каля дома № 26 узарвалася «дзевятка». Загінуў адзін чалавек, мяркуючы па ўсім, яе ўладальнік.**



Паводле слоў відавочцаў, якія сталі сведкамі здарэння, мужчына паспеў толькі адкрыць дзверцы аўтамабіля, як адбыўся выбух. Ён быў настолькі моцны, што дэталі ад «Жыгулёў» разляцеліся ў радыусе 25 метраў, а ў доме былі выбіты шыбы аж да 6 паверха. Сотавы тэлефон загінуўшага, які ён меў пры сабе, застаўся цэлы. На шчасце, наступствы здарэння не закранулі іншых людзей — пацярпеўшых, акрамя загінуўшага, не было. Тлумачыцца гэта тым, што выбух адбыўся ў так званы «ціхі час».

Міліцыя, якая аператыўна прыбыла на месца, адразу ж пачала высвятляць дэталі таго, што адбылося. Аднак на ўчарашні дзень ніякай афіцыйнай версіі праваахоўныя органы журналістам не паведамлялі. Па словах супрацоўнікаў МУС, асоба загінуўшага высвятляецца, як і прыналежнасць аўтамабіля. Не спяшаюцца работнікі праваахоўных органаў і з высновамі наконт прычын выбуху: ці то ён адбыўся ў выніку няспраўнасцей у машыне, ці то было падкладзена выбуховае ўстройства.

З неафіцыйных крыніц нам удалося высветліць, што ахвярай стаў адзін з крымінальных «аўтарытэтаў» 1961 года нараджэння, які пачаў прабівацца ў сферы афіцыйнага бізнесу. Такім чынам, аб выпадковасці гэтага здарэння гаварыць не прыходзіцца. Хутчэй за ўсё, тут мае месца крымінальная «разборка». Аднак гэта інфармацыя газеце не пацверджана супрацоўнікамі міліцыі.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**
**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

*ЖЫЦЦЁ ПАРТЫЙ*

## САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНЫ САЮЗ — АБ'ЯДНАННЕ ЧАТЫРОХ

**Аб далучэнні да палітычнага блока «Сацыял-дэмакратычны саюз» заявіла Беларуская партыя працы. 20 чэрвеня ў Вярхоўным Савеце старшыня БПП, дэпутат беларускага парламента Аляксандр Бухвостаў, паставіў свой подпіс пад Дэкларацыяй аб утварэнні СДС, якую яшчэ ў мінулым годзе падпісалі лідэры ПНЗ, БСДГ і ПУАЗ. Дарэчы, аб'яднальныя працэсы ў лагеры сацыял-дэмакратаў цягнуцца ўжо два гады і, як бачым, даюць плён.**

У гэты ж дзень кіраўнікі дзвюх партый—удзельніц СДС — Партыі народнай згоды і Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады — Леанід Сечка і Мікалай Статкевіч парафіравалі дагавор аб аб'яднанні названых партый у адну палітычную арганізацыю. Яны паведамілі, што канчатковае зліццё ПНЗ і БСДГ у Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю адбудзецца 29 чэрвеня на аб'яднальным з'ездзе ў Мінску.

Акрамя таго, як стала вядома карэспандэнту «Звязды», 25 чэрвеня адбудзецца з'езд Беларускай жаночай партыі «Надзея».

Вядома, што «Надзея» з'яўляецца яшчэ адной партыяй, якая сімпатызуе блоку СДС, таму, магчыма, на з'ездзе будзе разглядацца магчымасць далучэння да сацыял-дэмакратаў і жаночай партыі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*РЭХА ПАДЗЕЙ*

# РАСІЯ ВЫБІРАЕ БУДУЧЫНЮ ДЛЯ СЯБЕ І ДЛЯ НАС

### Пазбавіўшыся ад заклятых сяброў, Барыс Ельцын павялічыў свае шанцы на перамогу

**Найбольш скандальнай падзеяй мінулага тыдня, якая выклікала бурныя парламенцкія «разборкі», стала, відавочна, сітуацыя вакол стральбы па аўтамабілю дэпутата Віктара Ганчара. Аднак нават гэтая гучная гісторыя, якая можа мець істотны працяг для беларускіх праваахоўных органаў, па сваёй значнасці і немінучых выніках для будучыні Беларусі не можа ісці ні ў якое параўнанне з іншай падзеяй. Тэмай нумар адзін, лёсавызначальнай для нашай краіны датай стаў дзень 16 чэрвеня — першы тур прэзідэнцкіх выбараў у Расіі.**

Наша вялікая ўсходняя суседка ў чарговы раз прадэманстравала даўно адкрытую ісціну пра тое, што яе «аршином общим не измерить». Прагнозы тых, хто спрабаваў спраецыраваць на расійскую сітуацыю агульную ўсходнееўрапейскую схему з немінучасцю вяртання да ўлады «левых» сіл — не спраўдзіліся.

І хоць верагоднасць прыходу да ўлады Генадзя Зюганава па-ранейшаму высокая, сёння настрой тых, хто разлічвае пасля 3 ліпеня мець справу з Расіяй дэмакратычнай і рыначнай, — як ніколі аптымістычны. Барысу Ельцыну ўдалося дабіцца, здавалася б, немагчымага. Пасля найцяжэйшага перыяду рэформаў, ва ўмовах, калі ўся постсавецкая прастора трызніць камуністычнымі лозунгамі і настальгічна ўздыхае па брэжнеўскіх часах таннай каўбасы, — ён пераканаў больш як трэць расійскіх выбаршчыкаў у тым, што назад дарогі няма.

Яму наўрад ці ўдалося б гэта зрабіць, калі б за ім не пайшла асноўная частка расійскай інтэлігенцыі — найбольш таленавітыя рускія пісьменнікі, акцёры, журналісты. Гэта іх намаганнямі і іх здольнасцямі расійская інфармацыйная прастора ў сваёй значнай частцы ператварылася ў антыкамуністычны фронт.

Мне ўжо даводзілася пісаць на старонках «Звязды» пра тое, які ўдар дзякуючы аб'яднанай інфармацыйнай прасторы гэта нанесла па беларускіх камуністах. Публікацыя на гэту тэму выклікала папрокі з лагера камуністаў — у прыватнасці, журналісткі Людмілы Маслюковай (гл. «Звязду» за 1 чэрвеня г.г.). Камуністычныя сілы абвінавачваюць Ельцына ў тым, што ён нібыта вядзе гульню па недэмакратычных правілах, не дапускае апанентаў на тэлебачанне, выкарыстоўвае ў перадвыбарных мэтах дзяржаўны апарат і г.д. Парадокс у тым, што да дэмакратычных прынцыпаў і каштоўнасцей апелююць менавіта тыя сілы, якія не маюць на гэта маральнага права. Прыйшоўшы да ўлады шляхам узброенага перавароту, бальшавікі ў свой час зрабілі ўсё магчымае для таго, каб узурпіраваць уладу і выкараніць з грамадскай свядомасці само паняцце дэмакратыі. Сем дзесяцігоддзяў таталітарнага рэжыму паказалі, чаго вартыя ў вачах камуністаў такія асноватворныя дэмакратычныя каштоўнасці, як права асобы на ўласныя погляды, на свабоду слова, друку, сходаў, на свабодныя дэмакратычныя выбары...

Расійская інтэлігенцыя таму і падтрымала далёкую ад дасканаласці фігуру Ельцына, што выдатна ўсведамляе, якую пагрозу нясе для Расіі камуністычны рэванш.

Заключная стадыя перадвыбарнай кампаніі Барыса Ельцына ўжо сёння адзначана шэрагам моцных, напорыстых, наступальных крокаў. Як мудры і вопытны гросмайстар, расійскі Прэзідэнт пайшоў на размен многіх важкіх фігур у імя будучай перамогі, часам прымушаючы сябе забыць пра ўласныя сімпатыі і сяброўскія сувязі. «Здача» былых паплечнікаў, якія кампраметавалі Ельцына ў вачах дэмакратычнай грамадскасці, — Каржакова, Барсукова, Саскаўца і Грачова, — выглядае цяжкім, але мужным і дальнабачным учынкам.

Яго дастойна ацэніць тая частка дэмакратычнага электарату, якая працяглы час не хавала неўразумення з нагоды таго, чаму Барыс Ельцын трымае ля сябе асоб, якія дыскрэдытуюць сябе і яго сумніўнымі з пункту гледжання маралі і права ўчынкамі. А, акрамя таго, падштурхоўваюць яго да крокаў, якія, мякка кажучы, не стасуюцца з дэмакратычнымі прынцыпамі. (Варта нагадаць хаця б агрэсіўную лінію Грачова ў дачыненні да чачэнскай праблемы ці настойлівыя парады Каржакова адмяніць прэзідэнцкія выбары.)

Барыс Ельцын у чарговы раз прадэманстраваў выдатнае палітычнае чуццё і волю. Замена ключавых фігур — кіраўнікоў сілавых структур у Расіі заўсёды была справай рызыкоўнай. Тым больш, што Прэзідэнта звязвалі з імі не толькі службовыя адносіны. Але сантыменты ў палітыцы адступаюць на другі план, калі размова ідзе пра крытычны момант у гісторыі такой дзяржавы.

Магчымая перамога Ельцына, хутчэй за ўсё, пакладзе канец таптанню на месцы, якім вызначылася ў апошнія гады Беларусь, не адважваючыся на сур'ёзныя рыначныя пераўтварэнні. Перыяд няпэўнасці і чакання «чырвонага маршу» завершыцца. Нам, нарэшце, давядзецца чапляць свой вагон да расійскага эшалона і хоць і запозненa, хоць і са скрыпам і бразгатам, але разам рухацца ў Еўропу, да таго грамадскага парадку, які ўжо даўно апрабаваны і ўдасканалены чалавецтвам і ў якім утульна і камфортна адчуваюць сябе нават камуністы. Можа таму там яны не такія агрэсіўныя, не апантаныя ідэяй ашчасліўіць чалавецтва, і цалкам задавальняюць свае прэтэнзіі на ўладу, атрымліваючы некалькі дэпутацкіх мандатаў у парламенце.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# Два дні ў НАТО



**Нядаўна штаб-кватэру НАТО ў Бруселі наведала вялікая група журналістаў з Беларусі. Сярод іх быў і карэспандэнт «Звязды». Прапаноўваем яго нататкі.**

## Салодкія песні натаўскіх «галубоў»

«Галубы» і «ястрабы» звычайна ёсць у кожнай буйной палітычнай ці ваеннай арганізацыі. Першыя аддаюць перавагу мірным падыходам, пазбягаюць грукату зброяй, больш схільныя весці доўгія дыпламатычныя перагаворы, чым размаўляць мовай кароткіх ультыматумаў. Другія ж займаюць ваяўнічыя пазіцыі, не прымаюць кампрамісаў, найлепшым аргументам у спрэчках лічаць сілу.

Пэўна, так было задумана загадзя, але мы два дні мелі справу выключна з «галубамі». Падцягнутыя, ветлівыя, адкрытыя для дыскусіі і даволі шчырыя ў сваіх выказваннях афіцэры і служачыя НАТО выглядалі людзьмі з мірнымі намерамі. У тактоўнай форме, як бы між іншым, яны прачыталі нам кароткі курс пра сучасны стан іх арганізацыі, лейтматыў якога — НАТО пасля заканчэння «халоднай вайны» перажыла якасныя перамены і на дадзеным этапе заклапочана выключна ўмацаваннем бяспекі ў Еўропе.

Пры зручным выпадку нам падкрэслівалі: НАТО — міжурадавая арганізацыя, і ўсе сур'ёзныя рашэнні тут прымаюцца шляхам кансенсусу. І кожная з 16 краін-удзельніц мае права вета. Гэта, на думку нашых натаўскіх субяседнікаў, надзвычай важная ўмова. Нават вельмі маленькая дзяржава Люксембург, калі раптам убачыць пагрозу сваім нацыянальным інтарэсам, можа лёгка заблакіраваць рэалізацыю нявыгаднага ёй палітычнага рашэння. І астатнія краіны вымушаны будуць падпарадкавацца гэтаму, бо такія вось правілы гульні ў НАТО.

У «галубоў» і свой погляд на вынікі «халоднай вайны». Пераважная большасць заходніх палітолагаў лічаць нас пацярпеўшым бокам. Дарэчы, і нашы палітычныя аналітыкі і даследчыкі схільныя да падобнай ацэнкі. А вось натаўскія «галубы» казалі, што ў той бяскроўнай вайне ўсе перамаглі і памылкова прыпісваць лаўры пераможца толькі Захаду. Ведаеце, дробязь, а чуць прыемна.

«Галубы» не хавалі ад нас сваёй нездаволенасці агрэсіўнымі настроямі «ястрабаў». Вось урывак з выступлення адной мірнай «птушкі»: «Старое мысленне прысутнічае як у вас, так і ў нас, нягледзячы на тое, што свет моцна змяніўся. Часта чуеш тут аб тым, што трэба выкарыстаць слабасць Расіі, усяляк ціснуць на яе, каб прымусіць выконваць волю Захаду. Але гэтыя людзі сёння ў меншасці, да іх галасоў не прыслухоўваюцца. І не адзін парламент не адобрыць падобную палітыку, бо яна бесперспектыўная».

Яшчэ мы пачулі аб тым, што шмат людзей у краінах НАТО не адразу пасля 1991 года (развалу СССР) змаглі псіхалагічна ўсвядоміць простую рэч: што ворага ўжо больш няма, што надышоў час карэнным чынам мяняць ролю арганізацыі. На гэта спатрэбілася некалькі гадоў.

Здзіўляцца тут няма чаму. Як прызнаўся нам адзін афіцэр, ён усе гады свайго свядомага жыцця, за выключэннем некалькіх апошніх, пражыў пад страхам нападу Савецкага Саюза на яго краіну. Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што і мы не адно дзесяцігоддзе таксама баяліся нападу ўзброеных сіл сусветнага імперыялізму.

Адсюль зразумелы і недавер паміж Захадам і Усходам. Падазронасць адзін да аднаго — як вугольчык на ветры: то гасне, то ўспыхне яркім полымем. Сёння яно трохі прытушана вынікамі сесіі Савета НАТО ў Берліне. Нагадаем, што Савет Паўночнаатлантычнага супрацоўніцтва быў створаны ў 1991 годзе. Мэта — развіццё адносінаў і супрацоўніцтва НАТО з краінамі Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, якія раней уваходзілі ў Варшаўскі Дагавор, а цяпер з'яўляюцца ўдзельнікамі вядомай натаўскай праграмы «Партнёрства дзеля міру». Тады ў Берліне ўпершыню пасля даволі працяглай дыпламатычнай барацьбы расійскай і ў пэўнай ступені беларускай дыпламатыі з заходнімі апанентамі ўдалося знайсці новы паварот у спрэчках вакол пашырэння НАТО. Вострая дыскусія па гэтым пытанні мае добрыя шанцы паступова перайсці ў канструктыўны дыялог, у ходзе якога, будзем спадзявацца, абодва бакі выпрацуюць узаемапрымальнае рашэнне.

Мы ў Брусель прыехалі амаль адразу пасля берлінскай сустрэчы. Можа таму нашы размовы з натаўскімі «галубамі» вяліся вакол абнаўлення, перабудовы і змены арыенціраў у дзейнасці гэтай арганізацыі, якой нас доўга і ўпарта пужала савецкая прапаганда.

Як важны аргумент таго, што сёння ў НАТО адбываюцца істотныя перамены, нам прыводзілі факты скарачэння ўзброеных сіл альянсу. Пасля заканчэння «халоднай вайны» іх колькасць зменшылася на 30 працэнтаў. Асаблівай чысткі падвергліся ядзерныя арсеналы — на 90 працэнтаў. Ці амаль 7 тысяч да крыху больш за 400 боегаловак. Таксама значна скараціліся расходы на абарону ў краінах НАТО. Колькасць амерыканскіх ваеннаслужачых цяпер у Еўропе складае ўсяго 100 тысяч, а яшчэ зусім нядаўна іх было 350 тысяч.

Па словах натаўцаў, гэтыя перамены моцна адбіліся на ўзроўні боегатоўнасці войскаў. Раней шмат дывізій і армейскіх карпусоў знаходзіліся ў поўнай гатоўнасці пачаць па загаду ваенныя дзеянні. Зараз большасць падраздзяленняў адводзіцца на Захад, дэмабілізуецца, тэхніка складзіруецца.

Разам з тым натаўскія «галубы» лічаць няправільнай пастаноўку пытанняў накшталт: чаму гэта НАТО ўвогуле яшчэ існуе пасля «халоднай вайны»? Ім больш падабаецца іншая фармулёўка: які ўклад можа ўнесці НАТО ва ўмацаванне еўраатлантычнай бяспекі ў цэлым? І самі адказваюць: вялікі і разнастайны. Бо цяпер патэнцыяльныя пагрозы, якія паўстаюць перад краінамі НАТО, маюць іншы характар, чым у час процістаяння з Варшаўскім Дагаворам. Сёння назіраецца небяспека шматбаковага характару і па многіх накірунках, якую цяжка прадказаць і ацаніць. Праўда, што гэта за небяспека і адкуль яе чакаць, нам не канкрэтызавалі. Можна толькі здагадвацца: мы — былыя рэспублікі СССР і ўвогуле краін сацыялістычнага лагера, галоўныя яе носьбіты.

Адсюль выснова: структуру НАТО, якая будавалася і была аптымальнай на момант верагоднага ўзброенага канфлікту з СССР, цяпер неабходна мадэрнізаваць. Падзеі ў Босніі паказалі, што сёння неабходна меншыя па колькасці ўзброеныя сілы, але больш гібкія ў кіраванні і мабільныя ў разгортванні, якія маглі б аператыўна і з максімальнай эфектыўнасцю дзейнічаць у крызісных раёнах.

З асабістых назіранняў: зблізку НАТО не такая страшная арганізацыя, як здаля. Нават знешне. Штаб-кватэра знаходзіцца ў звычайных памяшканнях накшталт адміністрацыйных карпусоў нашых сярэдніх заводаў. А галоўны штаб аб'яднаных сіл НАТО ў Еўропе (SHAPE), куды нам забаранілі браць дыктафоны і фотаапараты, нагадваў офіс турыстычнай фірмы з шырокімі сувязямі ў свеце. Усюды на сценах віселі вялікія каляровыя фотаздымкі славутых і вельмі прыгожых мясцін нашай планеты.

## «Ідэі нашы, бензін — ваш»

Як вядома, Расія, а з ёй і Беларусь, рашуча і аднадушна паўсталі супраць рэалізацыі асноўнага тэзіса ў зробленым у верасні 1995 года так званым «Даследаванні па пытанню аб пашырэнні НАТО» аб тым, што гэта будзе новым крокам ва ўмацаванні стабільнасці і бяспекі ў еўраатлантычным рэгіёне. Вельмі доўга — 45 гадоў мы лічылі адзін аднаго патэнцыяльнымі праціўнікамі, каб вось так прастадушна і без аніякіх ваганняў, без істотных матэрыяльных гарантый паверыць на слова натаўскім стратэгам.

Трэба сказаць, і раней афіцыйны Крэмль заўсёды хваравіта і з вялікай падазронасцю рэагаваў на павелічэнне членаў НАТО. Кожнае падобнае пашырэнне, калі ў саюз прымалі ў 1952 годзе Турцыю і Грэцыю, у 1955-м — Германію і ў 1982-м — Іспанію, суправаджалася істэрычнымі заявамі савецкай контрпрапаганды і заклікамі аб'яднацца вакол роднай партыі, адказаць на падкопы ворагаў ударнай працай.

Цяпер і сітуацыя ў свеце кардынальна змянілася, і аб чарговым пашырэнні НАТО пакуль ідуць толькі размовы, але рэакцыя Масквы і ўжо Мінска была жорсткай і адназначнай. Пазіцыя абедзвюх сталіц добра вядомая, таму няма сэнсу паўтарацца. І, на мой погляд, яна ўсё ж адыграла сваю ролю.

Два дні, вядома, гэта не той тэрмін, за які можна дасканала разабрацца ў карэкціроўцы палітыкі НАТО пасля берлінскай сустрэчы (асабліва, калі да цябе ставяцца як да аб'екта прапагандысцкай работы), але, тым не менш, асобныя перамены ў падыходах да пашырэння арганізацыі, як мне здалося, усё ж можна акрэсліць.

Было бачна, што ў НАТО ўсё больш разумеюць: без канструктыўнага супрацоўніцтва з Расіяй, якая па-ранейшаму застаецца вялікай дзяржавай з магутным эканамічным і ядзерным патэнцыялам, немагчыма дасягнуць чаканага ўзроўню стабільнасці і бяспекі ў Еўропе.

Хаця зваротнага ходу ідэі пашырэння, пэўна, не будзе і яна, хутчэй за ўсё, некалі ажыццявіцца, аднак сам яе працэс можа расцягнуцца і трансфармавацца ў залежнасці ад абставінаў. А яны ў апошні час, на мой погляд, не заўсёды на карысць кандыдатаў у НАТО. І справа не толькі ў рашучасці Масквы і Мінска.

Самі прэтэндэнты, якія пераацанілі свае шанцы на прыняцце ў гэту арганізацыю, у значнай ступені сапсавалі ўражанне аб сабе ў палітычнай эліты Захаду. Ім бы, лідэрам краін-кандыдатаў, сціпла сядзець у сваіх сталіцах ды час ад часу «плакацца ў жылетку» вядомым заходнім дзеячам і ўплывовым сродкам масавай інфармацыі на пагрозу з Усходу і г.д. Дык жа не. Іх пацягнула на шырокія каментарыі і сенсацыйныя заявы. Чаго варта, напрыклад, сцвярджэнне міністра замежных спраў Польшчы Д. Расаці аб тым, што яго краіна гатова прыняць на сваёй тэрыторыі атамную зброю НАТО. Нешта падобнае прагучала і з вуснаў кіраўнікоў і афіцыйных асоб іншых дзяржаў Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.

У брусельскай штаб-кватэры гэткае заўчаснае і празмернае праяўленне вернасці і адданасці справе пашырэння выклікала глухое незадавальненне і раздражненне. Накшталт паводзінаў малых дзяцей, якія лезуць наперадзе бацькі ў пекла.

— Некаторыя ўсходнееўрапейкія краіны чамусьці думаюць, што для таго, каб далучыцца да НАТО, трэба заяўляць пра сваю гатоўнасць размясціць у сябе арсеналы ядзернай зброі. Мы іх аб гэтым не прасілі, — так пракаменціравалі ў НАТО ініцыятыву былых нашых баявых сяброў па Варшаўскаму Дагавору. А іх заявы з гэтай нагоды назвалі бязглуздымі. І ўвогуле, чаму гэта яны ў гэтых краінах заклапочаны нашай ядзернай зброяй, здзіўляліся натаўскія афіцэры. Мы ж, напрыклад, не заклапочаны атамнай зброяй Расіі, бо яна ўжо не вораг, казалі нам.

За гэтыя дні мы неаднойчы чулі ў розных варыяцыях аб тым, што пытанне аб пераносе часткі атамнай зброі на тэрыторыю будучых новых членаў не стаіць. Абсалютна бяз'ядзерная краіна можа з'яўляцца стопрацэнтным удзельнікам НАТО. Яна, пры жаданні, можа падключацца да работы групы ядзернага планавання арганізацыі, актыўна ўдзельнічаць у яе рабоце. Што, дарэчы, і робіць Нарвегія, якая мяжуе з Расіяй.

А прадстаўнік Германіі (на жаль, яго прозвішча я не занатаваў) не без долі абурэння гаварыў, маўляў, як можа садзейнічаць умацаванню бяспекі яго краіны прасоўванне ядзернай зброі на граніцу з Беларуссю? Навошта наўмысна злаваць вас і рускіх? Яго краіна не стане ад гэтага жыць у большай бяспецы. Тады навошта Германіі рызыкаваць і псаваць з вамі адносіны, якія пастаянна паляпшаюцца?

І ў сваю чаргу навошта палякам атручаць адносіны з Беларуссю, Расіяй, Украінай? Сумніўна, што гэта здольна ўмацаваць бяспеку Польшчы.

Немец падвёў рысу сваімі разважаннямі кароткай, але шматзначнай фразай:

— Ва ўсіх саюзнікаў НАТО аналагічныя погляды па гэтым пытанні: не трэба займацца тым, што падрывала б нашу бяспеку. Бо новая канфрантацыя па лініі Усход—Захад наўрад ці будзе садзейнічаць росту дабрабыту насельніцтва ўсёй Еўропы, павелічэнню гандлю, свабоднаму перамяшчэнню капіталаў, паслуг, працоўнай сілы, тавараў.

У свеце падобных выказванняў працэс пашырэння ўжо не выглядае беспраблемным і простым.

Ён, па словах натаўскіх экспертаў, павінен засноўвацца з улікам інтарэсаў як краін НАТО, так і тых краін, якія ў бліжэйшай будучыні не збіраюцца станавіцца членамі НАТО ці ўвогуле адмаўляюцца ўступаць у яе. І гэта не абавязкова былыя сацыялістычныя краіны. Не гараць жаданнем далучыцца да НАТО Фінляндыя і Аўстрыя.

І па гэтай прычыне таксама, на думку экспертаў, пашырэнне неабходна весці асцярожна, без мітусні і спешкі. Як дакладна яно будзе рэалізоўвацца на практыцы — нават яны не ведаюць. Можа таму яшчэ афіцыйна не названы бліжэйшыя кандыдаты на ўступленне ў НАТО, а толькі вядомы найбольш няўрымслівыя прэтэндэнты на членства ў арганізацыі, якія з рамантычным імпэтам імкнуцца праз НАТО вырашыць свае знешнепалітычныя праблемы. Прычым, як гаворыцца, за кошт прымаючага боку.

Як нам далі зразумець у штаб-кватэры, падобнае ўтрыманства не пройдзе. Парламенты краін НАТО не прагаласуюць за фінансаванне членства ў арганізацыі ўсходнееўрапейскіх дзяржаў, ім прыйдзецца самім аплачваць усе расходы. Ці, як казаў бессмяротны Астап Бендэр жыхарам аднаго правінцыяльнага гарадка ў час яго славутага ўдара аўтапрабегам па бездарожжы і разгільдзяйству: «Ідэі нашы, бензін — ваш». Нешта падобнае назіраецца і з пашырэннем Паўночнаатлантычнага саюза — ідэі НАТО, а вось бензін...

Вось гэтую простую рэч у краінах былога сацлагера, як я зрабіў выснову пасля гутарак з натаўцамі, усведамляюць з цяжкасцю, слаба ўспрымаюць як неабходную ўмову. Не ведаю чаму, магу толькі выказаць здагадку, што ў сталіцах гэтых краін да ўступлення ў НАТО падыходзяць як некалі да членства ў Варшаўскім Дагаворы, калі асноўны фінансавы цяжар нёс Савецкі Саюз.

З НАТО нам наканавана супрацоўнічаць, калі мы сапраўды імкнёмся інтэгравацца ў еўрапейскую супольнасць. У Брусэлі гатовы развіваць з намі адносіны па розных накірунках. Там вялікія надзеі ўскладаюць на новую праграму індывідуальнага партнёрства з Беларуссю. Яна, як нам гаварылі, мае мэтай скараціць адставанне ў супрацоўніцтве з НАТО, намеціць разам мерапрыемствы, якія наша краіна хоча ажыццявіць дзеля ўмацавання сваіх нацыянальных інтарэсаў.

Канчатковы варыянт праграмы мяркуецца завяршыць да канца гэтага года і ўжо ў 1977 годзе пачаць яе рэалізацыю.

Магчыма, яна стане новым словам у нашым супрацоўніцтве з НАТО. Час пакажа. Але як бы там ні было ці яшчэ будзе, усё ж карысна заўсёды мець на ўвазе дэвіз галоўнага штаба аб'яднаных сіл НАТО у Еўропе (SHAPE): «Цана свабоды — пільнасць».

І не толькі ў адносінах з НАТО.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА НЕ ЎЗБУДЖАНА, АЛЕ «РАЗБОРКІ» ПАЧАЛІСЯ

Галоўная ваенная пракуратура пачала праверку фактаў, якія выклаў Аляксандр Лебедзь, аб спробе высокапастаўленых генералаў аказаць сілавы ціск на прэзідэнта пасля адстаўкі міністра абароны Грачова.

Шэраг генералаў ужо пабывалі ў следчых. У іх узяты паказанні па сутнасці гэтага пытання. Работа праводзіцца не ў рамках канкрэтнай крымінальнай справы — па дадзенаму факту яна не ўзбуджана. Сярод генералаў, якія маюць дачыненне да «ГКПЧ-3», Лебедзь назваў першага намесніка начальніка Генштаба Валера Барынькіна, начальніка Галоўнага ўпраўлення Генштаба Дзмітрыя Харчанку, першага памочніка міністра абароны Валера Лапшова і прэс-сакратара міністра Алену Агапаву і некаторых іншых.

### ЗА ЧАС ПЕРАМІР'Я Ў ЧАЧНІ ЗАГІНУЛА БОЛЬШ ЗА 50 ЧАЛАВЕК

Паводле даных расійскага боку, з моманту ўступлення ў сілу пагаднення пра спыненне агню пазіцыі федэралаў абстрэльваліся баевікамі 350 разоў. Больш за 30 вайскоўцаў загінулі, каля 100 атрымалі раненні. У сваю чаргу баевікі сцвярджаюць, што ў перыяд з 1 чэрвеня іх пазіцыі абстрэльваліся 400 разоў. Загінулі 25 чалавек, 72 атрымалі раненні.

Між тым учора ў Грозным пры падрыве бронетранспарцёра 5 чалавек загінулі і 5 атрымалі раненні. Тэракт адбыўся каля 9 гадзін раніцы ў раёне кінатэатра «Расія».

### ЗЮГАНАЎ ЗАЎВАЖЫЎ РАЗГУБЛЕНАСЦЬ У КАМАНДЗЕ САПЕРНІКА

Лідэр кампартыі Расіі паведаміў, што адлучэнне Ельцыным трох уплывовых асоб ад улады сведчыць, што яго адміністрацыя дэзарыентавана. Галоўная асоба ў перадвыбарнай кампаніі Ельцына — Анатоль Чубайс заявіў, што гэтыя змены сталі вынікам працяглай барацьбы між дэмакратамі і рэакцыйнымі элементамі.

### ІРАК НА САММІТ НЕ ЗАПРАСІЛІ

Сёння пачынае работу саміт па блізкаўсходняму мірнаму працэсу. Міністры замежных спраў арабскіх краін сабраліся ўчора ў Каіры і падрыхтавалі пытанні для саміта. Арабскія краіны спрабуюць распрацаваць агульную пазіцыю ў дачыненні да новага ўрада Ізраіля. Карэспандэнт Бі-бі-сі лічыць, што існуе пагроза таго, што арабскія краіны не змогуць аб'яднацца па прычыне ўнутраных супярэчнасцей між некаторымі з іх. Асабліва між Сірыяй і Іарданіяй. Ірак не атрымаў запрашэння на гэту сустрэчу.

### БРАЗІЛІЮ ЎСКАЛЫХНУЛА ХВАЛЯ МІТЫНГАЎ

Каля 8 мільёнаў рабочых маюць намер у бліжэйшы час узяць удзел ва ўсеагульным страйку супраць эканамічнай палітыкі прэзідэнта Кардозы. Арганізатарамі страйку сталі тры асноўныя прафсаюзныя арганізацы Бразіліі, якія абвінавачваюць урад у павелічэнні беспрацоўя. Работнікі транспарту, банкаў, настаўнікі і інжынеры выйдуць на вуліцы. У мінулым месяцы ўжо праводзілася падобная акцыя.

### «ЛЮТАЎСКІ» ІНЦЫДЭНТ З ПРАЦЯГАМ

Злучаныя Штаты Амерыкі робяць новыя крокі з мэтай узмацніць міжнародны ціск на Кубу, звязаны з расследаваннем інцыдэнту ў Атлантычным акіяне, калі ў лютым гэтага года кубінскія ваенна-паветраныя сілы збілі два грамадзянскія самалёты з кубінскімі эмігрантамі. Паводле Вашынгтона, следства, якое праводзілася міжнароднай арганізацыяй грамадзянскай авіяцыі, канчаткова пацвярджае той факт, што самалёты былі збіты над нейтральнымі водамі. Кубінскі прадстаўнік у ААН паведаміў, што даследаванне было няпоўным і пазбаўленым аб'ектыўнасці.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Паліцыя бразільскага горада Кампінас кінула ўсе сілы на пошук бландзінкі, якая як дзве кроплі вады падобная на знакамітую кіназорку Шарон Стоўн, толькі займаецца зусім іншай справай. Бландзінка... рабуе банкі. Знешнасць бландзінкі збівае з панталыку і ахоўнікаў, і банкаўскіх служачых. «Яна падобная на каго заўгодна, толькі не на кіраўніка банды», — прызнаўся адзін з банкіраў пасля таго, як яго фінансавую ўстанову апусташылі.

**Рэйтэр**

*Васьмігадовы Элмер Хоўер Лікона, які жыве ў маленькім гандураскім гарадку ў бабулі, засумаваў па маці і адправіўся на яе пошукі. Ён не ведаў адраса, памятаў толькі, што яна паехала на заробкі «на поўнач». У яго не было ні дакументаў, ні грошай. Тым не менш, хлопчык, карыстаючыся дабратой вадзіцеляў, змог зрабіць падарожжа ў 1600 кіламетраў, перасекчы дзве дзяржаўныя граніцы. Яго затрымалі толькі ў аэрапорце Гвадалахары, дзе ён спрабаваў угаварыць пілота «падкінуць» яго да Каліфорніі.*

**Асашыэйтэд Прэс**

Сваю цану ведам устанавіла намеснік дырэктара па навучальнай частцы Чэлябінскага мантажнага каледжа.

З адной з навучэнак яна вымагала 600 тысяч рублёў за паспяховую здачу экзаменаў. Дзяўчына расказала аб гэтым міліцыі, а аператыўныя работнікі ўзялі хабарніцу з доказамі злачынства. Цяпер ёй, відаць, прыйдзецца даведацца аб цане свабоды.

**«Труд».**



## БЕЛАРУСКІ ФОНД СОРАСА

## абвяшчае вынікі конкурсаў у межах культурных праграм

| Конкурс | | |
|---|---|---|
| **Конкурс праектаў правядзення мастацтвазнаўчых і культуралагічных імпрэзаў**<br>*Паступіла 22 заяўкі.*<br>*Пераможцамі прызнаныя 7 праектаў.*<br>*Агульная сума фінансавай падтрымкі –*<br>**14.770 долараў ЗША:** | · **рэспубліканскае свята беларускай паэзіі і песні «Ракуцёўскае лета»** (кіраўнік - А.Бяляцкі)<br>· **літаратурны пленэр-семінар «Даўжынаўскія вечары»** (кіраўнік - І.Пракаповіч)<br>· **канферэнцыя, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння М.Шчакаціхіна** (кіраўнік - І.Чэбан)<br>· **міжнародная канферэнцыя «Незалежны літаратурны друк. Шляхі станаўлення»** (кіраўнік - А.Козік) | · **міжнародная навуковая канферэнцыя «Славянская этнамузыкалогія: накірункі, метады, канцэпцыі»** (кіраўнік - Т.Якіменка)<br>· **фестываль фільмаў Пітэра Грынуэя** (кіраўнік - С.Саўчык)<br>· **паэтычная ініцыятыва «Час і месца»** (кіраўнік - Д.Строцаў) |
| **Конкурс праектаў правядзення мастацкіх выстаў**<br>*Паступіла 35 заявак.*<br>*Пераможцамі прызнаныя 7 праектаў.*<br>*Агульная сума фінансавай падтрымкі –*<br>**21.000 долараў ЗША:** | · **выстава «Новыя банкноты. Беларускі рэалізм»** (аўтар - Ц.Ізотаў)<br>· **мастацкая выстава «Лёгкі партызанскі рух»** (аўтар - І.Цішын)<br>· **канцэптуальны праект «Смерць піянера III»** (аўтар - А. Клінаў) | · **выстава мастацтва шрыфта «Літара-96»** (аўтар - П.Семчанка)<br>· **скульптурны пленэр «Размова з камянямі»** (аўтар - А.Вараб'ёў)<br>· **пленэр, прысвечаны Язэпу Драздовічу** (аўтар - Ул.Сулкоўскі)<br>· **праект выставы «Беларускі друкаваны плакат. 1985-1995»** (аўтар - С.Еўлампіевіч) |
| **Конкурс тэатральных праектаў**<br>*Паступіла 24 заяўкі.*<br>*Пераможцамі прызнаныя 5 праектаў.*<br>*Агульная сума фінансавай падтрымкі –*<br>**19.500 долараў ЗША:** | · **першы нацыянальны фестываль «Музыка і тэатр»** (кіраўнік - Ул. Солтан)<br>· **пастаноўка спектакля па п'есе Э.Олбі «Крошка Эліс»** (кіраўнік - рэжысёр-пастаноўшчык К.Марцін)<br>· **пастаноўка монаспектакля «Віленскія мроі»** (кіраўнік - Г.Дзягілева) | · **пастаноўка спектакя па п'есе А.Паповай «Свавольнікі лёсу»** (кіраўнік - рэжысёр-пастаноўшчык В.Баркоўскі)<br>· **пастаноўка спектакля па п'есе Ж.-Б. Мальера «Лекар паняволі»** (кіраўнік - В.Мазынскі) |
| **Конкурс музычных фестываляў і іншых імпрэзаў**<br>*Паступіла 13 заявак.*<br>*Пераможцамі прызнаныя 5 праектаў.*<br>*Агульная сума фінансавай падтрымкі –*<br>**23.255 долараў ЗША:** | · **міжнародны фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа»** (кіраўнік - С.Стуканава)<br>· **музычная імпрэза «Беларускі рок - фестывалю «Магутны Божа»»** (кіраўнік - А.Дайнека)<br>· **міжнародны конкурс піяністаў «Мінск-96»** (кіраўнік - В.Яканюк) | · **рэспубліканскі бардаўскі фестываль «Менск-96»** (кіраўнік - С.Мыцько)<br>· **VIII міжнародны музычны фестываль імя І.Салерцінскага** (кіраўнік - Ул.Правілаў) |
| **Конкурс «Стварэнне новых канцэртных праграм»**<br>*Паступіла 10 заявак.*<br>*Пераможцамі прызнаныя 2 праекты.*<br>*Агульная сума фінансавай падтрымкі –*<br>**2.500 долараў ЗША:** | · **канцэртная праграма «Еўрапейская музычная класіка для моладзі»** (кіраўнік - С.Лішчанка)<br>· **праграма кантарскай габрайскай музыкі ансамбля «Фрэйгіш»** (кіраўнік - А.Наліваеў) | |






# УСХОДНІ ГАРАСКОП

## на наступны тыдзень

КАЗЯРОГУ астролаг рэкамендуе спыніць мітусню на рабоце, добрых вынікаў гэта не прыносіць і адцягвае ад сапраўднай справы. Перадыхніце некалькі дзён, пакуль ўсё не ўсталюецца. Потым пачніце зноў шлях да поспеху, і вы яго дасягнеце. Фінансавыя дывідэнды пры гэтым не выключаюцца.

ВАДАЛЕЮ трэба адважыцца на некаторыя перамены ў вірлівым жыцці, але пайсці на гэта трэба будзе без усякага ўплыву з боку. Спробы будаваць новыя планы, застаючыся на старым месцы, шкодныя і бесперспектыўныя. У суботу чакайце прыемную вестку па пошце. Яна паўплывае на вашу будучыню. Магчыма, выпадзе выгадная аперацыя з нерухомасцю — зоркі гэтаму спрыяюць.

РЫБАМ прыйдзецца з галавой акунуцца ў сямейнае жыццё. Тут не выключаюцца спрэчкі з роднымі. Развесці хмары на дамашнім небасхіле змогуць прадстаўніцы прыгожага полу. Астролаг папярэджвае, што на тыдні зоркі настроены да вас чамусьці вельмі строга. Таму залішне не перанапружвайцеся і не чакайце асаблівай удачы.

АВЕНЫ пераканаюцца, што зменлівая ўдача можа выслізнуць у іх прама з рук. Не падайце духам і неадкладна распачынайце што-небудзь новае. Рашучыя крокі трэба будзе зрабіць тым, хто доўга марыць пра сямейны ачаг. Адпушчаны зоркамі час на роздум скончыўся, і вам пара склікаць гасцей на вяселле.

ЦЯЛЬЦОЎ будзе прыцягваць усё лёгкае, паветранае, ружовае і паэтычнае. Удалым для вас акажацца занятак мастацтвам і творчасцю. Прыемнымі стануць розныя падарожжы. Работа здасца задавальненнем, а сустрэчы і размовы з дамашнімі — вяршыняй асалоды.

У БЛІЗНЯТ тыдзень будзе заняты вучобай, спортам, паходамі ў тэатры і музеі. Хтосьці з сяброў прыдумае для вас нешта заманлівае ў сферы бізнесу ці прапануе падарожжа за мяжу. А тых, хто застанецца ў родных сценах, сямейнае жыццё заспакоіць сваёй размеранасцю і плаўнасцю, што таксама, згадзіцеся, часам бывае мяжой мараў.

РАКАМ зоркі раяць адпачыць і заняцца ў вольны час любімым хобі, асабістымі справамі ці адправіцца падарожнічаць. Для вырашэння фінансавых пытанняў і сур'ёзных спраў тыдзень не зусім прыдатны. Затое для рамантычных прыгод самы час. Яны будуць бурнымі і, як запэўнівае астролаг, дадуць зарад энергіі і аптымізму на будучыню.

ІЛЬВАМ давядзецца займацца руціннымі справамі, але пры гэтым выношваць новыя ідэі і праекты. Уладальнікі творчых прафесій атрымаюць выгадную прапанову. Тых, хто сумуе ў адзіноце, чакае сустрэча з сябрамі. Магчыма, што лёгкае захапленне перарасце ў вас у сур'ёзнае пачуццё.

У ДЗЕВЫ настане ўдалы перыяд, пры якім усё будзе атрымлівацца. Грошы, якія паявяцца, дапамогуць прасунуцца наперад у справах. Мастакі і артысты будуць купацца ў промнях славы. Ваенныя вырашаць пастаўленыя камандаваннем задачы. Узаемаразуменне з блізкімі зробіць прыемным сямейнае жыццё.

ШАЛІ паспяхова справяцца з праблемамі на рабоце, дзе будуць пераадолены ўсе перашкоды і заваявана свабода для самастойных дзеянняў. Вашы пачынанні атрымаюць станоўчы водгук у начальства і акружаючых. Штосьці незвычайнае і цікавае павінна адбыцца ў вас у асабістым жыцці, а вось што іменна — зоркі не гавораць.

СКАРПІЁНА можна будзе павіншаваць з атрыманнем вялікіх грошай. Але не спяшайцеся траціць, а спачатку разлічыцеся з даўгамі. Калі такіх няма, то выкарыстайце фінансы на будаўніцтва дома, куплю аўтамабіля і на ўсё астатняе, што палічыце патрэбным.

СТРАЛЬЦЫ адчуюць, што вялікі поспех на рабоце і захопленасць справамі адцягваюць ўвагу ад нечага вельмі важнага. Але не ганіцеся за навізной і пераменамі — для гэтага яшчэ не настаў час. У фінансавых пытаннях праяўляйце асцярожнасць. Вас чакае поспех і ў будучыні, але ўсяму свой час.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР—ТАСС.**
*г. Дэлі.*

*Ісус Хрыстос сказаў: «Прыдзіце да Мяне ўсе працуючыя і абцяжаныя, і Я супакою вас».* *(Ев. Мацьвея 11:28)*
**220015, Мінск-15 а/с 215.**

# АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ

### *АБ'ЯЎЛЯЕ ПРЫЁМ У ДАКТАРАНТУРУ І АСПІРАНТУРУ НА 1996 ГОД ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦЯХ:*

## ДАКТАРАНТУРА

**Інстытут тэхнічнай кібернетыкі (т. 68-51-76)** — кіраванне ў тэхнічных сістэмах; сістэмы аўтаматызацыі праектавання

**Інстытут праблем энергетыкі (т. 46-75-80)** — цеплафізіка і малекулярная фізіка; ядзерныя энергетычныя ўстаноўкі

**Інстытут прыкладной фізікі (т. 68-53-00)** — метады кантролю і дыягностыка ў машынабудаванні; прыборы і метады кантролю прыроднага асяроддзя, рэчываў, матэрыялаў і вырабаў

**Інстытут эксперыментальнай батанікі (т. 68-48-53)** — батаніка; фізіялогія раслін; біяхімія

**Інстытут гісторыі (т. 68-48-69)** — айчынная гісторыя

**Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (т. 68-53-81)** — фалькларыстыка

**Інстытут літаратуры (т. 68-57-20)** — беларуская літаратура

## АСПІРАНТУРА

**Інстытут фізікі (т. 68-47-26)** — тэарэтычная фізіка; оптыка; лазерная фізіка

**Інстытут малекулярнай і атамнай фізікі (т. 68-53-41)** — оптыка; фізіка і хімія плазмы; тэхніка фізічнага эксперыменту, фізіка прыбораў, аўтаматызацыя фізічных даследаванняў**

**Інстытут прыкладной оптыкі (Магілёў, т. 26-70-89)** — оптыка*

**Інстытут матэматыкі (т. 68-47-84)** — дыферэнцыяльныя ўраўненні**; матэматычная логіка, алгебра і тэорыя лікаў; вылічальная матэматыка

**Інстытут фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў (т. 68-43-13)** — фізіка цвёрдага цела; фізіка паўправаднікоў і дыэлектрыкаў

**Інстытут электронікі (т. 65-61-54)** — аптычныя сістэмы лакацыі, сувязі і апрацоўкі інфармацыі*; элементы і прыстасаванні вылічальнай тэхнікі і сістэм кіравання*; цвёрдацельная электроніка, мікраэлектроніка і наналектроніка*

**Інстытут тэхнічнай кібернетыкі (т. 68-51-76)** — кіраванне ў тэхнічных сістэмах; сістэмы аўтаматызацыі праектавання; прымяненне вылічальнай тэхнікі, матэматычнага мадэліравання і матэматычных метадаў у навуковых даследаваннях; матэматычнае і праграмнае забеспячэнне вылічальных машын, комплексаў, сістэм і сетак*

**АНК «Інстытут цепла- і масаабмену імя А. В. Лыкава» (т. 68-54-91)** — цеплафізіка і малекулярная фізіка; тэарэтычныя асновы цеплатэхнікі

**Інстытут праблем энергетыкі (т. 46-75-80)** — цеплафізіка і малекулярная фізіка; ядзерныя энергетычныя ўстаноўкі; энергетычныя сістэмы і комплексы*

**Інстытут радыяцыйных фізіка-хімічных праблем (т. 46-71-73)** — ядзерныя энергетычныя ўстаноўкі**

**Інстытут радыеэкалагічных праблем (т. 46-76-07)** — радыехімія; радыебіялогія*; ядзерныя энергетычныя ўстаноўкі*

**Фізіка-тэхнічны інстытут (т. 64-53-52)** — тэхналогія машынабудавання*; матэрыялазнаўства ў машынабудаванні*; металазнаўства і тэрмічная апрацоўка металаў**; цвёрдацельная электроніка, мікраэлектроніка і наналектроніка**

**Інстытут механікі металапалімерных сістэм (Гомель, т. 55-41-64)** — фізіка палімераў**; матэрыялазнаўства ў машынабудаванні**; трэнне і знос у машынах**

**Інстытут надзейнасці машын (т. 68-54-25)** — дынаміка, трываласць машын, прыбораў і апаратуры*; тэхналогія машынабудавання

**Інстытут прыкладной фізікі (т. 68-53-00)** — прыборы і метады кантролю прыроднага асяроддзя, рэчываў, матэрыялаў і вырабаў*; метады кантролю і дыягностыка ў машынабудаванні

**Інстытут тэхнічнай акустыкі (Віцебск, т. 4-39-53)** — апрацоўка металаў ціскам**; фізіка цвёрдага цела**

**Аддзел праблем рэсурсазберажэння (Гродна, т. 44-74-90)** — матэрыялазнаўства ў машынабудаванні**

**Інстытут фізіка-арганічнай хіміі (т. 68-46-79)** — фізічная хімія*

**Інстытут агульнай і неарганічнай хіміі (т. 68-57-03)** — фізічная хімія*; калоідная хімія**

**Інстытут біяарганічнай хіміі (т. 64-85-53)** — біяарганічная хімія, хімія прыродных і фізіялагічна актыўных рэчываў*; біяхімія*

**Інстытут геалагічных навук (т. 64-41-62)** — агульная і рэгіянальная гідрагеалогія**; геамарфалогія і эвалюцыйная геаграфія**

**Інстытут праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі (т. 64-20-33)** — тэхналогія і комплексная механізацыя тарфяной вытворчасці*; ахова навакольнага асяроддзя і рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў; хімічная тэхналогія паліва**

**Інстытут эксперыментальнай батанікі (т. 68-48-53)** — біяхімія; батаніка; фізіялогія раслін

**Інстытут фізіялогіі (т. 68-46-30)** — нармальная фізіялогія*

**Інстытут генетыкі і цыталогіі (т. 68-49-44)** — генетыка

**Інстытут фотабіялогіі (т. 68-53-57)** — біяфізіка*; біяхімія*; фізіялогія раслін*

**Інстытут мікрабіялогіі (т. 64-47-18)** — мікрабіялогія*

**Інстытут заалогіі (т. 68-51-92)** — энтамалогія*

**Інстытут радыебіялогіі (т. 64-73-47)** — радыебіялогія*

**Інстытут біяхіміі (Гродна, т. 33-56-83)** — біяхімія

**Інстытут лесу (Гомель, т. 53-53-89)** — лесазнаўства і лесаводства, лясныя пажары і барацьба з імі; лясныя культуры, селекцыя, насенняводства; лесаўпарадкаванне і лясная таксацыя

**Цэнтральны батанічны сад (т. 68-44-83)** — батаніка*

**Інстытут філасофіі і права (т. 68-59-25)** — анталогія і тэорыя пазнання*; філасофія рэлігіі**; філасофія навукі і тэхнікі*; сацыяльная філасофія; тэорыя права і дзяржавы, гісторыя права і дзяржавы, гісторыя палітычных і прававых вучэнняў; канстытуцыйнае права, дзяржаўнае кіраванне, адміністрацыйнае права; муніцыпальнае права; грамадзянскае права; сямейнае права, грамадзянскі працэс, міжнароднае прыватнае права; працоўнае права, права сацыяльнага забеспячэння**; прыродарэсурснае права, аграрнае права, экалагічнае права; крымінальнае права і крыміналогія, крымінальна-папраўчае права**

**Інстытут сацыялогіі (т. 68-48-65)** — эканамічная сацыялогія**; сацыяльная псіхалогія**; сацыяльная структура, сацыяльныя інстытуты і працэсы**; сацыялогія духоўнага жыцця**

**Інстытут эканомікі (т. 68-49-85)** — палітычная эканомія*; эканоміка і кіраванне народнай гаспадаркай*

**Інстытут гісторыі (т. 68-48-69)** — айчынная гісторыя; археалогія*

**Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (т. 68-53-81)** — этнаграфія, этналогія і антрапалогія**; фалькларыстыка**; тэатральнае мастацтва**; музычнае мастацтва**; кіно, тэле- і іншыя экранныя мастацтвы**; выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва і архітэктура**; антрапалогія**

**Інстытут мовазнаўства (т. 68-57-18)** — беларуская мова*; руская мова*

**Інстытут літаратуры (т. 68-57-20)** — беларуская літаратура

*ЗАЎВАГА: * прыём у аспірантуру толькі з адрывам ад вытворчасці,*

*** прыём у аспірантуру толькі без адрыву ад вытворчасці.*

***По даведкі звяртацца непасрэдна ў навуковыя ўстановы ці аддзел навуковых кадраў АН Беларусі: 220072, Мінск, працп. Ф. Скарыны, 66, тэл. 68-56-03, 68-44-38.***

**ООО «БЛ Трейд»**
***ЛИКВИДИРУЕТСЯ.***
**Претензии принимаются в течение двух месяцев по телефону (8-0172) 32-49-11.**

## ВІНШАВАННІ

Віншуем з днём нараджэння **Леаніда Харковіча.** Жадаем шчасця, радасці, здароўя.

**Бацька і ўсе родныя.**

***Анатолий из Речицы. С днем 55-летия!***

*Милый мой друг, несмотря на все твои недостатки, ты лучший из большинства, и я не краснею при мысли о том, что любила тебя.*

**Н. Г.**

***Шаноўны бацька Павел Сямёнавіч!***

Горача віншуем з 70-годдзем з дня нараджэння. Жадаем перш за ўсё моцнага здароўя і спакойнага жыцця.

**Сяргей, Ала і Андрэй Шаўцовы.**

АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ОЙ, У ПОЛІ ТРЫ КРЫНІЧАНЬКІ

*Палавіна тых садоў цвіла,*
*Палавіна асыпалася.*
*Палавіна ажанілася,*

Што й зроду не відалася, — з затоеным сумам, але з усмешкаю, сціплай, крыху засмучанай, спяваюць дзяўчаты і маладзіцы, а разам з імі і хлопцы, на Гарадзеншчыне. Спяваюць — і ў памяці ўзнаўляюцца імгненні, напоўненыя невымоўнымі пачуццямі, палымянай страсцю, успамінаюцца бяссонныя ночы, трывожныя дні.

На Украіне, дзе таксама шырока бытуе гэтая песня (вельмі блізкая па зместу і мелодыяй да беларускіх варыянтаў), пра далейшы лёс закаханых выказваецца больш выразна:

*Адна пара та й венча тся,*
*А другая разлучаєтся.*

Чаму ж нам, народжаным для любові, для тварэння хараства, даводзіцца жыць мо і ў згодзе, але не па любві? Чаму на духоўным узроўні застаёмся адзінокімі?

Не, не доля такая нам выпала. І не наканаванасць прыродная. Мы самі творым свой лёс, самі ствараем умовы для любові і смутку, самі парушаем гармонію ў адносінах. У пошуках асабістага задавальнення часта заводзім у зман і сябе, і акружаючых. Як нельга адначасова з трох крыніц браць ваду, так і нельга адначасова любіць некалькі асоб, прыносіць аднолькавыя пачуцці. Воляй-няволяй мы разгаліноўваемся, раз'ядноўваем свае пачуцці, памкненні, надзеі, а потым усё жыццё будзем імкнуцца наладзіць адносіны, зрабіць іх трывалымі. За нашу неўтаймаванасць, якая больш за ўсё выяўляецца на фізічным узроўні, даводзіцца пакутаваць духоўна да канца дзён. Нішто не праходзіць бясследна.

Якраз у тым варыянце песні (яго выконвае Дзяржаўны народны хор Беларусі), дзе прыгадваюць «руду ды паганую» (сустракаецца выраз «рыжу кучаравую» — так пазначана на нотах), узнаўляецца распаўсюджаная з'ява: для жартаў, пацехі, фізічнага замілавання хлопцы выбіралі не надта прывабную дзяўчыну ці маладзіцу, што страціла надзею мець кавалера. Хлапечыя заляцанні парушалі гарманічнае адзінства, усталяванае прыродай. Ці не тут — у самы светлы перыяд існавання асобы, у маладосці — пачынаўся яе душэўны разлад?! Гэты разлад накладваў адбітак на адносіны грамады — і яна была ўжо не здольна ўспрыняць пачуццёвае выпраменьванне закаханых: «Не едзь, мілы, у далёкі край, Бо застанеш маладзіцаю», — гучыць не толькі як просьба, але і як прадбачанне, і як дзявочае прымірэнне з жыццёвымі абставінамі.

Спяваюць дзяўчаты, хлопцы пра чужы лёс, пра сустрэчы і ростані — а ў душы і светлы ўспамін, і боль за спраўджанае і няспраўджанае.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




*Ой, у полі тры крынічанькі.*
*Любіў хлопец тры дзяўчынанькі:*
*Чарнявую, бялявую,*
*Трэцю русу кучаравую.*
*— Чарнявую ад душы люблю,*
*З бялявая павянчаюся,*
*А з русаю кучараваю —*
*Прыйдзе вечар — развітаюся.*
*— Ці ж я табе не прыказвала,*
*Як стаялі над крыніцаю:*
*Не едзь, мілы, у далёкі край,*
*Бо застанеш маладзіцаю.*
*— Любіў я цябе дзявіцаю,*
*Любіць буду маладзіцаю.*
*Датуль цябе любіць буду.*
*Пакуль вазьму удавіцаю.*
*Не ўсе ж тыя ды сады цвітуць,*
*Не ўсе разам асыпаюцца.*
*Не ўсе ж тыя да шлюбу йдуць,*
*Што любяцца ды кахаюцца.*
*Палавіна тых садоў цвіце,*
*Палавіна асыпаецца.*
*Палавіна да шлюбу йдзе,*
*Што да шлюбу і не знаецца.*



СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

## КРЫПТАГРАМА

Карыстаючыся ключавымі словамі, падстаўце замест лічбаў у клеткі малюнка адпаведныя літары і прачытайце жартоўную прымаўку.

а) 14, 6, 13, 3, 11 — лугавая або балотная расліна з жоўтымі кветкамі,

б) 10, 15, 4, 12, 1 — балотная птушка атрада галянастых,

в) 2, 12, 9, 5, 14 — футалар для розных рэчаў,

г) 7, 5, 14, 8 — дахавы будаўнічы матэрыял.




**Склаў Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ.**
*г. Мінск.*

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**КРЫЖАВАНКА (15 чэрвеня). Па гарызанталях і вертыкалях:** 1. Кадрыля. 2. Гарбатаў. 3. Пукст. 4. Манеж. 5. Гальвані. 6. Семінар. 7. Каравул. 8. «Салавей». 9. Кале. 10. Каюр. 11. Арабеска. 12. Апельсін. 13. Эліта. 14. «Федра». 15. Дыярама. 16. «Вараг». 17. Маска. 18. Марля. 19. Аўтабіяграфія. 20. Плакіравальня. 21. Лесасека. 22. «Наутылус». 23. «Эрмітаж». 24. Перавал. 25. Прэса. 26. Старт. 27. Трап. 28. Рэпа. 29. Бусел. 30. Кеглі. 31. Эрзац. 32. Біясфера. 33. «Партызан». 34. Паскаль. 35. Фамусаў.

**КРЫПТАГРАМА (15 чэрвеня).** Ключавыя словы ў ёй: дзёгаць, Іўе, Парыж, вясна, шлем. А зашыфраваныя словы такія: «Зямля запрашае гаспадара не на дзень і не на два — на ўсё жыццё».

ПРАЦЯГ СКАНДАЛУ

# МАЦІ ХОЧА ЕХАЦЬ У ТУРЦЫЮ, КАБ ЗАБРАЦЬ СВАЮ ДАЧКУ З ПЯЦІЗОРКАВАГА ГАТЭЛЮ

**17 мая «Звязда» расказала аб тым, як адбывалася на Гродзеншчыне вярбоўка нашых суайчынніц для работы «афіцыянткамі» ці «пасудамыйкамі» ў краінах далёкага замежжа. Але, аказваецца, існуе яшчэ і такі спосаб заробку, як танцы. Зямля беларуская багата на таленты, што яскрава засведчыў нядаўна прайшоўшы ў Гродне Першы фестываль нацыянальных культур. Аднак за ўдзел у фестывалі долары не плацяць. Іншая справа замежны гатэль, і не абы- які — шыкоўны, пяцізоркавы.**

Менавіта туды паехала па кантракту маладая жыхарка Прынёманскага краю. А яе маці вось ужо некалькі тыдняў не можа знайсці сабе месца, страціла сон. Усе думкі круцяцца толькі ў адным напрамку — што з дачкой? Ці выключна з танцамі звязана яе работа ў Турцыі? Калі яна вернецца дамоў?

Аляўціна Іосіфаўна (па зразумелых прычынах, імя і імя па бацьку гэтай жанчыны зменены) спачатку ўспрыняла словы дачкі аб тым, што яна мае намер патанцаваць у Турцыі як жарт. Але ўжо назаўтра Марына (сапраўднае імя таксама іншае), вярнуўшыся з работы, паставіла маці перад фактам, яна сёння ж ад'язджае ў Мінск, а затым адлятае ў Стамбул. «А як жа муж, дзіця?» — не верачы сваім вушам, прамовіла Аляўціна Іосіфаўна. «Усё ў парадку» — быў адказ. Муж, маўляў, у курсе справы, падтрымлівае Марынін бізнес, дзіця застанецца з ім. Такім чынам, няма чаго хвалявацца.

«Чаму я тады не парвала яе загранпашпарт?» — дакарае цяпер сябе Алеўціна Іосіфаўна. Але, з іншага боку, кожны дарослы чалавек сам гаспадар свайго лёсу. Вось і ў гэтым выпадку не было ніякага прымусу, ніхто не цягнуў Марыну на чужыну сілком. Хаця, вядома, у адзіночку гэты «нумар» правярнуць немагчыма, патрэбны памагатыя. Хто ж яны? Паводле звестак, якімі валодае на сённяшні дзень Аляўціна Іосіфаўна, на зроблены дачкой крок паўплывала яе сяброўка, з якой яны калісьці разам танцавалі ў ансамблі. Гэта сяброўка ўжо паспела папрацаваць у Турцыі. «Яна высахла там, як шчэпка» — гаворыць Аляўціна Іосіфаўна. Тым не менш, беларуская танцоўшчыца зноў збіраецца па «зялёныя», на пару з больш вопытнай сяброўкай едзе і Марына. Перад адлётам за мяжу яна патэлефанавала дамоў і паведаміла, што ідуць рэпетыцыі, «ёсць тут яшчэ дзяўчаты». Як зразумела Аляўціна Іосіфаўна з кароткай размовы, у Мінску ёсць нейкая фірма, якая займаецца пастаўкай танцоўшчыц у турэцкія гатэлі. Аднак, пачуўшы ад маці, што яна збіраецца прыехаць у Турцыю, каб паглядзець на гэтыя танцы, дачка расплакалася. Маўляў, толькі не гэта. Дзіўна неяк, калі ўсё законна і прыстойна — чаго палохацца?

Ужо з Турцыі Марына патэлефанавала мужу. З яе слоў вынікала, што сваім новым заняткам яна цалкам задаволена — гатэль першакласны, харчаванне добрае. Аднак на той момант Аляўціна Іосіфаўна ўжо ведала і іншае. Ёй удалося сустрэцца з адной дзяўчынай, якая тры месяцы адтанцавала ў турэцкім гатэлі, застаўшыся, мякка кажучы, далёка з не лепшымі ўспамінамі. Па словах гэтай дзяўчыны, самі танцоўшчыцы сваім лёсам па сутнасці не распараджаюцца, бо кантракт за ўсю групу падпісвае адна асоба з фірмы. Едуць у Турцыю па турыстычных ваўчэрах, якія сапраўдныя на працягу 28 дзён. «Камандзіроўка» разлічана на большы тэрмін, у сувязі з чым становішча беларускіх танцоўшчыц на чужыне даволі рызыкоўнае. Можна ў любы момант сутыкнуцца з вельмі сур'ёзнымі непрыемнасцямі, асабліва калі работадаўца забярэ ў цябе пашпарт. У гэтай сітуацыі чалавек у чужой краіне ўжо поўнасцю бяспраўны.

Тры месяцы ў чатырох сценах — ведалі б вы, як гэта ціснe на псіхіку, — расказвала дзяўчына. — Не лічаць там цябе за чалавека. Больш не паеду.

Пра сваю работу ў гатэлі танцоўшчыца паведаміла няшмат, аднак у Аляўціны Іосіфаўны склалася ўражанне, што толькі танцамі не абмяжоўвалася. Зрэшты, у любым выпадку (мае месца гандаль целам альбо не) узнікае заканамернае пытанне: дзе гарантыя, што з Марынай і да яе падобных не здарыцца бяда? І ўвогуле, як наконт прававой абароненасці беларускіх грамадзян у Турцыі?

Аляўціна Іосіфаўна патэлефанавала ў дыпламатычнае прадстаўніцтва гэтай краіны ў Мінску. Там адказалі, што беларускага пасольства ці консульства ў Турцыі няма. Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў консульска-прававым аддзеле Міністэрства замежных спраў Беларусі, рашэнне аб адкрыцці нашага пасольства ў Турцыі было прынята некалькі гадоў назад, аднак пакуль не выканана. Магчыма, гэта звязана з фінансамі. Да каго ж беларускаму грамадзяніну звярнуцца па дапамогу ў крытычнай сітуацыі? Ёсць адпаведныя дамоўленасці з расійскім пасольствам у Турцыі. Аднак нейкага афіцыйнага дакумента на гэты конт не існуе. А значыць, шанцаў на тое, што чалавек не застанецца ў чужой краіне сам-насам з бядой, няшмат.

... Аляўціна Іосіфаўна ў роспачы. «Паеду ў Турцыю, — гаворыць яна, — буду шукаць там сваю дачку». Але як адшукаць?

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**22 чэрвеня 1195 года** полацкія князі пачалі барацьбу супраць смаленскага князя Давыда Расціслававіча, палачане разграмілі яго войска.

**22 чэрвеня 1898 года** нарадзіўся Эрых Марыя Рэмарк, нямецкі пісьменнік. Антыфашызм і пацыфізм, пошук апоры ў дружбе, франтавым сяброўстве і каханні адлюстраваны ў раманах «На Заходнім фронце без перамен», «Тры таварышы», «Трыумфальная арка», «Час жыць і час паміраць».

**У чэрвені 1918 года**, у час грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі, на неакупіраванай тэрыторыі Беларусі пачаліся антысавецкія выступленні насельніцтва ў Оршы, Горацкім, Клімавіцкім, Чэрыкаўскім, Сенненскім, Віцебскім і Полацкім паветах.

**22 чэрвеня 1941 года** з нападу фашысцкай Германіі на СССР пачалася Вялікая Айчынная вайна.

### Народны каляндар

Гэтымі днямі — з 19 па 23 чэрвеня — нашы продкі адзначалі славянскае свята *русалій*, прысвечанае русалкам, дзевам водаў, імя якіх роднаснае слову «раса». Старажытнае імя русалак — «берагіні»: некалі яны не тапілі, а аберагалі чалавека на вадзе і ратоўвалі тых, хто тануў, выносячы іх на бераг.

### Цікава

***Летняе сонцастаянне — крытычны пункт у гараскопе нашай краіны, адзначаны пачаткам дзвюх буйных войнаў: 1812 і 1941 гадоў.***

Для абедзвюх войнаў было характэрна злучэнне Плутона з Хіронам, якое адлюстроўвае ўдзел у падзеях усяго народа. Бліжэйшы такі аспект прыпадае на канец 1999—2000 год. Напалеон пачаў баявыя дзеянні 24 чэрвеня, у цяжкі момант апазіцыі Сонца да Сатурна, што прадказвае няўдачу любому пачынанню. Пачатак вайны з Гітлерам адзначаны злучэннем Урана з Сатурнам і апазіцыяй Марса да Нептуна, што падкрэслівала ідэалагічны характар вайны.

### Традыцыі

***З далёкага мінулага дайшлі да нас звычкі, абрады, першапачатковы сэнс якіх згубіўся ў стагоддзях.***

Яшчэ зусім нядаўна іншаземцаў здзіўляла ў нас такая «непрыемнасць», як звычка цалавацца ў абедзве шчакі. Між тым, гэта старадаўні славянскі спосаб выказвання прыязнасці, пажаданне захавацца, засцерагчыся, ацалець, аб чым сведчыць корань «цал» у слове пацалунак.

Нярэдка, калі кажуць аб пажары, выкарыстоўваюць выраз «пусціць чырвонага пеўня». Нашы продкі верылі, што певень — прарочая птушка, здольная прадказваць будучае.

Мноства розных умоўнасцей звязана з соллю. Да гэтага часу лічыцца, што калі за сталом рассыпаць соль — будзе сварка. Продкі нашы папярэджвалі такія «саляныя сваркі», перакідваючы соль цераз плячо. Перадаючы сальніцу за сталом, трэба было абавязкова рассмяяцца, каб зноў жа пазбегнуць сваркі.

### Што ў імені маім

**АГНІЯ — старадаўняе славянскае імя, якое азначае: чысціня, нявіннасць.**

Гэта вельмі прынцыповыя жанчыны, са складаным характарам. Вельмі таленавітыя, прагматычныя, нічога не зробяць не падумаўшы. Звычайна яны лепшыя вучаніцы — з тых, каго заўсёды ставяць у прыклад іншым. Знешне вельмі падобныя на маці. Дамаседкі. Захапляюцца сімфанічнай музыкай, надзелены вытанчаным густам. «Зімовым» Агніям вельмі часта не шанцуе ў асабістым жыцці і часта сваю жыццёвую дарогу яны заканчваюць у адзіноце. У старасці шмат хварэюць, асабліва іх турбуюць сэрца і хворыя ногі.

Агніі хутка сходзяцца з людзьмі і нялёгка расстаюцца з імі. Па сэрцу і па характару ім будуць тыя, каго завуць Леў, Міхаіл, Раман, Сяргей, Руслан, Барыс, Віктар. А вось Кірыл, Уладзіслаў, Эдуард ім не падыдуць.

### Беларускі народны анекдот

*Поп з работнікам грэблі сена. Прынеслі ім абедаць: папу бутэльку малака, а работніку бутэльку вады.*

*Паабедалі яны і пайшлі зноў грэбці. Поп жа грабе сена ў капу, а работнік у ваду.*

*— Што ты гэта робіш? Куды грабеш? — пытаецца поп.*

*— А, бацюшка, ты грабеш сваёй кароўцы, а я сваёй.*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 3116.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.